УДК 811.161.3 + 821.161.3 + 94(476)
ББК 81.411.3 + 83.3(2 Беи) + 63.3(2=Беи)
Л48

**Лепешаў, І.Я.**
Л 48 Дзіўна, але факт...: зб. артыкулаў / І.Я. Лепешаў. – Гродна: Ламарк, 2010. – с.

У гэтым навукова-папулярным выданні змешчаны некаторыя, актуальныя і сёння, артыкулы, нарысы, нататкі, рэцэнзіі мовазнаўчай, літаратуразнаўчай і гістарычнай тэматыкі, апублікаваныя за апошнія два гады ў перыядычным друку – пераважна ў газетах і часопісах. Тэксты, змешчаныя ў рускіх выданнях, і тут падаюцца паруску.

Для шырокага кола чытачоў.

УДК 811.161.3 + 821.161.3 + 94(476)
ББК 81.411.3 + 83.3(2 Беи) + 63.3(2=Беи)

## ПРА АЎТАРА ГЭТАЙ КНІГІ

Іван Якаўлевіч Лепешаў – доктар філалагічных навук, прафесар кафедры беларускай мовы Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Яго, у меру патрабавальнага і ў меру паблажлівага, паважаюць і любяць студэнты. Ён хутка знаходзіць з імі агульную мову.

Нарадзіўся ён 23.10.1924 года на Віцебшчыне, у вёсцы Іскозы Дубровенскага раёна. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Двойчы паранены. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны, медалямі «За адвагу», «За баявыя заслугі» і іншымі. Пасля заканчэння Аршанскага настаўніцкага інстытута шмат гадоў настаўнічаў на Гродзеншчыне. Працуючы ў Берштаўскай СШ Шчучынскага раёна, апублікаваў у выдавецтве «Народная асвета» дзве кнігі, напісаў кандыдацкую дысертацыю. Узнагароджаны знакам «Выдатнік народнай асветы». З 1971 года – у Гродзенскім педінстытуце (універсітэце).

Іван Якаўлевіч вельмі многа піша і друкуецца. На творчым рахунку прафесара 560 публікацый. Сярод іх 42 кнігі. Амаль усе напісаны аднаасобна. Гэта манаграфіі, слоўнікі, навучальныя дапаможнікі (9 – з грыфам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь). Дарэчы, ягоныя кнігі выходзілі ў 11 выдавецтвах краіны, а артыкулы друкаваліся ў 19 беларускіх, рускіх і ўкраінскіх часопісах, у 20 беларускіх, рускіх і польскіх газетах.

Доктарскую дысертацыю Іван Якаўлевіч абараніў у 1985 г., а пасля гэтага зрабіў у навуцы тое, чаго хапіла б не на аднаго доктара філалагічных навук. Без перабольшання могуць быць прыраўнаваны да доктарскай дысертацыі яго манаграфія «Фразеалогія сучаснай беларускай мовы», «Слоўнік фразеалагізмаў у двух тамах» (па 700 с. кожны), «Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў» (448 с.). Другая, несумненна, магчымая доктарская дысертацыя – манаграфія «Парэміялогія як асобны раздзел мовазнаўства» і «Слоўнік беларускіх прыказак» (каля 600 с.). Яшчэ адна – тры кнігі пра лінгвістычны аналіз мастацкага тэксту, выдадзеныя ў рэспубліканскіх выдавецтвах. Апрача таго, па гэтых трох актуальных навуковых тэмах аўтар апублікаваў каля 200 артыкулаў. Між іншым, названыя вышэй слоўнікі (яны выйшлі ў выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя») ахарактарызаваны ў друку як фундаментальныя працы, якімі мог бы ганарыцца цэлы творчы калектыў.

У многіх іншых кнігах І.Я. Лепешава таксама распрацоўваюцца новыя, нікім не чапаныя або спрэчныя навуковыя тэмы. Напрыклад, пра яго кнігу «Спрэчнае ў мовазнаўстве» прафесар М.Р.

Прыгодзіч у «Весніку БДУ» пісаў, што яна «мае выключнае значэнне для далейшай каардынацыі і ўніфікацыі розных лексіка-граматычных форм, перагляду і ўнясення ўдакладненняў у акадэмічныя і школьныя граматыкі, вучэбныя дапаможнікі і інш.».

Іван Якаўлевіч не абмяжоўваецца толькі лінгвістычнай тэматыкай, выходзіць за яе межы. Ёсць у яго цудоўныя, пазнавальныя літаратуразнаўчыя, гістарычныя, краязнаўчыя артыкулы. Некаторыя з іх, надзённыя, цікавыя, бескампрамісныя, з відавочнай грамадзянскай пазіцыяй іх аўтара, напісаныя ў два апошнія гады, змешчаны і ў гэтай кнізе – у раздзелах «Літаратура», «Гісторыя».

Відаць, варта яшчэ дадаць, што ва ўніверсітэце працуюць шэсць выкладчыкаў, якія абаранілі кандыдацкія дысертацыі пад кіраўніцтвам І.Я. Лепешава.

***М.А. Якалцэвіч,***
***дацэнт кафедры беларускай мовы***
***ГрДУ імя Янкі Купалы***

## РАЗДЗЕЛ 1. ЛІТАРАТУРА

### ПРА ВЕРШ ЯНКІ КУПАЛЫ «НЕ ПЛЮЙ У КАРЫТЦА...»

«Вывучэнне мастацкага твора, яго мовы, зместу, – пісаў акад. В. У. Вінаградаў, – павінна абапірацца на глыбокае разуменне грамадскага жыцця адпаведнага перыяду ў развіцці народа». І яшчэ: «Гістарызм – аснова правільнага, навуковага разумення з'яў». У найбольшай ступені гэта адносіцца да твораў, час напісання якіх аддалены ад нас дзесяцігоддзямі.

У такіх творах нярэдка можа ўпамінацца якое-небудзь імя, факт, падзея. Для чытача, аўтаравага сучасніка, аднаго гэтага ўпамінання магло быць дастаткова, каб зразумець, што ці каго меў на ўвазе пісьменнік, на што намякаў. Праз некалькі дзесяцігоддзяў гэтыя імёны, факты, падзеі могуць аказацца забытымі, незразумелымі для чытачоў новага пакалення. А каб правільна асэнсаваць твор, патрэбна разумець усе дэталі яго зместу. Таму пры аналізе такіх твораў яго істотным кампанентам павінен быць так званы рэальна-гістарычны каментар, г.зн. тлумачэнне забытых імёнаў, фактаў, падзей, якія ўпамінаюцца ў творы, расшыфроўка магчымых аўтарскіх намёкаў, паказанне крыніц літаратурных і іншых яўных і прыхаваных цытат і г.д.

Менавіта такога каментавання патрабуе верш Янкі Купалы «Не плюй у карытца...» Гэта абумоўліваецца яшчэ і тым, што верш, напісаны 15 студзеня 1922 года, ні пры жыцці паэта, ні ў яго пасмяротных выданнях не друкаваўся. Упершыню ён пабачыў свет толькі ў 2003 г. – у Поўным зборы твораў (т. 9, кн. 2, с. 7-8). У невялікім каментары (с. 376) адзначаецца, што верш друкуецца і датуецца па белавым аўтографе, які захоўваецца ў Дзяржаўным літаратурным мемарыяльным музеі Янкі Купалы, і што ў музеі ёсць і чарнавы аўтограф, а тэкст твора выяўлены Янкам Саламевічам. Невядома толькі, якім чынам верш трапіў у музей, хто перадаў яго туды. І ў аўтографах, і ў цяперашняй публікацыі пасля загалоўка верша пазначана ў дужках: *Прыпеўкі*. У памянёным каментары чытаем: «Паводле ідэйнага зместу і даты напісання прыпевак можна меркаваць, што яны прызначаліся для п'есы «Тутэйшыя». Прыпеўкі маглі быць агучаны ў час першай і адзінай яе пастаноўкі на сцэне БДТ-1 (лістапад 1926 г.)». Але наўрад ці можна згадзіцца з такім меркаваннем, бо верш напісаны 15 студзеня, а трагікамедыю «Тутэйшыя» Я. Купала закончыў праз 8 месяцаў – 31 жніўня 1922 г. Незразумела: у якіх дзеях п'есы і хто (Янка Здольнік з Аленай або

Ганулі з Гарошкам ці, можа, Мікіта Зносак?) павінен быў агучваць гэтыя прыпеўкі? Да таго ж у 1926 г., як будзе паказана далей, Беларусь мела ўжо не «пяць паветаў» (пра іх гаворыцца ў Купалавым вершы), а 23. Не было гэтых прыпевак і ў тэксце «Тутэйшых», у першай публікацыі п'есы (Полымя. 1924, №№ 2, 3).

Думаецца, Янка Купала, напісаўшы гэты верш, даверліва даваў яго чытаць сваім сябрам (сведчанне М.М. Улашчыка), але нават і намеру не меў здаваць у друк, бо асцерагаўся чэкістаў, ведаў, што яны сочаць за кожным ягоным крокам. Як цяпер вядома з рассакрэчаных чэкісцкіх дакументаў, гэтыя «органы» нязменна фіксавалі, што Я. Купала «на ўсім працягу сваёй літаратурнай дзейнасці ў большасці твораў займае варожую пазіцыю супраць Савецкай улады». І не толькі ў «літаратурнай дзейнасці». Так, пасля таго як у лістападзе 1926 г. прайшла Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі, кіраўнік беларускіх чэкістаў І. Апанскі даносіў у Маскву шмат чаго негатыўнага пра паводзіны Купалы на канферэнцыі; напрыклад, на пытанне госця з-за мяжы, чаму ён, Купала, цяпер мала піша, «апошні адказаў: «Дурань ты, ці ж можа пяяць салавей, калі яго пасодзяць у клетку, але будзе час, што гэты салавей яшчэ запяе» (Летапіс жыцця і творчасці // Янка Купала. Поўны збор твораў: у 9 т. Т. 9, кн. 2, с. 246, 180).

Звернемся да самога верша. У ім пяць васьмірадковых строфаў. Кожная з іх завяршаецца рэфрэнам-прыказкай: «Не плюй у карытца – прыдасца напіцца». Вось тры апошнія страфы (яны маюць патрэбу ў рэальна-гістарычным каментаванні):

Зямлі нам надалі
І нашай, і дворнай,
Надалі, а далей –
Нам штось не прасторна.
Зямлі і свабоды
Ужо нам замала...
Якой жа выгоды
Яшчэ не ставала?!
Не плюй у карытца –
Прыдасца напіцца.

Бах, нашу Айчыну
Без нашае волі,
Як тую аўчыну
Ў шматкі папаролі.
А нам чужы статут
Паднёс пяць паветаў, –

Жыві і ўладай тут!
Ну, дзякуй за гэта!..
        Не плюй у карытца –
        Прыдасца напіцца.
І «польскі», і «рускі»,
І ўсякі чорт іншы
На сказ беларускі
Плюе, не купіўшы –
Каб нам, беларусам,
І немач, і ліха...
А мы што? – пад вусам
Бармочама сціха:
        Не плюй у карытца –
        Прыдасца напіцца.

Чаму «нам штось не прасторна»? Якой «выгоды яшчэ не ставала»? Хто «нашу Айчыну ў шматкі» папароў? Пра якія «пяць паветаў» ідзе гаворка? Каб адказаць на гэтыя і іншыя пытанні, неабходна зрабіць экскурс у гісторыю, звярнуцца да «адпаведнага перыяду ў развіцці народа» (В.У. Вінаградаў).

У 1917-1920 гг. на тэрыторыі Беларусі змяняліся адна за другой пяць, як казаў Мікіта Зносак, палітычных сітуацый. Чатыры з іх так характарызуюцца ў артыкуле Я. Купалы «Больш самачыннасці», напісаным падчас польскай акупацыі і апублікаваным 22 кастрычніка 1919 г. у газеце «Беларусь», якую падтрымлівала кіраўніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі:

«Рэвалюцыя змяла ў сваім ходзе цара, панясліся ў свет новыя воклікі будавання новага незалежнага жыцця ўсім народам. А мы як бы нішто і ні ў чым. Пасля царскіх чыноў прыйшлі бальшавіцкія чыны не горш ад сваіх папярэднікаў, прыйшлі і павялі сваю гаспадарку ў нас, а мы глядзелі і чакалі, што нехта прыйдзе ды бальшавікоў прагоніць. І прычакалі.

Прыйшлі немцы, бальшавікі ўцяклі, мы асталіся. Немец гаспадарыў, як хацеў, над намі, над нашым дабром – не горай нават ад царскіх і бальшавіцкіх гаспадароў, а мы што рабілі? Мы сядзелі і чакалі, злажыўшы рукі, і чакалі нейкага цуду, які з'явіцца і забярэ нашае ліха. І дачакаліся...

Прыйшлі ізноў бальшавікі, а немцы ўцяклі, толькі мы сядзім на месцы. Бальшавікі навялі свае парадкі і гаспадарку, нягледзячы на тое, ці смачна нам гэта, ці не смачна. Пайшлі саветы, камітэты, выбары, перавыбары і г.д. А ў рэзультаце што ж? Пастаўленыя намі

(як нам гаварылі) нашы саветы пачалі нешта такое разводзіць, што нам цяжка было дыхаць. І мы стагналі, уздыхалі і чакалі.

Прыйшлі палякі, уцяклі саветы, камітэты і чразвычайка, а мы ізноў сабе сядзім і чакаем. Праўда, мы, як гаспадары гэтай зямлі, мусім сядзець на ёй. Але як мы гаспадарым на ёй?

Ці не час ужо пакінуць благую прывычку сядзець і сядзець, чакаць і чакаць?..»

Да лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. наша тэрыторыя называлася Паўночна-Заходнім краем, а пасля стала Заходняй вобласцю РСФСР. Калі нямецкія акупанты ў снежні 1918 г. пакінулі беларускія землі, бальшавіцкія ўлады Расіі, разагнаўшы кіраўнікоў Беларускай Народнай Рэспублікі, сталі тэрмінова ствараць БССР. 1 студзеня 1919 г. у Смаленску быў абнародаваны Маніфест аб абвяшчэнні БССР. І гэта дыктавалася не надзённымі інтарэсамі беларускай нацыі, не імкненнем стварыць найбольш спрыяльныя ўмовы для развіцця эканомікі і культуры беларускага народа, а міжнароднымі абставінамі. У «Нарысах гісторыі Беларусі» (частка 2, 1995, с. 67) слушна сказана, што ваенна-палітычнае становішча РСФСР «патрабавала ўтварэння БССР, каб зачыніць тым самым акно для пранікнення імперыялістычных сіл непасрэдна на тэрыторыю Расіі». Ужо праз паўтара месяца (16.02.1919 г.) ЦК РКП(б) прыняў рашэнне далучыць тры ўсходнія беларускія губерні да Расіі, а рэшткі Беларусі аб'яднаць з Літвой. Ленін (гэты, паводле Маякоўскага, «самы чалавечны чалавек») растлумачыў беларускім кіраўнікам, што рэспубліка Беларусь «патрэбна пастолькі, паколькі мяжуецца з іншымі краінамі. Смаленская, Віцебская, Магілёўская губерні з іншымі краінамі не мяжуюцца, таму іх можна вылучыць» (Нарысы..., с. 68). Як бачым, Беларусь у бальшавіцкім разуменні не нацыя, а разменная манета[1].

У тыя гады ліхалецця Беларусь была ў становішчы паміж молатам і кавадлам. Я. Купала пісаў у артыкуле «Незалежнасць» (Беларусь. 1919, 28 ліст.): «Наша незалежнасць соллю ўваччу нашых суседак – Польшчы і Расіі, бо і адна, і другая хацелі б нашу незалежнасць утапіць у лыжцы вады сваёй незалежнасці. Для адбудавання вялікай Польшчы «ад мора да мора» трэба пераступіць Беларусь; для адбудавання вялікай Расіі ад Белага да Чорнага мора таксама трэба

[1] У.І. Ленін у адным з артыкулаў ужо савецкага часу пісаў: «Разграничение наций в пределах одного государства вредно. Мы, марксисты, стремимся сблизить и слить их. А так как слияние народов возможно только при ассимиляции нерусских народов в русском, значит, именно в этом и должна заключаться национальная политика большевиков» (цытуецца па кн.: Грицанов А.А., Тарас А.Е. Научный антикоммунизм и антифашизм. – Минск: ФУАинформ, 2010, с. 274).

растаптаць Беларусь». А ў трагікамедыі «Тутэйшыя» просты люд разважае так: «[Гарошка:] Польскія лаюць рускіх, рускія лаюць польскіх, а як прыйдзе што да чаго, каб нашага простага чалавека пакрыўдзіць, дык і польскія, і рускія ў адну дудку граюць. [Ганулья:] Ды яно ж гэтак, мой сваток. Каму па каму, а нам, казаў той, дык два камы».

Са жніўня 1919 г. да ліпеня 1920 г. Беларусь была пад уладай польскіх акупантаў, але характэрна, што яны не забаранялі выпуск беларускіх газет, дзейнасць улад БНР. Калі амаль чатырохгадовая развязаная бальшавікамі грамадзянская вайна ў Расіі блізілася да завяршэння, Чырвоная Армія пачала ваяваць з Польшчай. 11 ліпеня 1920 г. бальшавіцкае войска вызваліла Мінск. Да канца ліпеня яно не толькі заняло ўсе заходнебеларускія землі, але падышло да Варшавы. Меўся рашучы намер не спыняцца толькі на адной Польшчы, а дайсці, магчыма, і да Ла-Манша, напаіць чырвоных коней вадою Віслы, Одэра, Рэйна. У загадзе войскам Заходняга фронту гаварылася: «На захадзе вырашаецца лёс сусветнай рэвалюцыі. Цераз труп белай Польшчы ляжыць шлях да сусветнага пажару. На штыках панясём шчасце і мір працоўнаму чалавецтву. На захад!» У абозе наступоўцаў ужо везлі загадзя створаны ўрад для Польскай савецкай рэспублікі на чале з камуністамі Ю. Мархлеўскім і Ф. Дзяржынскім. Дарэчы, правадыр чэкістаў, гэты «Жалезны Фелікс», 1-2 жніўня спыняўся ў горадзе Гродна па дарозе ў Беласток, толькі што заняты савецкім войскам, пра што і сёння сведчыць мемарыяльная дошка на адным з будынкаў па вуліцы Ажэшкі.

Зусім нечакана для Чырвонай Арміі, што стаяла ў сцен Варшавы, здарылася падзея, названая палякамі «цудам над Віслай». 16 жніўня польскія войскі перайшлі ў контрнаступленне, прарвалі фронт і праз некалькі тыдняў амаль поўнасцю разграмілі тых, хто хацеў зноў загнаць польскі народ ў няволю, адкуль ён толькі што вырваўся. «У кароткі тэрмін фронт з-пад Варшавы перамясціўся да Мінска» (Нарысы..., с. 70). Пра гэты бясслаўны паход на польскую сталіцу (з крыкамі «Даешь Варшаву!») ёсць такія радкі ў паэме К. Крапівы «Шкірута»: «З паляка́мі меў я справу і ў адным паходзе слаўным чуць не ўзяў у іх Варшаву і чуць Мінска не аддаў ім». Па ўзаемнай згодзе ў кастрычніку быў падпісаны дагавор аб перамір'і, пачаліся перамовы аб міры.

Яшчэ да гэтых падзей 31 ліпеня 1920 г. у Мінску адбылося паўторнае абвяшчэнне незалежнасці нашай краіны. Была абнародавана «Дэкларацыя аб абвяшчэнні незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь» (у скарачэнні – гэта ССРБ). Між іншым, тады ў РСФСР была вялікая мода скарачаць састаўныя найменні.

Настаўніка, напрыклад, называлі *шкраб* (школьны работнік). Для Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Украіны існавала скарачэнне *ССРУ*, але праз пэўны час (з-за фанетычнага смуроду пры гукавым вымаўленні) зрабілі *УССР*.

У шматлікіх кнігах, падручніках, дапаможніках, артыкулах, звязаных з гісторыяй Беларусі, калі гаворка заходзіць пра памянёную вышэй «Дэкларацыю...», называюць гэта найвялікшай падзеяй у жыцці беларускага народа і, відаць, дыпламатычна замоўчваюць або знарок абыходзяць пытанне: а што ж тады ўяўляла сабой гэта ССРБ паводле сваёй тэрыторыі і колькасці насельніцтва? Нічога не гаворыцца пра тое, што гэта ССРБ, наша «Бацькаўшчына-маці», як называў яе Янка Купала, да 1924 г. была абрэзана з усіх бакоў. Заходняя Беларусь паводле Рыжскага дагавора 1921 г. адышла да Польшчы, а на ўсходзе мяжа з РСФСР праходзіла за Барысавам, ля Бабруйска і Мазыра. Складалася ССРБ з шасці няпоўных паветаў Мінскай губерні (у вершы Я. Купалы чамусьці «пяць паветаў»): Бабруйскі, Барысаўскі, Мазырскі, Чэрвеньскі, частка Мінскага і Слуцкага. Тэрыторыя ССРБ складала 52 398 квадратных кіламетраў з насельніцтвам крыху больш за паўтара мільёна чалавек, г.зн. яна была не нашмат большая за сучасную Гродзенскую вобласць па плошчы і колькасці жыхароў. Вось як «нашу Айчыну без нашае волі, як тую аўчыну ў шматкі папаролі». З душэўным болем і горкай іроніяй піша Я. Купала, як «нам чужы статут паднёс пяць паветаў, – жыві і ўладай тут! Ну, дзякуй за гэта!..»

Пытанне аб вяртанні нашай рэспубліцы ўсходніх спрадвечна беларускіх тэрыторый, беспадстаўна далучаных да РСФСР, «уздымалася дзеячамі культуры і беларускага нацыянальнага руху з пачатку 20-х гадоў. Улічваючы надзённасць, яго падтрымалі партыйныя і дзяржаўныя органы БССР... У канцы сакавіка 1923 г. VII з'езд Кампартыі Беларусі выказаўся за ўзбуйненне Беларусі» (Нарысы..., с. 104). Ёсць меркаванне, пацверджанае архіўнымі матэрыяламі, што асабліва падзейнічаў такі аргумент: стварэнне большай і моцнай Савецкай Беларусі «стане прыцягальным магнітам для насельніцтва Заходняй Беларусі ў яго нацыянальна-вызваленчай барацьбе» (НАРБ. Фонд 4, опись 1, дело 251, листы 2-15).

Нарэшце, у 1924 г. Беларусі былі вернутыя Крамлём 15 паветаў Віцебскай, Смаленскай і Гомельскай губерняў, а ў 1926 г. – Гомельскі і Рэчыцкі паветы. Дзіўна, але факт: у падручніках і дапаможніках па гісторыі Беларусі па-ранейшаму выкарыстоўваюць бальшавіцкія эўфемізмы «першае ўзбуйненне тэрыторыі БССР», «другое...» замест адзіна правільнага «вернутыя тэрыторыі». Тут

прыгадваюцца словы расійскай імператрыцы Кацярыны II: «Отторгнутое возвратихъ», – сказаныя зусім у іншым кантэксце.

У вершы «Не плюй у карытца...» ёсць радкі: «Зямлі нам надалі і нашай, і дворнай». Гаворка ідзе пра тое, што савецкія ўлады зрабілі ў 1920-1921 гг. размеркаванне памешчыцкіх і іншых зямель сярод беззямельных і малазямельных сялян.

Ёсць у вершы яшчэ некаторыя «маўленчыя цяжкасці», якія патрабуюць не столькі рэальна-гістарычнага каментавання, колькі лінгвістычнага аналізу. Слова *статут* у радках «А нам чужы статут паднёс пяць паветаў...» выкарыстана з няслоўнікавым значэннем і не можа быць заменена адным нейкім іншым словам. Сэнс гэтага слова шматпланавы, тут і «закон», і «ўлада», і «дзяржава», і, здаецца, намёк на іншыя статуты, што былі ў Вялікім Княстве Літоўскім. Дарэчы, звернем увагу на месца націску ў гэтым слове. Я. Купала ўжыў яго з націскам на першым складзе. Назоўнікі *статус, статус-кво, статут, статуя* аднолькавыя паводле сваёй этымалагічнай асновы, паходзяць ад аднаго і таго ж лацінскага кораня. І націск ва ўсіх чатырох словах прыпадае на першы склад. Менавіта так засведчана ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (1983, т. 5, кн. 1, с. 315), «Слоўніку беларускай мовы» (1987, с. 763). У некаторых жа даведніках паказана, што для слова *статут* характэрна акцэнтная варыянтнасць (*ста́тут* і *стату́т*): «Беларуска-рускі слоўнік» (1989, т. 2. с. 510), «Слоўнік іншамоўных слоў» А.М. Булыкі (1999, т. 2, с. 412). А яшчэ ў шэрагу слоўнікаў нарматыўным прызнаецца толькі адзін варыянт – з націскам на апошнім складзе (*стату́т*): «Руска-беларускі слоўнік» (1982, т. 2, с. 539: *уста́в – стату́т*), «Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы» Г.У. Арашонкавай і В.П. Лемцюговай (1987, с. 172), «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» (1996, с. 626), «Арфаграфічны слоўнік для школьнікаў» А.М. Булыкі (2000, с. 181). Дык як быць у такім разе сучаснаму носьбіту беларускай мовы? Якому акадэмічнаму слоўніку аддаць перавагу? Каму верыць? Як ацэньваць Купалава ўжыванне гэтага слова?

Выклічнік *бах* у радку «Бах, нашу Айчыну...» ужыты ў значэнні прыслоўяў-сінонімаў *знянацку, раптоўна, нечакана*.

У радках «І «польскі», і «рускі», і ўсякі чорт іншы на сказ[2] беларускі плюе, не купіўшы...» спалучэнне *не купіўшы*, выкарыстанае

[2] Пад спалучэннем *сказ беларускі* («на сказ беларускі плюе, не купіўшы») маецца на ўвазе неаднойчы паўтораная прыказка «Не плюй у карытца...» Паэт каламбурна, з сатырычнай завостранасцю, сутыкае прыказкавы кампанент *плюй* і дзеяслоў *плюе* (у значэнні ‘пагардліва ставіцца *да каго*, зусім не лічыцца *з кім*’).

для рыфмы са словам *іншы*, мае несумненную сувязь з фразеалагізмам *не купіць* (у каго чаго), які абазначае ‘каму-небудзь вельмі проста зрабіць што-небудзь дрэннае’. Напрыклад, у Я. Брыля: «А што ты думаў, – у іх гэтага не купіць, – возьме, гад, і заявіць». Ёсць і яшчэ адзін, крыху перайначаны выраз – *пад вусам* (у сувязі з рыфмай «беларусам») замест звычайнага *ў вус* ці *ў вусы*, што значыць ‘цішком і непрыкметна’. Напрыклад, у М. Лынькова: «Рабочыя прыглядаюцца здалёк, пасміхаюцца ў вусы».

Прыказка «Не плюй у карытца – прыдасца напіцца» ўжыта пяць разоў (і яшчэ скарочана ў загалоўку верша). Ёсць яна і ў «Тутэйшых» – у крыху змененай форме: «Ці не паспяшаліся, пане рэгістратар, пляваць у карытца – каб не прыйшлося напіцца». Гэта прыказка, як і яе больш пашыраны варыянт «Не плюй у калодзеж, прыйдзецца напіцца», абазначае «не рабі непрыемнасці, шкоду, бо гэтым можна ў далейшым пазбавіцца чыёй-небудзь дапамогі, падтрымкі». У вершы Я. Купалы яна, на фоне папярэдняй страфы, кожны раз набывае дадатковыя, амаль няўлоўныя сэнсавыя нюансы.

*Дзеяслоў. 2010. № 5 (48).*

## КАЛІ ВЕРЫЦЬ МІФАМ СТАЛІНСКАГА СТАЎЛЕНІКА ПАНАМАРЭНКІ, ТО МЕСЦА ДЛЯ ПРАЎДЫ НЕ ЗАСТАНЕЦЦА

«Міфы, – пісаў Васіль Быкаў, – прыемна ўражваюць, але наўрад ці наталяюць. Хутчэй, апустошваюць». Адзін з такіх міфаў – пра Панамарэнку-вызваліцеля, сталінскага анёла – пайшоў гуляць з кнігі Б. Сачанкі «Сняцца сны аб Беларусі...». Тут Барыс Сачанка ў форме ўспамінаў М. Лынькова перадае аповед П. К. Панамарэнкі, як той ратаваў ад арышту Я. Купалу, Я. Коласа, З. Бядулю, К. Крапіву, М. Лынькова, як вызваляў з турмы К. Чорнага. З гэтай жа кнігі Б. Сачанкі і іншых яго публікацый распаўсюдзіўся міф, як Купалу і Коласу ордары на арышт замянілі, дзякуючы Панамарэнку, ордэнамі Леніна.

Ужо шмат разоў у вусным і пісьмовым маўленні даводзілася сустракаць гэтую ж легенду пра замену ордараў на ордэны. Вось і ў «Народнай волі» за 6.01.2009 г. тое самае. Тут змешчаны вялікі матэрыял «З Коласава роду-племені». Адзін з раздзельчыкаў мае назву «Ордары памянялі на ордэны». Іван Белы, унучаты пляменнік Я. Коласа, расказвае журналісту, як у 1939 г. прыйшоў да Панамарэнкі Цанава з дакументамі, «з якіх вынікала, што самыя галоўныя ворагі савецкай улады ў Беларусі – Колас і Купала. Іх трэба арыштаваць і расстраляць... Але Панамарэнка, калі верыць яго мемуарам, вырашыў ратаваць Купалу і Коласа. Паехаў у Маскву, пачаў дамагацца прыёму

ў Сталіна. Лавіў момант, каб Сталін знаходзіўся ў добрым гуморы. Нарэшце Панамарэнку пашэнціла патрапіць да Сталіна. Партыйны лідар рэспублікі далажыў яму пра сваю нязгоду з пазіцый Цанавы. Той доўга моўчкі слухаў першага сакратара ЦК Кампартыі Беларусі, а потым каротка вымавіў у адказ: маўляў, добра, памяняем ордары на ордэны...»

Тут усё як у казцы. У гэтым міфе Панамарэнка (родам з Краснадарскага краю) паўстае, як анёл, а Сталін – як добры бог і збавіцель. На самай жа справе ўсё было інакш. Пра гэта адназначна сведчаць апублікаваныя ў першай палове 90-х гадоў сакрэтныя дакументы з фондаў былога партыйнага архіву. Чарговы сталінскі стаўленік у Беларусі П.К. Панамарэнка прыбыў з Масквы ў Мінск 18 чэрвеня 1938 года. За ліпень-жнівень, не без ведама гэтага самага высокага партыйнага кіраўніка, было арыштавана пяць з паловай тысяч чалавек. Праз месяц пасля прыезду ў Мінск Панамарэнка пасылае сакрэтную шыфроўку Сталіну, Яжову, Андрэеву: «... Дабіваюся разгляду ў несудовым парадку на асобай тройцы дзве тысячы па першай катэгорыі і тры тысячы па другой». Першая катэгорыя – гэта бальшавіцкі эўфемізм у сэнсе «расстрэл», а другая катэгорыя – дзесяць гадоў канцлагераў.

21 лістапада 1938 года Панамарэнка піша Сталіну вялізны сакрэтны ліст «О белорусском языке, литературе и писателях». Гэты жахлівы дакумент 15 кастрычніка 1993 года апублікавала на сваіх старонках «Літаратура і мастацтва». Панцеляймон Кандратавіч, у прыватнасці, нібы скардзіцца: «НКУС Беларусі запрасіў з цэнтра санкцыю на арышт Купалы і Коласа ўжо даўно, а санкцыя пакуль што не дадзена». Паведамляе «бацьку Сталіну», што маюцца шматлікія паказанні «выкрытых і арыштаваных ворагаў», якія абвінавачваюць Купалу і Коласа «аж да сувязяў з польскай дэфензівай. У дачыненні да Янкі Купалы ёсць 41 паказанне, у большасці прамыя; Якуба Коласа – 31 паказанне».

Яшчэ толькі некалькі ўрыўкаў з гэтага дакумента: «Янка Купала нядаўна сказаў: «Усе нашы карты біты, лепшыя людзі вынішчаны, трэба самому рабіць харакіры». (Ён ужо спрабаваў аднойчы пакончыць з сабой.) У другі раз ён пачаў скардзіцца (у сваім асяроддзі) на нястрымную тугу, на тое, што ніякай Беларусі ён не бачыць вакол сябе, што ён хутка памрэ з такім жа смуткам аб Беларусі, з якім пачынаў сваё жыццё ў маладосці... Янка Купала гаворыць, што тое, што ён пісаў пры Савецкай уладзе, не творчасць, а дрындушкі. Яны гавораць, што цяпер літаратура зведзена да ролі прыдатка, растлумачальнага ці ўсхваляльнага, што гэта не творчасць,

а ілюстрацыя. У літаратуры нельга нічога ставіць або вырашаць, бо партыя ўсё ўжо вырашыла на шмат гадоў наперад, план складзены, і ілюструй тое, што прайшло».

Кампрамат, як бачым, забойчай сілы. Але Панамарэнка разумеў тагачасную складанасць унутраных і міжнародных абставін і тое, што ён мае справу не абы з кім, а з Янкам Купалам і Якубам Коласам, якія «карыстаюцца папулярнасцю, праславілі іх вельмі моцна». Таму і просіць Сталіна даць параду «аб адносінах да пісьменнікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа». Сам жа выказваў дваякае меркаванне: «Іх трэба або арыштаваць, або, улічваючы абставіны, прыняць, пагаварыць шчыра, паказаць, што нам вядомыя ўсе іх «памылкі», калі гэта дапушчальна так назваць, сказаць, што яны могуць выкупіць сваю віну перад Савецкай уладай, калі ў якойсьці меры пойдуць на гэта, то скарыстаць у мэтах разлажэння групы, адрыву найбольш сумленных і ліквідацыі рэшткаў нацдэмаўшчыны». Відаць, Сталін палічыў найбольш прымальным гэты другі варыянт («скарыстаць у мэтах разлажэння групы»). Дарэчы, у наш час бальшавіцкую палітыку «бізуна і перніка» Рыгор Барадулін увасобіў у формулу «каго ў Ляўкі, каго на Салаўкі».

Газета «ЛіМ», публікуючы памянёны ліст, пісала, што гэты дакумент уносіць пэўныя карэктывы ў даволі распаўсюджаную версію аб ратаванні Панамарэнкам Купалы і Коласа.

Панамарэнка пісаў свой ліст 21 лістапада 1938 года, а Указ «Аб узнагароджанні савецкіх пісьменнікаў» апублікавалі 1 лютага 1939 года. Тут у ліку 172 асоб з усяго Савецкага Саюза былі і прозвішчы Купалы ды Коласа. Самі ж ордэны Леніна Купала і Колас атрымалі не ад Панамарэнкі, а з рук «усесаюзнага старасты» Калініна праз месяц пасля Указа.

Гэтыя ўзнагароды маюць сваю гісторыю. 26 снежня 1938 года, у сувязі з 20-годдзем БССР, у Крэмль было накіравана (за подпісам Панамарэнкі) хадайніцтва аб узнагароджанні 40 чалавек «за заслугі перад радзімай». Былі ў спісе Купала і Колас. На гэты раз Панамарэнка характарызаваў іх ужо як народных паэтаў рэспублікі, класікаў беларускай літаратуры, якія «за гады Савецкай улады напісалі шэраг выдатных савецкіх твораў». Аднак да дваццацігадовага юбілею БССР нікому не далі ордэнаў. Масавае ўзнагароджанне прадстаўнікоў з усіх савецкіх рэспублік прымеркавалі да «гістарычнай» даты – у гонар адкрыцця ХУІІІ з'езда ВКП(б). На пачатку лютага адзін за адным друкуюцца Указы аб узнагародах. Пасыпаліся ордэны пісьменнікам, работнікам кіно, метрабудаўцам, перадавікам сельскай гаспадаркі і г.д.

Як бачым, легенда пра тое, што «выратавальнай» дзейнасцю Панамарэнкі былі заменены ордары на ордэны, не вытрымлівае ніякай крытыкі.

Падобны міф бытуе і пра тое, як Панамарэнка вызваляў з турмы Кузьму Чорнага...

*Народная воля. 2009. 3 лют.*

*Загаловак папярэдняга артыкула – рэдактарскі (замест аўтарскага «Міфы... Да чаго ж яны жывучыя!..»*

## «ДОЛГИЕ ГОДЫ МЕНЯ МУЧИЛО ГПУ-НКВД»

24 июня 2010 года – 110 лет со дня рождения Кузьмы Чорного (1900 – 22.11.1944). В 12-томной «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі» в статье о Кузьме Чорном (1974, т. 11) нет даже упоминания о трагических страницах из жизни нашего выдающегося писателя, классика беларусской[3] литературы, который прожил всего 44 года. В нынешних же энциклопедиях («Беларуская Энцыклапедыя», т. 17, «Республика Беларусь», т. 7), а также в шеститомном библиографическом справочнике «Беларускія пісьменнікі» (т. 6) только и сказано, что К. Чорный в 1938 году был арестован, а в 1939 году выпущен на волю. По три-четыре строки о сталинских репрессиях по отношению к К. Чорному дают «Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя» (1999) и учебник для 11 класса «Беларуская літаратура» (1999). А вот более подробные сведения.

Под конец 1930-х годов из нескольких сотен беларусских писателей уцелело только 14 человек. Сталинский «хапун» не миновал и Кузьму Чорного. Хотя и не уничтожил его, как иных, но сломал великого человека, укоротил его жизнь. 13 октября 1938 г. К. Чорного арестовали, держали в камере-одиночке и выпустили из чекистских когтей только через 8 месяцев. А как издевались над ним, об этом он вспоминает в своем дневнике 3 октября 1944 года – незадолго перед безвременной кончиной: «В ежовской тюрьме меня сажали на кол, били большим железным ключом по голове и поливали избитое место холодной водой, поднимали и бросали на рельс, били поленом по животу, вставляли в уши бумажные трубки и ревели в них во всё горло, вгоняли в камеру с крысами...»

---

[3] Пра напісанне ў рускіх тэкстах слоў *Беларусь*, *беларус* і *беларусский* гл. у артыкуле «В Беларуси или на Беларуси» (Раздзел 2. Мова).

Он мужественно выдерживал все пытки и никак не соглашался с тем, чего садисты добивались от него, – признания, что он «нацфашист» и польский шпион. Но вынужден был, чтобы остаться в живых, согласиться с их бескомпромиссным предложением стать секретным сотрудником с «органами».

В беларусской печати долгое время бытовало утверждение, будто освободил К. Чорного из тюрьмы Пономаренко – сталинский ставленник в Минске, главный тогдашний руководитель компартии Беларуси. Иногда это утверждение встречается и теперь. Так, в 2000 году в серии «Беларускі кнігазбор» увидели свет «Выбраныя творы» К. Чорного. Среди других лучших произведений писателя здесь впервые на основании автографа помещен (без прежних редакторских и цензорских сокращений) «Дзённік». В комментариях к нему, как будто между прочим, сказано, что назначение П.К. Пономаренко в июне 1938 г. на должность первого секретаря ЦК КП(б)Б «совпадает с выходом К. Чорного из тюрьмы на волю (8 июня 1938 года)».

В этом комментарии – существенная путаница дат: Кузьма Чорный вышел на волю действительно 8 июня, но не 1938, а 1939 года, посадили же его в тюрьму, как уже упоминалось выше, 13 октября 1938 года. И посадили с согласия Пономаренко, который с 18 июня 1938 года возглавлял беларусских большевиков. И, кстати, уже через месяц после приезда в Минск рапортовал своим московским опекунам (Сталину и Ежову): «Добиваюсь рассмотрения в несудебном порядке на особой тройке две тысячи по первой категории и три тысячи по второй». (По «первой категории» – это расстрел, а по «второй категории» – по десять лет концлагерей.)

Утверждение же о Пономаренко как освободителе, как о сталинском ангеле пошло гулять из книги Б. Саченко «Сняцца сны аб Беларусі...». Здесь автор в форме воспоминаний М. Лынькова передает устный рассказ Пономаренко, как тот спасал от ареста Я. Купалу, Я. Коласа, З. Бядулю, К. Крапиву, М. Лынькова, как освобождал К. Чорного из тюрьмы. Из этой же книги Бориса Саченко и других его публикаций распространился миф, как Купалу и Коласу ордеры на арест заменили, благодаря Пономаренко, орденами Ленина.

Согласно резонному евангельскому высказыванию, нет ничего тайного, чтобы не стало явным. Георгий Колос, известный беларусский критик и литературовед, в начале 1990-х годов, когда временно и частично рассекретили партийные и кагебистские архивы, получил возможность ознакомиться с некоторыми делами «нацдемов» и секретными партийными документами, а позже кое-что опубликовал в своей книге «Карані міфаў» (1998). На основании этих материалов

он развенчивает мифы об «ангеле» Пономаренко, приводит ряд выдержек, от которых, как говорят, никуда не денешься.

Из песни слова не выкинешь. Есть здесь и о вынужденных показаниях К. Чорного. Например, про Янку Купалу: «Разгром нацдемов до сих пор Купалой переживается как «разгром беларусского народа», как «вечная несправедливость». Это я сам много раз слышал от жены Купалы, которая является точным рупором самого Купалы». И после того уже, как К. Чорного выпустили на волю, он 1 сентября 1939 года принужден был идти в суд, где судили писателя Федоровича, и свидетельствовать против него как нацдема. Но, как уточняет, на основании архивных материалов, В. Скалабан в газете «Советская Белоруссия» (05.01.2007), К. Чорный на этом процессе отказался от своих прежних показаний и заявил, что отправил на имя Пономаренко письмо, в котором описал, как кагебисты выбивали из него нужные им сведения о «врагах народа».

Это письмо к П.К. Пономаренко и Л.Ф. Цанаве до недавнего времени хранилось в папке, на которой стоял гриф «Не подлежит разглашению». В 2009 году оно впервые опубликовано в книге Л. Рублевской и В. Скалабана «Время и бремя архивов и имен». Вот его текст в сокращении:

«31-го августа и 1-го сентября с.г. я вызывался в Минский областной суд в качестве свидетеля по делу писателя Федоровича-Чернушевича. Суд признал, что состава преступления по делу Федоровича нет, и дело пошло на доследование. Моя совесть заставляет меня написать Вам это письмо, чтобы помочь дальнейшему ведению следствия.

В деле Федоровича фигурируют мои показания, данные мною во время моего нахождения под арестом. Эти показания вырывались от меня насильственно, под сильнейшим принуждением... Они не соответствуют действительности, и я считаю долгом от них отказаться.

Во время ареста меня томили в одиночке (просидел я в одиночке более полугода), меня морально терроризировали, у меня быстро развивалась сердечная болезнь, от которой я впадал в обморочные состояния. Надо мной приходили издеваться некоторые работники НКВД, не имеющие никакого отношения к моему делу.

Еще за несколько лет до ареста, начиная примерно с 1932 года, меня время от времени вызывали отдельные работники ГПУ и потом НКВД и издевались надо мной. Кричали мне, что я «дефензивщик», грозили «сгноить в тюрьме» (а за что – неизвестно). Еще до ареста я был измучен, издерган, терроризирован. Мне тяжело

было работать, я напрягал последние силы, чтобы писать свои произведения. Арест, одиночка, карцер, угроза расстрела, угрозы запретить моей семье жить в Минске, разлучить моего ребенка с матерью, болезнь в одиночке – довершили дело. Я был окончательно сломлен. Я боялся сойти с ума, я чувствовал себя на краю гибели. Я уже был бессилен бороться даже за самого себя. И я слепо исполнял то, что от меня требовали, я писал и подписывал всё то, что мне диктовали, писал неправду о себе и о других лицах, в том числе о Федоровиче, не чувствуя за собой вины.

В данном случае я хочу этим письмом внести ясность в мои показания о Федоровиче… 2 сентября 1939 года».

В дневниковой записи, сделанной незадолго до смерти, читаем: «Долгие годы меня мучило ГПУ-НКВД».

В 1941 году, когда началась война с немецким фашизмом, К. Чорный вместе с женой и дочкой пешком пошел на восток. В Кричеве вступил в ряды Красной Армии. После стал сотрудником газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». А с января 1942 года он живет в Москве. Занимает с семьей маленький номер в гостинице «Якорь».

Несмотря на тяжелую болезнь, работал денно и нощно. Еще в довоенное время он задумал серию романов про историю беларусов «от панщины до наших дней». В войну написал три романа, много рассказов и публицистических статей. Из дневниковых записей видно, как его постоянно отрывали от непосредственного писательского труда: «Я мог бы зваться не Чорный Кузьма, а чернорабочий. Сколько за свой век я сделал этих переводов и написал всего, что без моей подписи заполняет страницы всей нашей прессы… Писал и пишу беспрерывно публицистические статьи без подписи, они печатаются, вставляются в тексты резолюций антифашистских, скажем, съездов, печатаются в сборниках Купалы как купаловская публицистика… А я хожу натруженный и больной и живу в конуре». В записи за 5 июля 1944 года К. Чорный вспоминает: «Кліч да беларускага народа» и выступление на первом беларусском радиомитинге из Казани зимой 1941 г. писал Купалу я».

Еще некоторые записи, свидетельствующие о многом. «29 сентября 1944 г. уже как раз неделя, как я в Минске. Еще живу на полу в доме Союза писателей. Негде отоспаться и отлежаться. Все дни болит голова, клонит ко сну, и зрение ухудшилось».

И самая последняя запись в «Дзённіку» – за 22 ноября 1944 года (в этот день перестало биться сердце великого человека с незавидной жизненной судьбой). Приведем эту запись полностью: «Почти уже месяц, как в «квартире», данной мне Совнаркомом. Но как

раз как та камера в тюрьме, где я сидел в 1938 году. Можно сказать, что я уже дошел до последней черты. Грязь, темень – окна смотрят в черный треугольник высоких зданий. Писать негде и жить негде. А тут же, по одному коридору, ремонтируют квартиру Рыжикову. Там светло и хорошо. Там Рыжикову можно будет крутить патефон и играть в «пульку». У нас нет собственной жизни, мы всё отдаем государству. Мы отдали государству свои души и таланты. Но мы не Рыжиковы. Я живу как последнее отребье. И не потому, что мне кто зла хочет, а потому, что у нас не европейская держава, где интеллектуальные особенности человека делают его жизнь организованной. А у нас азиатчина. Подхалимство, взяточничество, чиновничество, кляузничество – за последние годы поднялись на большую высоту. Сколько нашей интеллигенции беспричинно гниет в тюрьмах и на высылке! У меня уже нет 70% здоровья. Я гибну и не могу использовать как следует свой талант... Вместо того, чтобы делать то, что мне надо делать, я топлю печь, таскаю воду, смываю говно в уборной, ворую дрова, достаю из досок гвозди, мою свою порванную и вываленную одежду. Тут война не до конца виновата. Тут много от хамства. Аппарат НКГБ и тысячи чиновников занимают весь город – они умеют и любят рвать друг друга и всех за горло, а я этого не умею делать, так не могу даже достать хоть тоненький лучик дневного света в окно и страдаю в погребе».

А это последнее предложение той же дневниковой записи – перед отходом в мир иной: «Божа, напішы за мяне мае раманы, хіба так маліцца, ці што?»

*Аналитическая газета «Секретные исследования». 2010. № 11.*

## ПРАВДА О ПУШКИНЕ

Почти все белорусские республиканские газеты 6 июня этого года не преминули отдельными статьями отметить 210-летие со дня рождения А.С. Пушкина. А в 1997 г. президентским Указом № 502 1999 год был объявлен в нашей стране годом Пушкина. Понятно, в других республиках былого Советского Союза (кроме Российской Федерации) таких указов не было и не могло быть. Сразу же, еще задолго до юбилея, стали проводить праздничные мероприятия. Например, в Академии наук наладили научную конференцию, посвященную Пушкину. На страницах газет и журналов печатались соответствующие хвалебные статьи. Будто бы по просьбам

трудящихся, вносились разные предложения. Так, член-корреспондент Петровской академии наук и художеств Альберт Багдасаров на страницах «Настаўніцкай газеты» (22.10.1998 г.) предложил присвоить имя Пушкина одному из вузов. И через некоторое время Брестский госуниверситет стал носить это имя. А в Минске поставили памятник Пушкину.

Чем же так дорог для нас, беларусов, Пушкин? Всё ли мы знаем о нем, обо всем ли, связанном с его творчеством, рассказывали нам в школе и сообщали по радио, телевидении, в книгах, газетах, журналах?

Познакомлю читателей с нетрадиционными мыслями о взглядах поэта, отображенных в его произведениях, затрону кое-что из того, над чем вряд ли задумывались многие из тех, кто проходил Пушкина в средней или высшей школе.

А на безграничных просторах былого Союза изучать творчество Пушкина начинали с первого класса (в нашей республике при так называемом двуязычии и теперь то самое). Читались, а то и заучивались наизусть его стихотворные сказки (кстати, интересные и созданные на высоком художественном уровне), затем проходились большие художественные произведения («Дубровский», «Капитанская дочка»), трагедия «Борис Годунов» и роман в стихах «Евгений Онегин». В каждом классе только и повторялось: Пушкин, Пушкин... А еще – многочисленные оперы, балеты, кинофильмы, сделанные по его произведениям. Да еще названия улиц в городах (и в беларусских в том числе), учреждения его имени. В Гродно, например, имя Пушкина имеют улица, кинотеатр, библиотека. Вольно или невольно создавался своеобразный культ Пушкина.

Если сегодня спросить у школьника или взрослого человека, каких он знает русских писателей, то в ответ в первую очередь услышишь: «Пушкин». Его фамилия, можно сказать, вошла в быт, превратилась из собственной в нарицательную. Пожалуй, каждый слыхал, а то и говорил: «А кто за тебя – Пушкин будет делать?!» Контролер в автобусе на зайца может сказать: «А билет за тебя Пушкин купит?» И в литературе это нашло отражение. В романе И. Пташникова «Мстижи» персонаж говорит: «Не хочешь – Пушкин за тебя не сделает». В пьесе А. Дударева «Излом» читаем: « – Ну что в глаза светишь? – Это ты мне? – Нет, Пушкину». Или в повести Л. Колодежного «Под холодным небом»: « – Что позволяешь себе? – Я? – Не Пушкин же».

Бесспорно, Пушкин – великий поэт русского народа. Он был уже при жизни признан современниками как автор многочисленных

шедевров искусства. Это создатель русского литературного языка и зачинатель новой, реалистичной литературы, большой реформатор. Пушкин для русской культуры, языка и литературы то самое, что, скажем, Т. Шевченко для украинской, а Я. Купала для беларусской.

Не жалея эпитетов и метафор, Пушкина называют «вечно живым явлением», «неугасимым светочем духовности», «живой душой народа»... Пишут и о его всемирной известности. Но это вряд ли так. Его хорошо знают в странах СНГ, а в дальнем зарубежье, будем искренними, его очень мало кто знает и читает. Там из русских писателей наибольшей популярностью пользуются Л. Толстой, Ф. Достоевский да А. Солженицын. Как засвидетельствовано в «Беларусской Советской Энциклопедии», Л. Толстой, согласно сведениям ЮНЕСКО, занимает одно из первых мест среди писателей по количеству языков мира, на которые переведены его произведения. Еще и такое сопоставление: полное собрание сочинений Пушкина (Л., 1979) составляет 10 томов, а Толстого – 90 томов. Но тем не менее в той же энциклопедии Л. Толстому отведено 2 страницы, а Пушкину – 4, портрет Пушкина занимает целую страницу (вклейка глубокой печати), а фотокарточка Толстого – паспортного размера (три на четыре). Почти такое же постраничное соотношение и в недавно изданной 18-томной «Беларусской Энциклопедии»: Толстому отведено 3 колонки, Пушкину – 6. Действует всё тот же культ Пушкина.

Один из персонажей повести В. Быкова «Обелиск» говорит, что теперь «любой студент или даже старшеклассник, только заведи с ним разговор о Толстом или Достоевском, сразу тебе выпалит все их погрешности, ошибки и ограничения». В учебниках по русской литературе для средней и высшей школы Лев Толстой дается как писатель, всё творчество которого «в кричащих противоречиях». С одной стороны, это гениальный художник и мыслитель, «глыба», «матёрый человечище», а с другой – «помещик, юродствующий во Христе», «истеричный хлюпик», который говорит: «я не кушаю больше мяса и питаюсь теперь рисовыми котлетками». Разные погрешности и заблуждения выискиваются и в творчестве Достоевского, Тургенева, Есенина и других. И только Пушкин как бы пользуется иммунитетом неприкосновенности и сияет, как солнышко. А между тем в его творчестве есть немало действительных погрешностей, которые стараются не замечать или стыдливо обходят. А может, и для тех, кто пишет о Пушкине, это совсем не погрешности, а идеология, тождественная с ихней.

О Пушкине написаны десятки книг, сотни статей. Но никто ни слова не говорит о его непоколебимых великорусских имперских убеждениях.

Исключение составляет разве только один труд. Его автор Г.П. Федотов (1886-1951) – выдающийся российский историк, философ культуры. В 1925 г. он эмигрировал из Советского Союза, вел преподавательскую деятельность в Париже, потом в США. В 1947 г. опубликовал в зарубежном русском издании эссе «Судьба империй», перепечатанное не так давно московским журналом «Знамя» (1992, № 3-4). Автор характеризует империю как государство, экспансией вышедшее за национальные, этнические границы, убедительно обосновывает неизбежность распада СССР – последней мировой империи. Есть там и такие поразительные предсказания о судьбе России после развала империи: она «утратит донецкий уголь, бакинскую нефть... Великороссия, да еще с придачей Белоруссии (вероятно) и Сибири (еще надолго) всё еще представляет огромное тело, с огромным населением...». Пушкина автор называет «последним певцом Империи», который искренне верил, что скоро все народы России, в том числе и недавно захваченные («и финн, и ныне дикий тунгус, и друг степей калмык»), «будут читать Пушкина по-русски (так понимался «Памятник»), а все этнографические пережитки сделаются достоянием музеев и специальных журналов».

В уже цитированном стихотворении «Памятник» есть слова поэта о том, что он в свой «жестокий век восславил Свободу». Но какую свободу? Свободу для кого? Поэт и знать не хочет, что не может нация быть свободной, если она порабощает другие нации. А это же при жизни Пушкина были завоеваны Финляндия, Бессарабия, Грузия, Армения, Азербайджан, многие народы Кавказа.

Поэт нисколько не сомневался, что русские выполняют великую миссию, цивилизируя туземцев – захваченные «дикие» или «полудикие» народы. Он был хорошо знаком с П. Пестелем и разделял высказанные на страницах «Русской Правды» взгляды насчет того, что обрусение всех инородных племен будет содействовать «возведению России на высшую степень процветания, величия и могущества» и что «на целом просторе российской державы» должен быть «один только язык русский».

Есть у Пушкина и высказывания о языке. Вдумаемся, как он с шовинистической проповедью своей национальной исключительности говорит о несравнимом величии русского языка. Он, мол, «как материал словесности, имеет неоспоримое превосходство перед всеми европейскими». Конечно, каждый цыган свою кобылу хвалит. Но

акад. В. У. Вінаградава, апублікаваных у 1946–1947 гг. А для яе станаўлення ў якасці асобнага раздзела лінгвістыкі ніхто з вучоных не зрабіў столькі, як прафесар У. П. Жукаў. У аўтарэфераце доктарскай дысертацыі «Фразеалагізм і слова» (Л., 1967) ён пісаў: «Мяжой уласна фразеалагізма на ўзроўні словазлучэння служыць фразеалагічнае злучэнне, а на ўзроўні сказа – прыказкі, прымаўкі, крылатыя выразы» (с. 7). Але гэта пераканальнае і дастаткова аргументаванае сцвярджэнне, відаць, па-свойму зразумеў А. С. Аксамітаў. Ён у прадмовах і да «Фразеалагічнага слоўніка мовы твораў Я. Коласа» (Мінск, 1993), і да «Беларуска-польскага фразеалагічнага слоўніка» (Warszawa, 2000) паўтарае (без спасылак) словы У.П. Жукава, укладваючы у іх зусім іншы сэнс. У абодвух слоўніках так званыя фразеалагічныя злучэнні (тыпу *закадычны сябар*), а таксама прыказкі, непераасэнсаваныя крылатыя выразы і шмат які іншы нефразеалагічны матэрыял аказваюцца не за мяжой фразеалогіі, а ўключаюцца ў слоўнікі побач і нароўні з сапраўднымі фразеалагічнымі адзінкамі: *насупіць бровы, цялячае захапленне, бярэ злосць, першы блін камяком, у ціхай вадзе чэрці водзяцца, адклад не ідзе на лад, на лаўца і звер бяжыць, як бугай на прадвесні, як злодзей, як арол, ткаць карону залатую, двуногі звер, аднае цялежкі след, ноч нябыту, жывая вага, забойная вага, абвяшчаць вайну, насценная газета, адкрытае галасаванне, ганаровая грамата, белае адзенне, жыцця крыніца, срэбныя ніткі, ліхая часіна, родны кут, ніколі ў жыцці, рана-рана, ледзь-ледзь, ціха-ціха, будзь гатоў!* і сотні іншых.

У такім выпадку фразеалогію ператвараюць у звалачны пункт.

Беспадстаўна ў памянёным вышэй «Фразеалагічным слоўніку мовы твораў Я. Коласа» нярэдка асобныя выразы пазначаюцца па-метай *інд.-аўт.* Напрыклад, *механік на ўсе рукі* мае памету *інд.-аўт.*, а *майстар на ўсе рукі, штукар на ўсе рукі, на ўсе рукі хват* змешчаны без паметы. Але тут усё няправільна. Прыметнікавы фразеалагізм *на ўсе рукі*, што значыць ‘выключны, здатны на ўсяго’, у сучаснай мове спалучаецца не толькі са словам *механік*, але і з іншымі назоўнікамі як гэтай жа семантычнай групы (*спецыяліст, умелец* і пад.), так і іншых семантычных груп: *на ўсе рукі майстрыха* (Л. Ялоўчык), *мастак на ўсе рукі* (М. Лынькоў), *спецыяліст на ўсе рукі* (І. Мележ), *на ўсе рукі хват* (М. Лужанін), *выдумшчыца на ўсе рукі* (П. Броўка), *дзеўка на ўсе рукі* (І. Дуброўскі), *на ўсе рукі чалавек* (В. Быкаў), *моладзь на ўсе рукі* (Р. Барадулін), *працавень на ўсе рукі* (Я. Ермаловіч), *ён у мяне на ўсе рукі* (А. Васілевіч) і г.д.

Ёсць у гэтым слоўніку і яшчэ шмат чаго недарэчнага, нелагічнага, няправільнага. Не лепшым чынам характарызуецца і

праца В. А. Ляшчынскай і З. У. Шведавай «Слоўнік фразеалагізмаў мовы твораў Янкі Купалы» (Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2007).

Тут у «Прадмове» сказана, што даведнік «змяшчае ўсе фразеалагічныя адзінкі, ужытыя адным аўтарам» і што сюды ўключаны «толькі ўласна фразеалагізмы, па-за межамі яго знаходзяцца прыказкі і прымаўкі». Але, па-першае, не ўсе выкарыстаныя Купалам фразеалагізмы змешчаны ў даведніку. Няма тут, напрыклад, такіх выразаў: *знакам тым, пазнаца на фарбаваных лісах, як Сора казала, у чым справа* (двойчы ўжыты ў адных толькі «Тутэйшых»), *у чым рэч, не купіць* (у каго чаго), *у вус* (смяяцца), *дары данайскія, утапіць у лыжцы вады, труба ерыхонская, усё ж такі яна рухаецца*! І, напэўна, шмат іншых.

Па-другое, далёка не ўсе прыказкі аказаліся «па-за межамі даведніка». Прыводзяцца як нібыта «ўласна фразеалагізмы» і тлумачацца (часцей за ўсё няправільна) наступныя прыказкі: *Пакуль да Бога, анёлы душу вымуць; Бяда бяду вядзе; Пылінку бачым у суседа, а ў сваім воку не заўважаем бервяна; Воўк сыты і козы цэлы; Да часу жбан вадзіцу носе; Цярпі, казак, – атаманам будзеш; Чакай Пятра – будзеш сыр есці; Не святыя лепяць гаршкі; Чым багата, рада хата; Не будзе Гірша, будзе чорт іншы; Чалавек страляе, а чорт кулю носіць; Ці свінні елі, ці шляхта папасвалася.*

У лік «уласна фразеалагізмаў» уключаны *з-пад ілба* (с. 120) і *на ўме* (с. 288), хоць ва ўсіх нашых слоўніках гэта не фразеалагізмы, а прыслоўі: *спадылба, наўме.* Гэты даведнік, як пазначана на с. 313, выйшаў «у аўтарскай рэдакцыі». Каб быў карэктар, ён бы не дапусціў такіх ляпсусаў. Каму верыць: гэтаму даведніку ці акадэмічным слоўнікам?

Фразеалагізмы азначаюцца ў «Прадмове» так: «спалучэнні слоў, якія характарызуюцца ўстойлівасцю, цэласнасцю значэння і ўзнаўляюцца як гатовыя адзінкі». Найбольшая загана гэтага слоўніка ў тым, што ў ім пад выглядам фразеалагізмаў апісваюцца больш за сотню словазлучэнняў, якія нічуць не падыходзяць да прыведзенага вышэй азначэння. Цэласнае значэнне фразеалагізма – гэта, як вядома, унутранае сэнсавае адзінства, нераскладальнае на асобныя значэнні кампанентаў (калі іх разглядаць на ўзроўні слоў). У слоўніку ж апісваюцца, напрыклад, такія спалучэнні з твораў Я. Купалы: *дастаць лазні, дастаць поўху, даць лазы, даць паранкі, даць розаг, даць хлуду, задаць табакі, закаціць у морду, узяць пад розгі, плесці байкі, бухаць грамабойным голасам, у крыві рукі мыць, скідваць свае родныя аўчынкі, ахвота бярэ, як тытунь у табакерцы, у душы агонь раскласці, крытычным вокам аглядаць, праўданькі шукаці кулаком,*

*вочы скакалі, гора гараваці, забраны край, высахне сэрца, сэрца братняе, жывая вада, вайной пайсці, воля-няволя, воля-раздолле, вочы не плачуць* і многія-многія іншыя.

Што ж фразеалагічнага ёсць, напрыклад, у спалучэнні *дастаць лазні*? Як паказана ў ТСБМ (т. 2, с. 146), *дастаць* – 'атрымаць', *лазня* – 'наганяй, суровая вымова' (ТСБМ, т. 3, с. 14). Або возьмем другое спалучэнне (*дастаць поўху*) у пералічаным вышэй спісе. У ТСБМ (т. 4, с. 296) чытаем: «**Поўху**. У выразе: *даць поўху* – ударыць, даць аплявуху», а ў БРС (т. 2, с. 238) беларускі назоўнік *поўха* перакладаецца як *оплеуха, пощечина, затрещина*. Спалучэнне *бухаць грамабойным голасам*, як і іншыя «квазіфразеалагізмы», не мае ні цэласнага значэння, ні ўстойлівасці, ні ўзнаўляльнасці на агульнамоўным узроўні (больш ніхто яго не ўжыў, акрамя адзінага Купалавага выкарыстання).

Пераважная большасць дзеяслоўных фразеалагізмаў мае суадносныя пары незакончанага і закончанага трывання: *рабіць (зрабіць) з мухі слана, выдаваць (выдаць) на-гара*. Фразеалагізмы суадноснай трывальнай пары адрозніваюцца адзін ад аднаго тым, што ў незакончаным трыванні яны абазначаюць дзеянне без паказу на яго мяжу, а ў закончаным – паказваюць на ўнутраную мяжу дзеяння. Параўн., напрыклад: *Як правіла, вінаватыя багацеі выходзяць з вады сухімі* (М. Машара); *Я і так рад, што сухім з вады выйшаў* (К. Крапіва). Супаставім, аднак, два іншыя прыклады: *На вялікім свеце б'е жыццё крыніцай* (Я. Купала) і *Забіла крыніцай культурнае жыццё* (Р. Шкраба). Хоць у першым сказе фразеалагізм *біць крыніцай* адказвае на пытанне *што рабіць?* і мае форму незакончанага трывання, а ў другім (*забіць крыніцай*) ужыты ў форме закончанага трывання (*што зрабіць?*), але гэта не трывальныя формы аднаго і таго ж выразу, а два самастойныя фразеалагізмы. Другі з іх паказвае не на завяршэнне дзеяння, а на пачатак, мае адценне пачынальнасці. Ён створаны на базе зыходнага (*біць крыніцай*) з дапамогай словаўтваральнага афікса *за-*. У такіх параўнальна нярэдкіх выпадках зыходны і вытворны фразеалагізмы «не з'яўляюцца граматычнымі (трывальнымі) формамі адной фразеалагічнай адзінкі, а выступаюць як дэрываты зыходных адзінак, іх вытворныя» (Современный русский язык. СПб., 2001, с. 297).

На с. 180 у раней названым слоўніку В. А. Ляшчынскай і З. У. Шведавай знаходзім: «**Вадзіць за нос** і **за нос павадзіць** каго, *дзеясл. незак. і зак., неадабр.* Уводзіць (увесці) у зман, ашукваць (ашукаць)». Бачачы гэта, можна падумаць, што тут дзве трывальныя формы аднаго фразеалагізма. Але гэта не так. Перад намі два выразы:

зыходны *вадзіць за нос* (каго) і вытворны *павадзіць за нос* (каго). Другі з іх (*павадзіць за нос*) надзелены адценнем мнагакратнасці, мае ў сваёй сэнсавай структуры семы 'нейкі час, звычайна працяглы' і 'неаднаразова'. Таму тлумачэнне, пададзенае ў названым слоўніку, недакладнае, і гэта выразна відаць з ілюстрацыйнага прыкладу – з камедыі Я. Купалы «Паўлінка»: *Трэба шэршня за нос павадзіць, каб і дзесятаму заказаў, як жонкі купляць.* Або з такога сказа: *Павадзіла партызанка тых фашыстаў за насы* (П. Панчанка).

У гэтым жа слоўніку на с. 33 фразеалагізм *лыпнуць вачыма* тлумачыцца як «маўчаць, не разумеючы ці не ведаючы, што сказаць, як адказаць». На самай жа справе гэты выраз, у адрозненне ад *лыпаць вачыма*, мае адценне аднакратнасці і абазначае «замоўкнуць...».

Дарэчы, падобныя памылкі, звязаныя з неадрозненнем суадносных і несуадносных трывальных формаў дзеяслоўных фразеалагізмаў, ёсць і ва ўсіх іншых фразеалагічных слоўніках. Гл. пра гэта больш падрабязна ў маім артыкуле (Беларуская лінгвістыка. 2010, вып. 64, с.17-25).

Далей звернемся да недакладнасцей у перакладных фразеалагічных слоўніках.

У апошнія два дзесяцігоддзі асобныя «наватары» актыўна выступаюць у друку з моўнымі папраўкамі разнастайнага характару, адкідваюць шматлікія словы, выразы, сінтаксічныя канструкцыі, якія трывала прыжыліся ў маўленні, замацаваліся моўнай практыкай, сталі прывычнымі, усведамляюцца як правільныя, нарматыўныя. А пачалося гэта, бадай, ці не з перакладнога даведніка З. Санько «Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем». Ён выйшаў у 1991 г. (выдавецтва «Навука і тэхніка»). Пра хібы гэтага даведніка мне ўжо даводзілася пісаць у «Весцях АН Беларусі. Серыя грамадскіх навук» (1993, № 1, с. 117-120). Варта паўтарыць некаторыя моманты, звязаныя толькі з падачай фразеалагізмаў.

Складальнік слоўніка пры падборы фразеалагічных адпаведнікаў не размяжоўвае агульнанародныя, літаратурныя і вузкамясцовыя, дыялектныя выразы. Ён бярэ фразеалагічны матэрыял не з картатэкі, якая шматлікімі прыкладамі пацвярджае жыццё пэўнага выразу ў мове, і не з нарматыўных слоўнікаў, а, як сказана ў прадмове, з запісаў фалькларыстаў, часткова з мастацкай літаратуры, а таксама «ад сваіх бацькоў» і не зважае на тое, ці мае гэты выраз устойлівасць і ўзнаўляльнасць на агульнамоўным узроўні. З прыкладна 870 фразеалагізмаў, вынесеных у загалоўкі, не менш як чацвёртая частка прыпадае на выразы, якім складальнік беспадстаўна надае статус рускага першародства. Адпаведна адмаўляецца існаванне

аднолькавага ці блізкага гучаннем беларускага фразеалагізма. Напрыклад, няма ніякіх падстаў не лічыць беларускімі такія фразеалагізмы: *аршын з шапкаю, без задніх ног, як снег на галаву, валіцца з ног, у добры час, узяць за жабры, віляць хвастом, віць вяроўкі, ганяцца за двума зайцамі, даць дуба, жаваць жвачку, задзіраць нос, ні рыба ні мяса, мець зуб, памінай як звалі...*

Нельга выкідаць з мовы тое, што ўсталявалася ў ёй, ужыванне чаго можа быць падмацавана дзесяткамі апраўдальных цытат і не парушае нашых моўных нормаў. Тое, што, напрыклад, выразы *ні рыба ні мяса, мець зуб, памінай як звалі* даўным-даўно сталі нарматыўнымі адзінкамі беларускай літаратурнай мовы, тут можна было б пацвердзіць больш як 70 ілюстрацыйнымі прыкладамі. Так, В. Дунін-Марцінкевіч аж чатыры разы выкарыстаў фразеалагізм *памінай як звалі*, у тым ліку ў вершаванай аповесці «Халімон на каранацыі»: *Я хваць за талакно! Памінай як звалі!*

Выразы *ні рыба ні мяса, памінай як звалі* занатавалі ў жывой народнай мове Я. Чачот, І. Насовіч, М. Федароўскі. Гэтыя фразеалагізмы, а таксама *мець зуб* даюцца ў нашых акадэмічных слоўніках – тлумачальным, беларуска-рускім, руска-беларускім. Дарэчы, выраз *ні рыба ні мяса* трапіў у беларускую мову як калька з нямецкай мовы (*nich Fisch nich Fleisch*), дзе склаўся ў перыяд Рэфармацыі (XVI ст.), а выраз *мець зуб* – калька з французскай мовы (*avoir une dent*). Гэтыя фразеалагізмы, як і сотні іншых, сталі міжнароднымі. Амаль ва ўсіх еўрапейскіх мовах яны ўжываюцца з такім самым значэннем, граматычнай структурай, стылістычнай афарбоўкай і адрозніваюцца толькі гучаннем, кампанентным складам, а ў роднасных мовах супадаюць і гучаннем.

У слоўніку З. Санько вельмі многія з падобных скалькаваных фразеалагізмаў (напрыклад, *делать из мухи слона* – з грэчаскай, *как на иголках* – з нямецкай, *на седьмом небе* – з французскай мовы) прызнаюцца, відаць, як рускія, і аўтар падбірае да іх беларускія адпаведнікі, хоць на самай справе такія выразы павінны перакладацца пaслоўна.

Спынімся яшчэ толькі на двух выразах. Ёсць у беларускай мове фразеалагізм *у імгненне вока*, зафіксаваны ўсімі нашымі слоўнікамі. Ён ужываўся ў нас яшчэ ў XVI ст., напрыклад, у «Катэхізісе» С. Буднага, і, магчыма, трапіў у рускую мову (*в мгновение ока*) як паўкалька з беларускай. У слоўніку ж З. Санько мы гэтага фразеалагізма не знойдзем, тут даецца *в мгновение ока* з такімі нібыта аналагамі: *вокам маргнуць, як змаргнуць, на вокамгненні, як у воку мгненне, як га.*

У Я. Купалы ёсць верш «Не ўсе дома», дзе гэты выраз як рэфрэн паўтараецца аж 14 разоў. Гераіня камедыі «Паўлінка» гаворыць: «У Якіма не ўсе дома, бо поначы ходзіць да маладых дзяўчат». У Я. Коласа знаходзім: «Сам жа рэдактар для іх быў чалавекам, у якога не ўсе дома». Не цураліся агульнавядомага выразу К. Крапіва, Р. Мурашка, І. Мележ, Р. Барадулін і іншыя пісьменнікі. Амаль аднолькава ён гучыць у рускай, украінскай, польскай, чэшскай мовах, у польскай мове зафіксаваны ўжо ў XVI ст. У слоўніку ж З. Санько выраз *не все дома* кваліфікуецца як рускі, да яго прыводзіцца набор беларускіх эквівалентаў, сярод якіх, зразумела, няма *не ўсе дома.* Выходзіць, і Я. Купала, і Я. Колас памыляліся, калькавалі фразеалагізмы, і ўсе нашы слоўнікі памыляюцца...

Пра гэты небеззаганны даведнік (а ён выдадзены значным тыражом – 30 тысяч экзэмпляраў!) часам пішуць, што «хоць зроблены ён на аматарскім узроўні.., усё ж практычнае значэнне яго вельмі істотнае» (Роднае слова. 1993, № 10, с. 29-33). Якраз і бяда, што памылкі слоўніка, набываючы аўтарытэтную моц, укараняюцца ў практыку, асабліва ў навучальную літаратуру. Небездакорны матэрыял гэтага даведніка ўключаецца ў віктарыны, выкарыстоўваецца на абласных і рэспубліканскіх алімпіядах па беларускай мове і, напэўна, у школьнай практыцы выкладання мовы. Як ні дзіўна, некаторыя фрагменты занадта вольнага перакладу даведніка З. Санько перанесены ў трэцяе і чацвёртае выданні акадэмічнага «Руска-беларускага слоўніка» (1991, 1993); напрыклад, ранейшае «семь пятниц на неделе – *сем пятніц на тыдні*» папоўнена адзінкамі, не падмацаванымі маўленчай практыкай: *на адзін дзень сем перамен; як увосень: на дзень пагод восем.*

Некалькі слоў пра яшчэ адзін перакладны слоўнік, таксама «зроблены на аматарскім узроўні» і адрасаваны «школьнікам і настаўнікам, навучэнцам і выкладчыкам, студэнтам і літаратарам, навуковым работнікам і рэдактарам». Яго аўтары – Е. Л. Баярына і У. Н. Сіўчыкаў – не спецыялісты ў галіне фразеалогіі. Поўная назва іх кнігі (тыраж 5000 экз.) такая: «2000 русских и 2000 белорусских идиом, фразеологизмов и устойчивых сочетаний: словарь с пояснениями и примерами использования» (Минск: Попурри, 2006). Я пісаў пра гэты слоўнік у рэцэнзіі «З міру па нітцы...» (Настаўн. газ. 2007, 12 чэрв.). Загаловак рэцэнзіі падказвае, што даведнік носіць кампілятыўны характар, з'яўляецца непрыкрытай халтурай. Зроблены тут пераклад амаль ва ўсіх выпадках не лезе, як кажуць, ні ў якія вароты. Аўтары бязбожна і не задумваючыся бяруць яго са слоўніка З. Санько, з «Беларускай фразеалогіі» (1968) Ф. Янкоўскага, з іншых

прац. Між іншым, на с. 2 зазначана, што кніга «ахоўваецца законам аб аўтарскім праве», а парушэнне кім-небудзь гэтага закону «преследуется в судебном порядке».

Некаторае ўяўленне пра гэты даведнік можа даць наступны слоўнікавы артыкул (с. 7), дзе тлустым шрыфтам падаецца рускі выраз, а ў правай частцы – беларускі эквівалент (не адзін, а тры) і ілюстрацыйны матэрыял: «**аршин с шапкой** – жабе (верабʼю) па калена / кату па пяту. *Такая глыбіня, што вераб'ю па калена* (Фёдар Янкоўскі)».

Паспрабуем цяпер зрабіць у прыведзеным ілюстрацыйным прыкладзе замену беларускага *вераб'ю па калена* рускім *аршин с шапкой*. Адразу відаць немагчымасць і абсурднасць такой замены. *Аршын з шапкай* – прыметнікавы шырокаўжывальны фразеалагізм як у рускай, так і ў беларускай мовах, і дастасоўваецца ён толькі да вельмі малога, нізкарослага чалавека, заўсёды выкарыстоўваючыся ў ролі выказніка: *Які там хлопец – аршын з шапкаю* (В. Адамчык). А *вераб'ю па калена*, як засведчана ў нарматыўных слоўніках, мае два акалічнасна-прыслоўныя значэнні («вельмі мелка, неглыбока» і (пра ваду) «вельмі мала») і выступае галоўным членам безасабовага сказа ў дачыненні толькі да ракі, возера, ручая, сажалкі: *Летам у раўчаку вераб'ю па калена* (І. Сяркоў); *Вады ў ручаі вераб'ю па калена* («Полымя»). Інакш кажучы, *аршын з шапкаю* і *вераб'ю па калена* – несупастаўляльныя і неўзаемазамяняльныя выразы.

Такіх няправільных, недарэчных перакладаў у даведніку Баярынай і Сіўчыкава не адзін ці два, а абсалютная большасць.

Хоць у даведніку, як сведчыць загаловак, перакладаюцца «ідыёмы, фразеалагізмы і ўстойлівыя спалучэнні», але тут перакладзены (мусіць, ці не пад выглядам спалучэнняў) каля 350 прыказак, якія, аднак, па сваёй форме не спалучэнні, а інтанацыйна і сэнсава закончаныя сказы. І да прыказак аўтары ставяцца гэтак жа, як і да «ідыём, фразеалагізмаў». Да прыкладу, *Куй железо, пока горячо* перакладзена так: *Касі, каса, пакуль раса.* Але, па-першае, загаловачная прыказка трапіла ў рускую мову, як і ў шмат якія іншыя, як калька з лацінскай мовы. Па-другое, прамым аналагам гэтай рускай прыказкі з'яўляецца беларуская *Куй жалеза, пакуль гарачае* (яна ёсць у зборніках М. Федароўскага, Ф. Янкоўскага, акадэмічным зводзе прыказак, у многіх іншых даведніках, ужываецца ў творах Я. Коласа, С. Александровіча, М. Гамолкі, П. Місько, Б. Сачанкі, В. Гігевіча, А. Дзятлава і іншых аўтараў). Гэта прыказка – алегарычнага характару і мае толькі пераноснае значэнне «спяшайся рабіць што-небудзь, пакуль ёсць спрыяльныя ўмовы». Па-трэцяе, *Касі, каса, пакуль раса*

ніяк не можа быць эквівалентам папярэдняй прыказкі, бо не мае пераноснага, вобразнага сэнсу, а заўсёды ўжываецца толькі ў прамым значэнні, у дачыненні да касца (дарэчы, тое самае ў рускай і ўкраінскай мовах): *Марцін падаўся з хлопцамі да Андрэя, які дабіваў апошні пракос. Дзядзька весела сказаў: – Касі, каса, пакуль раса, раса далой, касец дамоў!* (Я. Колас).

Звернемся цяпер да парэміялагічных даведнікаў, дакладней, да аднаго з іх: *Анатоль Аксамітаў.* Прыказкі і прымаўкі (Мінск: Бел. навука, 2000; 2-е выд., 2002). Даведнік мае падзагаловак: «Тлумачальны слоўнік беларускіх прыказак і прымавак з архіваў, кафедральных збораў, рэдкіх выданняў XIX і XX стст.» А ў анатацыі сказана: «Гэта кніга – збор унікальных рукапісных і друкаваных беларускіх прыказак і прымавак, якія захоўваюцца ў архівах, аддзелах рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэк Вільні, Кракава, Лондана, Мінска, Санкт-Пецярбурга. У кнізе ўпершыню абгрунтоўваецца навуковае размежаванне прыказак ад прымавак паводле лінгвістычных прыкмет».

І ў анатацыі, і ў іншых мясцінах (с. 11, 301) аўтар, можна сказаць, прэтэнцыёзна называе свой погляд на адрозненне прыказак ад прымавак «новым». Як сцвярджае аўтар, «прыказцы ўласцівы адначасова прамы і пераносны сэнс». Але, па-першае, такіх прыказак зусім мала. Па-другое, немагчыма ўявіць, які прамы сэнс мае прыказка *Пойдзе каза да ваза, папросіць сена: скулле ў бок* (яна прыводзіцца аўтарам, у ліку іншых, як прыклад прыказак з падвойным планам). Прымаўкі ж, паводле А. Аксамітава, «не маюць такога двухпланавага характару», «прымаўка мае толькі прамы план зместу выказвання». Прыказка – «вобразная матываваная адзінка мовы» (с. 298), а прымаўка – «фальклорны жанр» (с. 299). Затым аўтар ставіць пытанне: «Які ж лінгвістычны прынцып ляжыць у аснове размежавання прыказак і прымавак?» (с. 300). Пасля непераканальнага і досыць блытанага разгляду ўсяго пяці парэмій робіцца нечаканы і дзіўны вывад: «Такім чынам, магчымасць уключэння фразеалагічных адзінак у склад прымавак і немагчымасць уключэння іх у склад прыказак можа разглядацца як лінгвістычны крытэрый іх размежавання» (с. 301).

З такім «лінгвістычным крытэрыем» ніяк нельга пагадзіцца. Прыказкі і фразеалагізмы – розныя рэчы. Разам з тым можна прывесці дзесяткі прыкладаў несумненных прыказак, у якіх «другая частка (нярэдка рэальныя або патэнцыяльныя фразеалагізмы) мае фігуральнае, пераноснае значэнне» (Жуков В.П. Словарь русских пословиц и поговорок. М., 2003, с. 12). Вось толькі некалькі прыкладаў: «На беднага Макара *ўсе шышкі валяцца*; Як ваўка ні

кармі, а ён *у лес глядзіць*; Ваўка *ногі кормяць*; Работа не воўк, *у лес не збяжыць*; Багатаму *чорт дзяцей калыша*».

Як бачым, сцісла апісаны тут «новы погляд» «навуковага размежавання прыказак ад прымавак» з'яўляецца не чым іншым, як няўдалай спробай удасканаліць схему, прапанаваную У. П. Жукавым (с. 11-13).

Сярод даследчыкаў беларускай парэміялогіі ёсць слушная думка не размяжоўваць прыказакі і прымаўкі. Так, К. Крапіва ў пачатку свайго артыкула «Беларускія прыказкі» (1927) выкладае погляды І. Снегірова, А. А. Патабні, А. І. Баршчэўскага на паняцці «прыказка» і «прымаўка», а пасля, прыступаючы да аналізу народных афарызмаў, зазначае, што ў далейшым ён будзе «ўжываць адно слова *прыказка*» (Крапіва К. Зб. тв. у 4 т. Мінск, 1963, т. 4, с. 226). Ф. М. Янкоўскі ў кнізе «Беларуская мова» (Мінск, 1978, с. 160) лічыць, што «справа, відаць, у надуманасці размежавання прыказак і прымавак». Ён ставіць знак роўнасці паміж прыказкай і прымаўкай, называе іх словамі-дублетамі, паказвае, што слова *прымаўка* трапіла ў беларускую літаратурную мову з жывой народнай мовы, што ў народзе словы *прыказка* і *прымаўка* не адрозніваюцца. Зазначым, дарэчы, што не размяжоўваюць гэтыя словы і амаль усе аўтары беларускіх мастацкіх і публіцыстычных твораў. Так, яны, выкарыстоўваючы тую ці іншую прыказку, часам суправаджаюць яе разнастайнымі спасылкамі («ёсць такая прыказка», «ёсць прымаўка», «паводле прыказкі», «як у той прымаўцы» і г.д.). Паводле ілюстрацыйных цытат, змешчаных у «Слоўніку беларускіх прыказак» І.Я. Лепешава і М.А. Якалцэвіч (2002) (СБП), слова *прыказка* ўжыта 90 разоў, *прымаўка* – 72, *прыгаворка* – 9, *прыпавесць* – 3, *пагаворка* – 2, *показка* – 1.

Ужыванне тэрміна «прымаўка» было ў пэўнай меры апраўданым, пакуль у мовазнаўстве не замацаваўся «фразеалагізм», які фактычна выцесніў свайго папярэдніка для абазначэння адных і тых жа моўных адзінак – устойлівых, узнаўляльных зваротаў з цэласнай семантыкай (*кот наплакаў, карона з галавы не спадзе, чужымі рукамі жар заграбаць*).

У гэтай сувязі, каб пазбегнуць тэрміналагічнай блытаніны, уяўляецца найбольш лагічным, неабходным скасаваць тэрмін «прымаўка» як аналаг фразеалагізма і выкарыстоўваць адзіны тэрмін «прыказка» для абазначэння народных афарызмаў, якія валодаюць інтанацыйнай і сэнсавай закончанасцю, або ўжываць абодва словы як тэрміны-дублеты.

Слоўнік А. Аксамітава змяшчае каля 3500 прыказак, «пачэрпнутых з рукапісных фондаў.., а таксама з рэдкіх публікацый, па тых ці іншых прычынах не ўлічаных у найбольш поўных акадэмічных выданнях «Прыказкі і прымаўкі», кн. 1, 2 (Мінск, 1976) і «Выслоўі» (Мінск, 1979)» (с. 5). Сапраўды, гэтыя рэдкія публікацыі і парэмійны матэрыял з архіваў не былі ў свой час вядомыя складальнікам памянёных акадэмічных выданняў, таму ў іх і няма адпаведных спасылак на гэтыя рукапісныя фонды і рэдкія публікацыі. А што да саміх прыказак, пададзеных у слоўніку А. Аксамітава, то абсалютная іх большасць фіксуецца і ў названых акадэмічных выданнях, толькі часам з нязначнымі арфаграфічнымі ці іншымі адрозненнямі. Параўн., напрыклад, у слоўніку А. Аксамітава і ў акадэмічным зводзе: *Абяцанка-цацанка, а дурному радасьць – Абяцанка-цацанка, а дурному радасць; Госьць – нявольнік – Госць – нявольнік; Граза ў лес няйдзе – Граза ў лес не йдзець* (у іншых даведніках: *Граза ў лес не ідзе*).

А. Аксамітаў не проста падае ў алфавітным парадку прыказкі са збораў Я. Чачота, А. Вярыгі, А. Шыманоўскага і іншых фалькларыстаў, а, як піша ў прадмове, «робіць спробу ўстанавіць дэфініцыю прыказкі, выявіць сітуацыю, у якой яна ўжываецца» (с. 9). Не зусім зразумела, чаму ў многіх слоўнікавых артыкулах следам за «ўстаноўленай ім» дэфініцыяй ідзе супастаўленне загаловачнай прыказкі з іншымі прыказкамі ці варыянтамі прыказкі, занатаванымі ў працах другіх аўтараў. Напрыклад:

**Аб воўку памоўка, а воўк тут**. Гавораць, калі ў гутарцы некага ўспамінаюць, а той у гэты час з'яўляецца. **Насовіч**: Пра воўка памоўка, а воўк з падналуску; **Санько**: Пра цыгана гамана, а ён тут; Мы пра цыганку, а яна на ганку (а яна за клямку); Пра воўка памоўка, а ён на парог; Пра каго звоняць, таго чэрці гоняць; **Федароўскі**: На воўка памоўка, а мядзведзь цішком (спадцішка); Аб воўку памоўка, а воўк тут (есць).

У прыведзеным шэрагу прыказак апошняя цалкам супадае з загаловачнай, асобныя можна лічыць варыянтамі, некаторыя – сінонімамі, а *На воўка памоўка, а мядзведзь цішком* – ні тое, ні другое, ні трэцяе: яе сэнс – 'падазраваюць аднаго, а вінаваты не ён, а іншы'(СБП, с. 83).

Вызначыць сэнс вельмі многіх прыказак без апоры на іх рэальнае ўжыванне, без адпаведных маўленчых кантэкстаў з мастацкіх твораў, а толькі шляхам абстрактных разважанняў, гіпатэтычна – рызыкоўная і далёка не заўсёды паспяховая справа. Таму ў слоўніку А. Аксамітава знаходзім сотні няправільна растлумачаных прыказак.

Так, прыказка *Лепей старожа, чым варожа* гаворыцца як парада лепей дзейнічаць асцярожна, чым рызыкаваць, а ў памянёным слоўніку яна прыводзіца двойчы з недакладным тлумачэннем яе сэнсу: «Прамаўляе дбайны селянін, лічачы, што лепей страціць час на вартаванне сваёй гаспадаркі, чым быць абрабаваным» і «Лепей вартаваць, чым думаць, што не ўкрадуць». *Лес усё чуе, а поле ўсё бачыць* – прыказка пра непазбежнасць раскрыцця таго, што было чыёй-небудзь тайнай. У гэтым жа слоўніку яна растлумачана так: «У лесе адзываецца рэха, а ў полі далёка відаць».

Прыблізна і нярэдка шматслоўна, няправільна, а то і недарэчна тлумачацца многія кантэкстуальныя, а таксама сітуацыйныя прыказкі ў слоўніку А. Аксамітава. Напрыклад, *Бывала, варона лапці абувала, а цяпер грак ходзіць так* мае сэнс ‘няма чаго ўспамінаць тое, што было калісьці’ і ўжываецца як іранічная рэакцыя на слова *бывала* пры спробе суразмоўніка супаставіць што-небудзь ранейшае з сучасным. У слоўніку ж А. Аксамітава тлумачэнне такое: «мода мяняецца». Або яшчэ прыклады: *На бога спадзявайся, а сам не давайся* – «кажуць гультаю, які наракае на Бога за сваю беднасць»; *Ласка не каляска, сеўшы не паедзеш* – «іранічна пра таго, хто некаму дагаджае за ласку; добрыя адносіны яшчэ нічога не вырашаюць»; *Дзе чорт не араў, там сеяць не стаў* – «калі нехта не спадзяецца на ўдачу ў якой-небудзь справе, то ён не рызыкуе»; *Мал залатнік, ды дараг* – «адказ маладых за ганьбаванне іх росту; пра малога, які мае станоўчыя якасці, заслугі».

Прыказка *Абяцанка-цацанка, а дурню радасць,* як паказваюць шматлікія кантэксты яе рэалізацыі, абазначае ‘няма надзеі на здзяйсненне абяцанага’, а ў слоўніку А. Аксамітава апісанне прыказкі зводзіцца да пераліку толькі некалькі магчымых маўленчых сітуацый яе праяўлення: «Гэтак высмейваюць простага паслухмянага чалавека, які паверыў абяцанкам ашуканца. Таксама прамаўляе насмешна ашуканы чалавек, якога цешаць абяцанкамі, на здзяйсненне якіх няма ніякіх надзей. Кажуць яшчэ з неадабрэннем, калі не вераць у хуткае выкананне абяцання».

Сэнсавы змест прыказкі *Старой бабцы хараша ў шапцы* такі: ‘старому чалавеку неабавязкова быць добра прыбраным, прыгожа адзетым’. У слоўніку А. Асамітава знаходзім наступнае тлумачэнне: «Раней старыя беларускія жанчыны насілі шапкі-каптуры. Цэняць не тое, што на галаве, а што ў галаве».

Прыказка *Мыш капы не баіцца* мае ў даведніку такое паясненне: «Насмешліва кажуць, калі нехта, імкнучыся быццам бы пакараць каго-небудзь, стварае яму спрыяльныя ўмовы, пускае

вінаватага ў асяроддзе пражывання». У сапраўднасці ж прыказка двухзначная: 1) гаворыцца ў дачыненні да жанчыны, несуадноснай па камплекцыі да мужчын; 2) кажуць, часам іранічна, калі хто-небудзь не баіцца мацнейшага за сябе працаўніка.

Няправільную семантызацыю тут атрымалі і такія, напрыклад, прыказкі (гэта трэба ўлічваць пры карыстанні слоўнікам): *Ад напасці не прапасці; Бог не слухае, што свіння рухае; Куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй; Над сіратою Бог з калітою; На сваім сметніку і певень гаспадар; Не адзін Гаўрыла ў Полацку; Не даў бацька шапкі, няхай вушы мерзнуць; Пераначуем – болей пачуем; Хацела б душа ў рай, але грахі не пускаюць; Бог тройцу любіць; З песні слова не выкінеш.*

Выклікае здзіўленне выказаная аўтарам парада (у канцы прадмовы да слоўніка): «Чым часцей чытач будзе звяртацца да бяздоннай скарбніцы народнай мудрасці, тым багацейшым будзе ягоны слоўнікавы склад...» А ці так гэта?

Прыказкі толькі зрэдку складаюцца з двух кампанентаў (12 прыказак з 1500, змешчаных у СБП): *Госць – нявольнік; Пажывём – пабачым* і інш. Часцей сустракаюцца трохкампанентныя прыказкі (іх 81), напрыклад, *Добрае далёка чуваць*; *Можа надвое варожа.* Колькасць слоў-кампанентаў у астатніх прыказках значна большая – ад 4 да 18: *І баран бы касіў, каб хто касу насіў; Калі абора цячэ, гаспадыня бліны пячэ, а калі гумно цячэ, гаспадар з хаты ўцячэ.* Агульная ж колькасць лексічных адзінак, якія з рознай ступенню актыўнасці ўдзельнічаюць ва ўтварэнні прыказак, невялікая. У 1500 прыказках выкарыстана (з далёка не аднолькавай частотнасцю) усяго 2596 лексічных адзінак з ліку паўназначных і службовых часцін мовы. Прычым прыназоўнікі, злучнікі і часціцы з'яўляюцца найбольш актыўнымі будаўнічымі элементамі прыказак. Іншымі найбольш частотнымі выступаюць шматлікія назоўнікі (*бог* – у 62 прыказках, *чорт* – у 44, *конь* – у 39, *хлеб, галава, рука, нага, рот* і інш.), дзеясловы (*быць* – у 94 прыказках, *бачыць, баяцца, ведаць, браць* і г.д.).

Як бачым, усе гэтыя і іншыя словы, што сустракаюцца ў прыказках, добра вядомыя ўсім моўнікам. А таму ад чытання і перачытвання прыказак «запас слоў» у чытача нічуць не павялічыцца і яго актыўны слоўнікавы склад ніяк не можа ўзбагаціцца. Карысць ад чытання і запамінання прыказак – у іншым: ва ўменні іх прымяняць у маўленчай практыцы.

На гэты даведнік, як і на іншыя, крытычна ацэнены вышэй фразеалагічныя слоўнікі, нярэдка спасылаюцца некаторыя аўтары

навуковых і навукова-метадычных прац, цытуюць іх, а значыць, паўтараюць тыя самыя недакладнасці, недарэчнасці, памылкі.

Хацелася б, каб гэтага было меней і каб чытачы крытычна, з аглядкай ставіліся да некаторых слоўнікаў.

*Філалагічная адукацыя. 2010. № 2*

## МОЙ АДКАЗ СЯРГЕЮ АРЦЮХУ

Газета «Наша слова» 24 сакавіка гэтага года змясціла ліст С.М. Арцюха пад загалоўкам «Беларуская мова павінна быць дзяржаўнай на Смаленшчыне, Браншчыне і Пскоўшчыне». Я прачытаў гэты ліст і ніяк не змог утрымацца, каб не выказаць катэгарычную нязгоду з, мякка кажучы, несур'ёзнай ініцыятывай аўтара «патрабаваць ад урада РФ, каб у асобных суб'ектах федэрацыі ў якасці яшчэ адной дзяржаўнай мовы ўвялі беларускую, асабліва на Смаленшчыне, Браншчыне і Пскоўшчыне». У іншых мясцінах аўтарскага артыкула ўпамінаюцца яшчэ і Беласток, Вільня, Дзвінск.

Па-першае, нельга, як кажуць, гусей дражніць. Бо гэтыя патрабаванні моўнага характару могуць быць для кіраўніцтва нашай дзяржавы зачэпкай, каб чарговы раз абвінаваціць беларускіх «нацыяналістаў», «апазіцыянераў» у іх нібыта прэтэнзіях, не толькі моўных, але і тэрытарыяльных, да суседніх краін – Расіі, Літвы, Латвіі, Польшчы.

Па-другое, незразумела, пра якіх беларусаў Смаленскай, Бранскай і Пскоўскай абласцей клапоціцца аўтар. Праўда, ён спасылаецца на вядомую карту беларускага племя, зробленую ў свой час акадэмікам Я.Ф. Карскім. На ёй (пра гэта ведаюць сёння вельмі многія) у этнічных межах беларускай нацыі слушна, на аснове даследавання гаворак мясцовага насельніцтва таго часу, пазначана і большая частка Смаленскай губерні – аж да Вязьмы. Я.Ф. Карскі, несумненна, прымаў пад увагу і статыстычныя звесткі, што зрэдку публікаваліся на падставе перапісу насельніцтва царскай Расіі. Так, у кнізе «Смоленская губерния. Сведения 1859 г.» (выданне 1868 г.) змешчана наступная табліца:

Въ процентахъ относительно общаго населенія губерніи племенной составъ по уѣздамъ представится въ слѣдующемъ видѣ:

| Уѣзды. | Велико-россіяне. | Бѣло-руссkie. | Смѣсь. | Остальныя націонал. | Всего. |
|---|---|---|---|---|---|
| Смоленскій . . . . . . | 0,66 | 7,18 | — | 0,09 | 7,93 |
| Бѣльскій . . . . . . . | 6,05 | — | 3,30 | 0,02 | 9,37 |
| Вяземскій . . . . . . | 6,19 | — | 0,96 | 0,02 | 7,17 |
| Гжатскій . . . . . . . | 10,19 | — | — | 0,02 | 10,21 |
| Дорогобужскій . . . . | 0,30 | 4,16 | 1,83 | 0,02 | 6,31 |
| Духовщинскій . . . . | 0,37 | 5,83 | 1,19 | 0,03 | 7,42 |
| Ельнинскій . . . . . . | 0,37 | 7,76 | 0,98 | 0,04 | 9,15 |
| Краснинскій . . . . . | 0,27 | 6,35 | — | 0,04 | 6,66 |
| Порѣчьскій . . . . . . | 0,15 | 6,00 | 1,02 | 0,03 | 7,20 |
| Рославльскій . . . . . | 0,55 | 9,40 | — | 0,02 | 9,97 |
| Сычевскій . . . . . . | 8,27 | — | — | 0,01 | 8,28 |
| Юхновскій . . . . . . | 9,04 | — | 1,27 | 0,01 | 10,32 |
| Всего . . | 42,42 | 46,68 | 10,55 | 0,35 | 100 |

З табліцы бачым, што ў сямі з дванаццаці ўездаў Смаленскай губерні беларусы значна перавышаюць колькасць вялікарасіян ці складаюць абсалютную большасць насельніцтва гэтай губерні. Не будзем, аднак, забываць, што з таго часу прайшло 150 гадоў.

Як засведчана ў энцыклапедыях, Пскоў толькі нязначны час быў пад уладай Вялікага Княства Літоўскага, а з 1510 года ён ужо ў складзе Масковіі; Бранск у 1500 годзе занялі войскі Івана III, і Браншчына стала часткай той жа Масковіі; Смаленск з 1686 года паводле «Вечнага міру» паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай канчаткова замацаваны за Рускай дзяржавай. Працэс русіфікацыі беларусаў (а гэта – у асноўным сяляне, вясковае насельніцтва) быў у тыя стагоддзі марудлівы, бо яшчэ не было тады ні школ, ні газет, ні радыё, ні тэлебачання. Тое самае можна сказаць і пра XIX – пачатак XX стагоддзяў, калі Я.Ф. Карскі складаў згаданую вышэй карту. Расійскія ўлады і нават тагачасная перадавая, але з вялікадзяржаўнымі, шавіністычнымі поглядамі інтэлігенцыя прыкладалі значныя намаганні, каб гэты працэс паскорыць. Так, папулярны прадстаўнік дзекабрысцкага руху П. Песцель на старонках «Русской правды» рашуча выступаў за тое, каб беларусаў і маларосаў (украінцаў) «за сапраўдных рускіх лічыць і ад гэтых апошніх ніякімі іншымі назвамі не аддзяляць», заклікаў дабівацца таго, каб «на цэлай прасторы расійскай дзяржавы» была «адна толькі мова руская». Пушкін жа

толькі і марыў пра час, калі «славянские ручьи сольются в русском море», а пра беларусаў пісаў, што гэта «народ, издревле нам родной».

Але толькі ў перыяд існавання СССР, калі пад інтэрнацыянальным лозунгам ствараўся «адзіны савецкі народ», амаль усе гэтыя мары ажыццявіліся[4]. Рэзка змяніліся колькасныя суадносіны паміж гарадскім і сельскім насельніцтвам. Сялян, гэтых адвечных захавальнікаў моўных традыцый, стала менш за 20 працэнтаў. Непараўнальна ўзмацнілася магутнае ўздзеянне школы і сродкаў масавай інфармацыі.

Гэта выразна можна бачыць на прыкладзе нашай сучаснай Рэспублікі Беларусь, дзе яе кіраўніцтва з гонарам заяўляе: «Мы те же русские, только со знаком качества». Маўляў, свяцейшыя за папу рымскага...

Пра стан жа беларускай мовы і яе далейшы лёс – ні слова. А між тым міжнародная арганізацыя ЮНЕСКА ў мінулым годзе аднесла мову беларусаў да моў, што апынуліся пад пагрозай поўнага знікнення. Гэтага не можа бачыць толькі сляпы. Я не стану тут прыводзіць агульнавядомыя факты пра адсутнасць беларускіх школ у нашых гарадах, сярэдніх і вышэйшых устаноў адукацыі з беларускай мовай навучання, пра іншамоўную дзейнасць нашага радыё і тэлебачання, пра газеты, у якіх толькі назва надрукавана па-беларуску (скажам, «Рэспубліка», «Гродзенская праўда») і г.д. У нашым горадзе на цэнтральнай плошчы вось ужо колькі месяцаў красуецца выкананы вялікімі прыгожымі літарамі лозунг: «Я люблю тебя, Беларусь!»

Хочацца запытаць у Сяргея Арцюха: ці захавалася хоць штонебудзь беларускае ў іхнім вытворчым аб'яднанні «Азот»? У нашым, напрыклад, універсітэце я не бачу нічога беларускага, апрача вялізнай прыгожай шыльды: «Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы». Звярніце ўвагу: «імя Янкі Купалы». Хіба гэта не здзек з памяці нашага генія, прарока, апостала? Ёсць у нас на філалагічным факультэце і аддзяленне беларускай мовы і літаратуры (набіраецца толькі 22 стацыянарнікі ды 12 завочнікаў, бо няма куды размяркоўваць выпускнікоў з-за колькаснага скарачэння беларускіх школ; а было ж не так даўно – у 1991-1994 гадах – зусім іншае: 125

---

[4] Вось што чытаем у маскоўскім часопісе «Русская речь» (1972, №3, с. 125): «Процесс продвижения русского языка, идущий уже второе тысячелетие, продолжается и до сих пор. По данным переписи 1970 года, 13 млн. граждан нерусской национальности назвали русский язык родным языком. Среди них значительный процент составляют представители финно-угорских народов (мордовцы, марийцы, карелы, вепсы и др.)».

стацыянарнікаў і 50 завочнікаў). Думаю, што не толькі я, а і іншыя адчуваюць сябе тут, як абарыгены ў рэзервацыі. З горыччу і гневам прыгадваецца ясенінскае: «В своей стране я словно иностранец».

І ніхто з кіраўніцтва не збіраецца выратоўваць беларускую мову-гаротніцу ў нашай рэспубліцы. І ніякага прасвету не відно.

У канцы мінулага года адзін журналіст на прэс-канферэнцыі задаў Прэзідэнту А.Р. Лукашэнку пытанне: «Беларуская мова зараз знаходзіцца ў заняпадзе, у тым ліку з-за дэфіцыту падтрымкі з боку беларускай дзяржавы. Я прапаную ўвесці сістэму дзяржаўных грантаў і прэферэнцый для грамадскіх арганізацый, якія займаюцца моўнымі праблемамі, для беларускамоўных сродкаў масавай інфармацыі і для беларускамоўных класаў і школ». Адказ быў такі: «Вопросы языковые раз и навсегда в стране решены. По крайней мере, в тот период времени, пока я буду президентом. Мы этот вопрос однозначно решили на референдуме, и я не собираюсь вносить какие-либо дополнения и новшества».

Гэта ўсё было пра тое, як амаль дабілі дзяржаўную (па Канстытуцыі, але не дэ-факта) мову ў нас – у самастойнай, незалежнай, суверэннай РБ. А цяпер – пра Смаленшчыну (наконт Пскоўскай ды Бранскай абласцей і казаць не варта).

Беларусы ў сённяшняй Смаленшчыне – гэта нешта віртуальнае, фантастычнае, міфічнае. Няма іх там. Днём з агнём не знойдзеш іх. За больш чым трыста гадоў іх даўным-даўно пераварылі ў катле русіфікацыі. І яны канчаткова забылі, што іх продкі калісьці былі беларусамі (ці, дакладней, ліцьвінамі). З уласнага досведу ведаю: калі каму з іх нагадаеш, што іх прапрапрадзеды – беларусы, дык яны, цяпер ужо «стапрацэнтныя вялікарасіяне», і чуць не хочуць гэтага, гнеўна абураюцца на цябе, «бульбаша», а іншыя паблажліва пасміхаюцца: маўляў, у землякі набіваешся...

Праўда, асобныя ўласна беларускія слоўцы і выразы маглі цалкам застацца незабытымі і нават цяпер ужывальнымі ў моўнікаў Смаленшчыны. Так, славуты паэт Аляксандр Твардоўскі (родам з Рослаўскага ўезда) у паэме «Дом у дороги» замест рускага «косовище» выкарыстаў знаёмае з дзяцінства, ад бацькоў і дзядоў, беларускае «кассё» («И, оперши͏ся на косье, босой, простоволосый, он постоял и понял всё и не дошел прокоса»). Або ў трох выданнях паэмы «Теркин на том свете» было беларускае прыслоўе «ўначы» замест рускага «ночью» («Пить – пивал. Порой без шапки приходил, в ночи шумел. Но, помимо как от бабки, он взысканий не имел»), а пасля, відаць, нехта падказаў паэту, што няма ў рускай мове спалучэння «в ночи», і ў апошнім выданні была зроблена замена.

Калі б у якім-небудзь раёне Смаленшчыны нейкім цудам уцалела хоць некалькі вёсак, жыхары якіх, не адмаўляючыся ад «великого, могучего, правдивого и свободного русского языка», пажадалі, каб іх дзеці вучыліся па-беларуску, то адразу б узнікла невырашальная праблема: а навошта вучыць беларускую мову, калі ў далейшым яна не мае ніякага прымянення ў жыцці? У якую расійскую вышэйшую ўстанову адукацыі зможа паступіць выпускнік такой беларускай сярэдняй школы? Няма такіх. А захоча выпускнік паехаць на вучобу ў суседнюю «брацкую Беларусь», дык і тут, аказваецца, няма ніводнай ВНУ з беларускай мовай навучання. Зачараванае кола...

У якасці прыкладу двухмоўя ў Расіі С. Арцюх прыводзіць Татарстан, але, мусіць, не ведае, што ў Татарстане такая ж незалежнасць, якую БССР мела ў Савецкім Саюзе. Калі не так даўно Дума РФ абмяркоўвала і зацвярджала Канстытуцыю Татарстана, на трыбуну падняўся цяпер ужо ўсім вядомы Жырыноўскі (яшчэ больш вядомы як «сын юрыста»[5]) і рашуча заявіў: канстытуцыйны артыкул аб тым, што Прэзідэнтам Татарстана можа быць толькі чалавек, які валодае татарскай мовай, аніяк непрымальны. І амаль уся Дума пагадзілася з ім.

С. Арцюх задае цэлы шэраг пытанняў: ці выкладаецца на Смаленшчыне беларуская мова і літаратура «хаця б у асобных школках як прадмет вывучэння», ці дапамагае ўрад Беларусі беларусам Расіі мець сваё нацыянальнае жыццё, ці падтрымлівае беларускамоўных пісьменнікаў Смаленшчыны, ці дзейнічае ТБМ у РФ? І г.д. На ўсе гэтыя і іншыя пытанні адказ можа быць толькі адмоўны: не, няма там нічога гэтага. І не можа быць. Па тых жа прычынах, пра якія вышэй гаварылася, здаецца, дастаткова.

*Наша слова. 2010. 19 траўня.*

**В БЕЛАРУСИ или НА БЕЛАРУСИ?**

В печати и в устной речи беларусов оба эти предложно-падежные сочетания употребляются как равноправные. Но так ли это и как правильно? Как возникла такая синонимика?

В книге Вадима Деружинского «Тайны беларуской истории» есть глава «Беларуские национальные реалии». Одна из таких реалий рассмотрена в подразделе «Белоруссия или Беларусь?» В соответствии

---

[5] Калі Жырыноўскі вылучаўся кандыдатам у прэзідэнты Расійскай Федэрацыі, адзін з карэспандэнтаў задаў яму пытанне: «Хто Вы па нацыянальнасці?» Жырыноўскі (ён па лініі бацькі – яўрэй) адказаў: «Ну, маці мая – украінка, са Львова, а бацька – юрыст».

с законом, принятым 19 сентября 1991 года Верховным Советом БССР, наша страна стала именоваться «Республикой Беларусь», а в укороченных названиях – «Беларусь». В законе есть пункт: «Установить, что эти названия транслитерируются на другие языки в соответствии с беларусским звучанием». И сегодня это, как и положено, строго соблюдается всеми странами мира. Например, на немецких фурах, что идут по нашим автострадам, мы видим не *Weissrusland*, а *Belarus*. В Российской же Федерации до последнего времени по-прежнему пользовались старым термином «Белоруссия». Но с 1 сентября 2009 года и там, наконец, узаконили, что в России следует говорить «Беларусь», а не «Белоруссия». Один из руководителей Института русского языка РАН заявил: «По-русски надо, конечно, говорить *Молдавия* и *Белоруссия*, но здесь, опять-таки, есть политический момент. Самоназвания этих республик – *Молдова* и *Беларусь*. Для политической корректности нужно употреблять именно эти варианты». В конце прошлого года Президент РФ Д. Медведев в беседе с беларусскими журналистами сказал, что он произносит название нашей страны так, как это зафиксировано в документах ООН: *Беларусь*. «И настаиваю именно на таком произношении нашего братского государства». Однако он не стал отрицать, что «есть отдельные случаи», когда представители российского истеблишмента называют республику «Белоруссией».

В самой же нашей стране уже вряд ли кто употребляет старый термин. Но зато в падежных формах используют, как и прежде, «в Беларуси, в Беларусь» и «на Беларуси, на Беларусь». Например, в свежих публикациях журналов «Полымя», «Дзеяслоў»: «Перад самай вайной ён прыехаў на Беларусь», «Мат на Беларусі – гэта норма».

Иногда в научных статьях даже делается попытка оправдать подобное употребление. Так, в журнале «Роднае слова» (1999, № 10) доказывается, что сочетание «на Беларусі» – естественная, закономерная синтаксическая конструкция в беларусском языке, что ее широко использует современная национальная печать и что употребление сочетания «у Беларусі» – это «механическое перенесение из русского языка конструкций с предлогом "в"».

Проблема функционирования многочисленных предложно-падежных конструкций с пространственным значением детально и на большом фактическом материале исследована профессором М.С. Явневичем в его монографии «Сінтаксічная сінаніміка ў сучаснай беларускай літаратурнай мове» (1977). Есть в этой книге и описание сочетаний «у Беларусі» и «на Беларусі». Они квалифицируются как синонимические, взаимозаменяемые. Автор пишет: «Смысловые

различия между ними настолько незначительны, что при выборе конструкции с “у” или “на” почти не принимаются во внимание. Однако при использовании этих сочетаний следует иметь в виду, что предложно-падежная форма “на Беларусі” по значению близка к сочетанию “на территории Беларуси”, а “у Беларусі” – к сочетанию “в Беларусской республике”».

Невозможно, однако, представить, чтобы такая синонимика использовалась по отношению к каким-либо другим странам. Никто не скажет: «Это случилось на Японии» (вместо «в Японии»), «Ездил я на Польшу» (вместо «в Польшу»). Во всех языках славянской языковой группы в таких случаях употребляется предлог «в» (в беларусском – «у»). Если речь идет о какой-нибудь территории или названии города, деревни, района, области, республики, государства, то предлог «в» (в беларусском – «у») с предложным падежом существительного показывает нахождение внутри этой местности, которая представляется в таком случае строго ограниченным пространством: *в Индии, в Польше, в Грузии, в Китае, в Греции, в Германии, в Турции* и т.п. Таким образом, «у Беларусі» – это внутри республики. Во всех случаях имеется в виду территориально ограниченное пространство.

Если же говорится о местности без резко очерченных границ (например, с названием гор, островов, рек), то употребляется предлог «на»: *на Алтае, на Кавказе, на Сахалине, на Кубани, на Днепре, на Полесье.* Сохранилось также традиционное употребление предлога «на» с названием местностей бывшего Великого Княжества Литовского: *на Полтавщине, на Черниговщине, на Гродненщине, на Смоленщине, на Брянщине* (сравним вряд ли возможные сочетания: *на Московщине, на Саратовщине, на Краковщине*).

В Статуте ВКЛ, Литовской метрике и других письменных источниках нашего государства прошлых эпох предложно-падежные конструкции со значением «внутри чего-либо» фиксируются только с предлогом «в»: *в Великом Княжестве Литовском...*

Когда же в конце XVIII в. земли ВКЛ были насильственно присоединены к России, а в XIX в. стали называться сначала «Белоруссией», а потом «Северо-Западным краем», то колонизаторы официально считали это «воссоединением с Россией» и «освобождением от польского ига». Началась усиленная русификация посредством таких рычагов, как русская школа, русское начальство, русская православная церковь. Руководитель «Северо-Западного края» генерал-губернатор Муравьев («Вешатель») говорил: «Что не смог сделать русский штык, доделает русская школа». Ему же принадлежит и такая установка: «В Северо-Западном крае так называемый белорусский язык необходимо

свести на нет. Ибо, если этого не сделать, он постоянно будет инспирировать мысль об отдельном белорусском народе и о праве этого народа на этническую самобытность и национально-государственную суверенность, чего допустить нельзя».

Несмотря на откровенно проводимую политику лингвоцида (уничтожения языка), во второй половине XIX в. появились первые беларусские писатели В. Дунин-Мартинкевич, Ф. Богушевич. Их произведения печатались нелегально и латиницей. Но ни в этих произведениях, ни в работах фольклористов и этнографов (П. Шейна, Е. Романова, Е. Ляцкого, И. Носовича) – нигде не встречается сочетание «на Белоруси». В работах же И. Носовича («Словарь белорусского наречия», «Сборник белорусских пословиц») есть соответствующее сочетание с предлогом «в»: *в Белоруссии*.

После революции 1905 года начали легально издаваться беларусские газеты, стали печататься Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля, Цётка и другие. Здесь уже (например, в газете «Наша ніва») находим оба сочетания: чаще «у Беларусі», изредка «на Беларусі».

**Истоки**

Можно с уверенностью предполагать, что предложно-падежное сочетание «на Беларусі» появилось не в живой народной речи, а книжным путем – под влиянием русских и украинских книг, газет, фильмов, радио.

Сами украинцы в досоветское время не говорили, что они живут «на Украине». Употребляли только «в Україні». И Тарас Шевченко в 1847 г. писал: «Мені однаково, чи буду я жить в Україні, чи ні». Или: «Сю ніч будуть в Україні родиться близнята. Один буде, як той Гонта, катів катувати!» Сочетание «на Украине», скорее всего, возникло в России. После того как Украина стала частью Российской империи, слово «Украина» начали (с шовинистических позиций) отождествлять с «окраиной». По аналогии с «на окраине» стало употребляться «на Укра́ине (Укра́йне)» – с перенесением ударения с третьего слога на второй. К примеру, в поэме Пушкина «Полтава» девять раз использована «Украйна» в разных падежных формах: «Украйна глухо волновалась», «И перенес войну в Украйну», «Но независимой державой Украйне быть уже пора» и т.д. Сравним и в повести Гоголя «Тарас Бульба»: «Началась разыгрываться схватка на Украйне за унию». И сейчас еще по российскому и беларусскому радио и телевидению нередко можно услышать «укра́инец, укра́инский, Укра́ина» (с неправильным ударением).

Из письменных памятников известно, что первое упоминание слова «Украина» как название надднепровской части Руси (Киевской) относится к 1187 году, а второе – 1189 год – в применении к Галицкому княжеству. Хотя это было задолго до первого упоминания о Московском княжестве (там еще волки выли), но на это Россия XVIII-XX вв. не обращала никакого внимания и не себя именовала окраиной Руси-Украины, а наоборот. Ведь, «начинается земля, как известно, от Кремля», – на полном серьезе утверждал Сергей Михалков – пятикратный лауреат Сталинской премии, автор гимна с начальным куплетом: «Союз нерушимый республик свободных сплотила навеки великая Русь».

Даже в начале XX в. один из губернаторов в рапорте министру внутренних дел России предлагал слово «Украина» объяснять как «окраину Российской державы с давних времен». А в советский период, как пишет профессор Я. Родевич-Винницкий в книге «Україна: від мови до нації» (1997), «употребление предлога «в» со словом «Україна» квалифицировалось как буржуазно-националистическое» (с.32).

**Сегодня**

В сегодняшней Украине на всё это смотрят с недоумением и иронией. Например, бывший Президент Украины Кучма издал книгу «Украина – не Россия», а известный украинский писатель Борис Олейник задает риторический вопрос: «Как могли себя осознавать россиянами извечные украинцы, издавна жившие на берегах Днепра, более чем семь веков до рождения Москвы, основанной киевским князем, и которая потом уже стала столицей Российской державы?»

После 1990 г., когда Украина стала суверенным государством, его руководство и средства массовой информации решительно отказались от навязанной им конструкции «на Украине». И это последовательно соблюдается во всей стране. Но, как говорится в названной выше книге В. Деружинского, «категорическим неприятием и всяческими издевками ответили россияне на «малозначущую» просьбу Украины писать отныне не «на Украине», а «в Украине». А сатирик Михаил Задорнов высмеял этот призыв на телевидении».

Однако собака лает, а караван идет. В современных российских, а также беларусских текстах почти во всех случаях используют «в Украине», «ва Украіне».

Сталин в свое время говорил: «Белоруссия – не просто окраина нашей державы. Она – форпост социализма на западе страны». Но всё

это ушло в далекое прошлое. Сама логика подсказывает: давно пора и нам писать и говорить только «у Беларусі».

*Аналитическая газета «Секретные исследования». 2010. № 8.*

## ПРА ТОЕ, ШТО НЕ ТРАПІЛА Ў СЛОЎНІК

У чэрвені мінулага года на паліцах кнігарняў з'явіўся мой двухтомны «Слоўнік фразеалагізмаў», апублікаваны выдавецтвам «Беларуская Энцыклапедыя». Відаць, кожнага ўражвае яго даволі прыстойна зробленая вокладка. І велічыня: у першым томе 672 старонкі, у другім – 704. Праўда, кошт слоўніка адпужвае: кожны том – па 50 тысяч рублёў.

Як адзначалася ў рэцэнзіі, змешчанай у «Нашым слове» (9.07.2008), «гэта самы грунтоўны і самы поўны збор фразеалагічных адзінак у гісторыі беларускага мовазнаўства». Усебаковае апісанне тут атрымалі каля 7000 фразеалагізмаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

Шкада толькі, што рэдакцыя, кіруючыся сваімі меркаваннямі, не ўключыла ў гэты слоўнік некалькі выразаў, шырокая вядомасць якіх у нашай мове можа быць пацверджана дзесяткамі прыкладаў з сучаснай літаратуры. Скажам, выраз **малодшы брат**, што значыць «Беларусь, беларусы ў адносінах да Расіі, рускіх», ужываўся яшчэ на пачатку мінулага стагоддзя. Язэп Лёсік пісаў: *Ад адной думкі злучыцца з самадзяржаўнай Расіяй «малодшых братоў» кідала ў жар і праймаў халодны пот.* Яшчэ толькі некалькі прыкладаў з вялікага мноства: *«Малодшаму брату» – беларусам царызм дазволіў адкрываць пачатковыя школы на іх роднай мове толькі ў 1914 г., г.зн. у год, калі грымнула Першая сусветная вайна* (Л. Лыч); *Відаць, спрацавалі не навуковыя аргументы, а ідэалагічныя штампы «малодшага брата» і каланіяльная псіхалогія* (У. Конан); *У застоллі мы называлі Івана старэйшым братам, бо ў Савецкім Саюзе расеец, які яшчэ пад стол пехатой хадзіў, быў старэйшым братам, а любы стагадовы дзед іншай нацыянальнасці быў малодшым братам* (Р. Барадулін).

Выраз **старэйшы брат**, антанімічны з папярэднім, часцей ужываецца з адценнем неадабрэння і абазначае «Расія, рускія ў адносінах да Беларусі, беларусаў». Вось некаторыя ілюстрацыі яго ўжывання: *«Старэйшых братоў» можна зразумець. Ім не дае спакою настальгія па імперыі* (І. Макаловіч); *– Не ведаеш ты гісторыі свайго народу, шаноўны імяніннік! – усміхнулася Надзея. Яна пабляднела ад хвалявання, вочы яе бліщчэлі. – Усё ў нас было, як у добрых людзей, але нашы рабы-гісторыкі пішуць нашу гісторыю так, каб яна*

*падабалася старэйшаму брату. А мы – малодшы брат, які і жыве дзякуючы таму, што ў яго ёсць мудры і магутны старэйшы брат* (У. Дамашэвіч); *Наша ўшчэнт карумпаванае кіраўніцтва спешна рыхтуецца ў абдымкі да старэйшага брата ў якасці «суб'екта» запланаванай канфедэрацыі* (В. Быкаў).

Акалічнасна-прыслоўны фразеалагізм **да белых мядзведзяў** мае афарбоўку іранічнасці, ужываецца пры дзеясловах *завезці, загнаць* і падобных, абазначае «ў канцэнтрацыйныя лагеры на поўначы ці ўсходзе Расіі: *Як кожны прадажны чалавек, ён падвёў яшчэ й саветы, і за тое, забыўшыся пра іх ранейшыя «заслугі», а можа, і дзеля іх, схапілі чэкісты і гэтую пару і, як усіх, паперлі да белых мядзведзяў* (Л. Геніюш); *Было іх 20 асоб, хацелі беларускай мовы ў школах. Загналі іх, нават шаснаццацілетніх, «да белых мядзведзяў»* («Маладосць»); *Каб не паехаць да белых мядзведзяў, выбірае палескі хлопец родныя лясныя абшары. Сорак два гады блукаў ён па балотах, начаваў ў капе сена ў глухім непрыветным лесе* («ЛіМ»); *Даведаюцца саветы, што памагаў партызанам [несавецкім] – зараз прыедзе чорны воран і вывезе да белых мядзведзяў* («Полымя»).

Фразеалагізм **архіпелаг Гулаг** мае значэнне «канцэнтрацыйныя лагеры ў перыяд сталінскага таталітарызму»: *Цяпер, калі прачытаў «Споведзь», якую Геніюш пісала з пэўнай магчымасцю зноў наведаць «архіпелаг Гулаг», зразумеў, што чуў частку нашае гісторыі з першых вуснаў* (Р. Барадулін). *З ярлыкамі «ворагаў народа», «нацдэмаў», «здраднікаў радзімы», «іншадумцаў» і г.д. яны па волі «руководящей и направляющей силы» ўтварылі жудасны на планеце архіпелаг Гулаг* (А. Мяснікоў); *Малады паэт атрымаў дзесяць гадоў зняволення, быў адпраўлены ў найжорсткую пашчу архіпелага Гулага, адкуль змог вызбавіцца толькі ў пяцідзесятых гадах, у час «хрушчоўскай адлігі»* (А. Лойка); *І шмат хто з нас, чыя прафесія слова, нават удзячныя ўладам за іх выкрутны «лібералізм», за тое, што, як паўстагоддзя назад, не заганяюць нас у Курапаты, не ссылаюць у архіпелаг Гулаг* (В. Быкаў). А паходзіць гэты фразеалагізм ад назвы трохтомнай кнігі (1958–1979) А. Салжаніцына. У ёй расказваецца пра турэмную і лагерную сістэму ў Савецкім Саюзе з 1918 па 1956 г., пра следства, суды, этапы, ссылку і «душэўныя змяненні за арыштанцкія гады».

Яшчэ адзін фразеалагізм не трапіў на сваё алфавітнае месца, хутчэй за ўсё, таму, што ўсе пяць рэдактараў – жанчыны. Гэта выраз **слабая на перадок**, які ўжываецца пры дзейніку са значэннем асобы жаночага полу і мае сэнс «схільная быць у сужыцці, полавай сувязі са

многімі мужчынамі»: *Каця ласкавая была, каб цябе вылечыць, а плётка пайшла, што на перадок слабая. А? Гэта прыемна слухаць?* (А. Макаёнак); *Я не пра ўсіх баб пяю, а пра Феньку сваю, падлу. Яна ў мяне на перадок слабая, пры мне, жывым мужыку, любіла ў чужыя гароды заглядваць, а без мяне і падаўна* (В. Шабалтас); *Дзяцей трэба ў чысціні выгадаваць, без смецця твайго, яны не вінаватыя, што маці ў іх слабая на перадок* («Полымя»).

Прыклады-цытаты ў тлумачальным фразеалагічным слоўніку з'яўляюцца неад'емнай часткай слоўнікавага артыкула. Яны выступаюць дадатковым сродкам семантычнай інфармацыі аб фразеалагізме, садзейнічаюць асэнсаванню яго значэння, пераконваюць у сапраўдным існаванні фразеалагізма ў літаратурнай мове і значэння ці значэнняў, якія сфармуляваны ў дэфініцыях. Апраўдальныя цытатыілюстрацыі даюць поўнае ўяўленне пра нарматыўнае функцыянаванне фразеалагізма ў маўленні, пацвярджаюць пададзеныя ў слоўнікавым артыкуле звесткі семантычнага, граматычнага і стылістычнага плана.

«Слоўнік без прыкладаў, – пісаў Вальтэр, – гэта шкілет!» На жаль, і ў маім слоўніку аж 58 фразеалагізмаў «аголена», яны пададзены, па не залежных ад мяне прычынах, як «шкілеты». Напрыклад, **міна запаволенага дзеяння** прыводзіцца ў такім выглядзе: «*Адз. і мн. У ролі розных чл. ск. Функц. не зам. Неадабр.* Тое, што пагражае небяспечнымі наступствамі». А ў рукапісе выраз меў такія цытаты: *У 30-я гады рукапісы станавіліся для іх аўтараў мінай запаволенага дзеяння, – іх нярэдка падшывалі да судовай справы ў якасці «доказаў» варожай думкі, – і часта служылі «падставай», каб «прышыць» пісьменніку 58-ы артыкул крымінальнага кодэкса – «антысавецкую прапаганду»* (У. Конан). *Пытанне аб дзяржаўнасці рускай мовы было вынесена на рэферэндум... Гэта ўсё заклала міну запаволенага дзеяння для юнага пакалення: зараз у Беларусі паўтара мільёна школьнікаў, з іх менш паўмільёна вучыцца ў беларускіх класах* (В. Класкоўская); *Кааліцыя дазволіла б абысці пакінутыя каланіяльнымі адміністрацыямі міны запаволенага дзеяння – моўныя, рэлігійныя пытанні* (Б. Тумар).

Сустракаючы ў слоўніку «аголеныя» выразы, можна падумаць, што тэарэтычна яны магчымыя, а практычна не маюць пацвярджэння іх ужывальнасці ў пісьмовых літаратурных крыніцах. Але гэта не так. Да прыкладу, ужыванне дзеяслоўнага фразеалагізма **наступаць на граблі**, што значыць «рабіць непрадуманы крок з магчымымі непрыемнымі наступствамі для таго, хто гэта робіць», можна праілюстраваць такімі сказамі: *Паслушэнства, падпарадкаванасць і*

*пакорлівасць змушалі нашых людзей наступаць на граблі, якія яшчэ раз стукнулі іх па лобе* («Звязда»); *Ю. Віцьбіч – пісьменнік непрадказальны, загадкавы, творам якога часцей уласцівы і іншасказальнасць, «скрытая» асацыятыўнасць, «намёкавасць» (таму і здаралася, што савецкія публікатары ягоных апавяданняў ці нарысаў... «наступалі на граблі»)* (А. Пашкевіч). Гэты выраз рэалізуецца і ў форме закончанага трывання «наступіць на граблі»: *Улады хутка зразумелі, што зноў наступілі на граблі, і праз 16 гадзін [арыштаванага] выпусцілі. Праўда, з умовай, што пасля з'езда ён усё ж адбудзе пакаранне* («ЛіМ»).

Ілюстрацыйным матэрыялам да фразеалагізма **баль у часе чумы** (= вясёлае, бестурботнае існаванне каго-небудзь у бядотную для іншых часіну) могуць быць наступныя цытаты: *Усё гэта святкаванне юбілейнай перамогі... нагадвае класічны баль у часе чумы* (В. Быкаў); *Глядзіш па тэлебачанні на знаёмыя сыценькія твары і думаеш: баль у часе чумы!* («Народная газета»); *Сыдуць прэч быццё быдлячае, дзікі баль у час чумы... І прачнуцца душы спячыя: «Божа, глянь! А гэта ж – мы!»* (С. Законнікаў).

У памянёнай напачатку рэцэнзіі таксама звярталася ўвага на тое, што чамусьці ў даведніку не ўсе фразеалагізмы маюць апраўдальныя цытаты-ілюстрацыі, і называліся 9 такіх «аголеных» выразаў. Але, як ужо адзначалася, іх не 9, а 58. Пададзім яшчэ некалькі такіх фразеалагізмаў, у дужках тлумачачы іх змест, а затым ілюструючы іх ужыванне дзвюма-трыма цытатамі.

**Зайцы поле гнояць** *у каго, каму* (= хто-небудзь кепска, нядбайна вядзе сельскагаспадарчыя справы). *А ці не таму нам так не хапае грошай з зарплаты, што кормім мы тыя калгасы і саўгасы, у якіх зайцы поле гнояць* (В. Гроднікаў); *У нас па-ранейшаму, вобразна кажучы, зайцы поле гнояць ды коні такія дагледжаныя, што на выгане вароны на спіны садзяцца* («Народная воля»).

*Каго, што* **выносіць за дужкі** *чаго* (= не лічыць каго- ці што-небудзь састаўной часткай чаго-небудзь, прадметам увагі, аналізу і пад.). *У бальшавіцкай крытыцы ёсць апраўданы за шмат гадоў прыём: галоўнае выносіць за дужкі. Пра яго не гаворыцца, яно толькі маецца на ўвазе. А гаворыцца пра нейкія мастацкія недахопы, пра нейкую нетыповасць і гэтак далей* («Полымя»); *Амаль палова здабытчыкаў беларускай літаратуры была як бы вынесена за дужкі нацыянальнай культуры* (В. Быкаў); *Калі пачнецца перагаворны працэс, пытанне легітымнасці ўлады неабходна вынесці за дужкі бягучага палітычнага моманту* («Народная воля»).

**Два канцы адной палкі** (= вельмі блізкія ці аднолькавыя ў якіх-небудзь адносінах з'явы – рэжымы, вучэнні і пад.). *Што ж датычыцца ідэалогіі, дык камунізм і фашызм маюць, так бы мовіць, асявую сіметрыю або, як кажуць у народзе, ёсць два канцы адной палкі* (В. Быкаў); *Ён кажа: рускія павінны зразумець, што нацызм і камунізм ёсць два канцы адной палкі* («Полымя»); *Яе бацьку, віднага чэкіста, знішчылі свае ж перад вайной, а маці павесілі гітлераўцы. Зноў: два канцы адной палкі* («Маладосць»).

**Затыканне дзірак** *у чым* (= ліквідаванне якіх-небудзь недахопаў у чым-небудзь). *Інфляцыйную нацэнку ў значнай ступені скарыстае дзяржава для затыкання дзірак* (У. Кулажанка); *Куды ж дзяваецца розніца, якую возьмуць з нашай кішэні? Ды ўсё туды: на затыканне дзірак, якіх шмат у паміраючай эканоміцы, у бюджэце* (М. Дзелянкоўскі).

**Паставіць на паток** *што* (= зрабіць што-небудзь сістэматычным, паслядоўным, бесперапынным). *Так атрымалася, што «скасаванне» Быкава ў нашай краіне пастаўлена на паток. Быкаў усім недэмакратычным уладам быў няўгодны* (Р. Барадулін); *У Пятра адабралі пашпарт і новенькі чырвоны дыплом. Гэта справа ў міліцыі была пастаўлена на паток. Такіх, як Пятро, тут было шмат, і таму дзяжурны паспяваў толькі складваць у сейф дакументы затрыманых* (Я. Палубятка).

**Пайсці наперадзе прагрэсу** (= пачаць, праяўляючы якую-небудзь ініцыятыву, дзейнічаць неразумна, нелагічна і пад.). *Некаторыя маладыя «адраджэнцы» і «актывісты» самі не вызначаліся ні гэтай свядомасцю, ні патрэбнай культурай. І болей рабілі шкоды, чым карысці, для прэстыжу, для аўтарытэту самой мовы. І адкуль толькі раптам выскачылі, пайшоўшы наперадзе прагрэсу?* (В. Вітка); *Каля 60 «інжынераў чалавечых душ» адкрыта, у друку, выступілі з заявай у падтрымку ліквідацыі дзяржаўнай самастойнасці Беларусі. Неверагодная рэч! Наперадзе прагрэсу пайшлі сейбіты разумнага, добрага, вечнага...* (Н. Гілевіч).

**Расплюшчваць вочы** *каму на каго, на што* (= дапамагаць зразумець сапраўднае становішча; рабіць відавочнай праўду аб чым-, кім-небудзь). *Вобраз швачкі расплюшчвае нам вочы на лёс збяднелага беларускага яўрэйства* («Роднае слова»); *Як бы хто ні ацэньваў перыяд так званай перабудовы, аднак жа відавочна, што ён дапамог людзям на многае расплюшчыць вочы* (М. Гіль); *Чаму нават на гэты мізер кніг, што расплюшчылі вочы на нас саміх, не знайшлося грошай не толькі ў дзяржавы, але і ў «новых беларусаў»...* («Настаўніцкая газета»).

Як сказана ў «Прадмове» да слоўніка (с. 6), яго крыніцай «стала картатэка, створаная аўтарам шляхам франтальнага і выбарачнага распісвання мастацкай, публіцыстычнай, навукова-папулярнай і навуковай літаратуры галоўным чынам ХХ ст.» А на с. 32–37 прыводзіцца спіс аўтараў, творы якіх выкарыстаны ў слоўніку. Тут 470 прозвішчаў (беларускія пісьменнікі, літаратуразнаўцы, мовазнаўцы, журналісты). Апрача таго, даецца спіс іншых крыніц слоўніка – 20 назваў перыядычных выданняў (часопісаў, газет). На працягу многіх дзесяцігоддзяў мною выпісваліся з друкаваных літаратурных крыніц урыўкі і сказы з фразеалагізмамі, а пры складанні слоўніка я адбіраў з картатэкі найбольш прыдатныя прыклады, у тым ліку і такія, у якіх адчуваецца дыханне часу (так і павінна быць у тлумачальным слоўніку). Цяпер хацелася б, каб хоць частка прыкладаў, апушчаных рэдакцыяй, але ў навуковых мэтах крайне неабходных на адпаведных старонках слоўніка, не прапала бясследна. Таму і спадзяюся на іх захаванне праз публікацыю ў «Нашым слове».

Сярод фразеалагічнага складу літаратурнай мовы прыкладна 15 працэнтаў належаць да мнагазначных выразаў, маюць не адно, а часцей два, тры, чатыры значэнні. Ёсць 7 пяцізначных выразаў *(на ўсе застаўкі, на нагах, падымаць на ногі, на ўвесь рост, на руках, сам па сабе, ставіць на ногі)* і адзін *(разявіць рот)* шасцізначны. Мнагазначнасць фразеалагізмаў знайшла сваё адлюстраванне ў слоўніку. Але адзін двухзначны фразеалагізм – **персона нон грата** – чамусьці пададзены як адназначны. Апушчана яго другое значэнне – «грамадзянін, нераўнапраўны ў сваёй краіне, непажаданы для ўлад», напрыклад: *Для Масквы я цяпер персона нон грата. Вось і жыву ў Вільні. Але баюся, што і тут скора буду персона нон грата* (Л. Арабей); – *Пра мяне нельга пісаць – персона нон грата... – ён рашуча загортвае запісную кніжку і кладзе ў кішэню* (В. Палтаран); *Хай вам імя – легіён. Ды жыць не ўмееш багата, не ўмееш нажыць мільён, – ты – персона нон грата* (А. Вярцінскі); *Запланаваў зборнік вершаў Ліны Кастэнка (не названая тым хлюстам персона нон грата)* (М.Дубянецкі).

Яшчэ адзін двухзначны выраз змешчаны без адпаведных цытат. Гэта – **ні да рады ні звады.** Яго першае значэнне – акалічнасна-прыслоўнае «абыякава, раўнадушна, не выяўляючы сваіх пачуццяў (трымацца, паводзіць сябе)»: *«А што гэты самы арыштаваны Сак, чаму ён трымаецца ні да рады ні да звады, ён што, не разумее, якая кара яго можа напаткаць?» – пацікавіўся Гук* (С. Астравец). Другое значэнне – прыметнікавае «раўнадушны, абыякавы»: *Уразіла, што болей ніхто з мінакоў не ўзняў галавы. Абыякавасць? Нармальнасць? Або папросту людзі нашы – ні да рады ні да звады*

(«Дзеяслоў»). Дарэчы, гэты выраз фіксуецца яшчэ толькі ў адным даведніку – «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т. 4, с. 553), але без цытаты і з недакладнай сэнсавай характарыстыкай «пра каго-небудзь, хто не мае характэрных індывідуальных якасцей».

У сямі мнагазначных фразеалагізмах адно са значэнняў падалі ў маім слоўніку без ілюстрацыйных прыкладаў. Напрыклад, выраз **без гальштукаў** з другім, акалічнасным значэннем «у неафіцыйных абставінах (сустракацца)» павінен быў ілюстравацца цытатай: *Чаму прэзідэнты іншых краін не асабліва любяць хакей? Выдатная была б і для іх магчымасць сустрэцца са сваім калегам. Без гальштукаў, але пры гледачах. Пра жыццё пагаварыць, справы абмазгаваць* («Наша ніва»).

*Наша слова. 2009. 8 крас.*

## ДАДАТАК ДА СЛОЎНІКА

Гэты артыкул варта лічыць працягам папярэдняга «Пра тое, што не трапіла ў слоўнік».

Тут, апрача раней прыведзеных, змяшчаюцца выразы, якія ў слоўніку толькі характарызуюцца з семантычнага, граматычнага і стылістычнага боку, але не ілюструюцца. У якасці ілюстрацый падаём толькі па адным прыкладзе.

**Абліванне граззю** *каго* (= несправядлівае абвінавачванне, незаслужанае зневажэнне). *Масей Сяднёў як мага стараўся быць нейтральным да бакоў, што змагаліся між сабой, не займаўся паклёпніцтвам і абліваннем граззю свайго непрыяцеля* («ЛіМ»).

**Адзін да аднаго** (= зусім аднолькавыя; часцей пра якія-небудзь непрыемнасці). *На беларускую справу на Беларусі заўсёды не ставала сродкаў. Не ставала на пачатку стагоддзя, гэтак не стае і зараз на самым канцы яго – сітуацыя з выданнем беларускай кнігі амаль тая ж, ці не адзін да аднаго* (М. Гіль).

**Ад яйца** *пачынаць (пачаць)* (=з самага пачатку). *Я раскажу табе якую-небудзь займальную гісторыю... Напрыклад?.. Напрыклад, калі пачынаць ад яйца, паслухай, кім я марыў стаць у дзяцінстве* (У. Арлоў).

**Біццё бібікаў** (= гультайства, бяздзейнасць). *Алесь Лявонавіч, відаць, з цікавасці да магчымага сюжэта, а я проста ад працяглага біцця бібікаў выказалі пажаданне азнаёміцца з статутам і мэтамі казацкае вольніцы* (М. Скобла).

**Бурыданаў асёл** (= крайне нерашучы чалавек, які хістаецца, вагаецца ў выбары паміж двума раўнацэннымі рашэннямі ці

раўназначнымі жаданнямі). *[Кардонскі:] Я зусім у органы не збіраўся, мяне накіраваў райкам камсамола. Бо сам як бурыданаў асёл... Стаяў на раздарожжы, не ведаючы, што выбраць: ці дарагую мне гісторыю, ці такую ж літаратуру, ці журналістыку* (С. Дубавец).

**Валтасараў баль** (= вясёлае, легкадумнае існаванне каго-небудзь у бядотную для іншых часіну). *Робіцца гэта ўсё ў дагоду і па камандзе тых сіл, якія ладзяць валтасараў баль...* (М. Скобла).

**Выкідвацца за борт** (= адхіляцца як непатрэбнае, непрыдатнае). *Цяпер жа, калі адроджаная беларуская гісторыя выкідваецца за борт, калі ўсё вяртаецца на кругі свае, ход развіцця шмат якіх людзей зноў падаецца неаб'ектыўна і тэндэнцыйна, у духу бальшавіцкіх ідэй...* («Наша слова»).

**Выпроставаць спіну** (= пазбаўляючыся пасіўнасці, абыякавасці, пачынаць дзейнічаць на поўную сілу сваіх здольнасцей, магчымасцей). *Пад сатрапаўскім ціскам мяккіх ічыгаў Сталіна, якія з замілаваннем апяваліся ў многіх мастацкіх творах, не толькі нашаму народу цяжка было выпрастаць спіну* (С. Законнікаў).

**Гайкі закручваюцца** (= строгасці ўзмацняюцца, патрабаванні павышаюцца). *Як адзначаюць сведкі, гайкі палітычнага ўціску ў Туркменістане закручваюцца ўсё тужэй. І пакутуюць ад рэпрэсій не толькі самі «арганізатары» замаху, але і іх сваякі* («Народная воля»).

**Забіць у званы не паглядзеўшы ў святцы** (= распачаць што-небудзь недарэчы, не разабраўшыся ў чым-небудзь). *[«Нашай ніве»] у віну выстаўлялася тое, што яна быццам бачыла свой народ адзіным, бяскласавым мужыцкім народам і гэтым самым затушоўвала класавыя супярэчнасці, што было ў інтарэсах эксплуататарскіх класаў, выразніцай якіх нібыта з'яўлялася газета. Аднак гэтыя «знаўцы», што называецца, «забілі ў званы не паглядзеўшы ў святцы»* («Полымя»).

**Завысока ляцець** (= трымаць сябе высакамерна, фанабэрыста). *[Клара:] Так што, дружа, падцягніся, а не... жалезны савецкі дзяржач зробіць інакш. [Лось:] Дзевачка, завысока ляціш* (У. Галубок).

**Затыканне рота (ратоў) (**= забарона свабодна выказваць свае думкі). *Пасля многіх гадоў маўчання, затыкання рота і цэнзуры плаціны прарываюцца і бурныя, магутныя, паўсюдныя плыні слоў заліваюць усё* (В. Быкаў); *Для нас карціна злачынства ўвогуле ясная. Як ясная і мэтанакіраваная палітыка па «затыканні ратоў»...* (П. Шарамет).

**Звядзенне канцоў з канцамі** (= пераадольванне якіх-небудзь перашкод, узгадненне розных бакоў чаго-небудзь). *Уладамі было дадзена бязглуздае тлумачэнне: маўляў, плошча была пераймена-*

*вана, а на перайменаванне станцыі рашэння няма... Ну, ці не смешна? Калі гэта і так, то звядзенне канцоў з канцамі – справа папяровая, яна не патрабуе ніякіх высілкаў і выняткаў* («ЛіМ»).

**З катніх рук** *прыйсці (прыходзіць)* (=невядома адкуль). *Пра чалавека з невядомым мінулым і няпэўнымі паводзінамі ў сучасным, якому, аднак, даверылі важлівую справу, [Дубавец] мог сказаць: – Прыйшоў сюды з катніх рук, а ты яму вер* (У. Караткевіч). Выраз фіксуецца ў «Слоўніку беларускай мовы» І.І.Насовіча (с. 629) з этымалогіяй «уцёк ад катаў» і прыкладам «Прыйшоў з катніх рук, а вы яго трымаеце».

**Кіданне слоў на вецер** (= безадказнае, неабдуманае гаварэнне). *Беларусы – нацыя паэтаў выразна паветранай стыхіі. Кіданне слоў на вецер, ловы ветру ды і іншыя марнасці зрабіліся ў нас калі не нацыянальным спортам, дык сталым заняткам* (А. Хадановіч).

**Кісларод перакрыты** *каму, чаму* (= створаны неспрыяльныя ўмовы для чыёй-небудзь дзейнасці). *Ад абразы, паклёпаў балюча ўздымацца, перакрыты надоўга калі кісларод* («Народная воля»).

**Крэсла хістаецца** *пад кім, чыё* (= чыё-небудзь службовае становішча аказваецца нетрывалым, хісткім). *У рэдакцыі сталі шаптаца, што крэсла пад Агеевым хістаецца і да адстаўкі застаецца ўсяго некалькі тыдняў* («Дзеяслоў»).

**Курэнне фіміяму** (= надзвычайнае ўзвялічванне, ліслівае праслаўленне каго-небудзь). *Ад нечаканасці і такога адкрытага курэння фіміяму я ледзь не з’ехала пад трыбуну, што стаяла побач* (В. Паўлава).

**Ламанне хрыбта** *каму, чаму* (= бязлітасная расправа з кім- ці чым-небудзь). *І вось настаў верасень 1939 года – доўгачаканы дзень Вызвалення. Амаль адразу і ў нас пачалося ламанне хрыбта ўсяму здароваму, назапашанаму чалавецтвам за мінулыя стагоддзі* (А. Карпюк).

**Ламацца цераз (праз) калена** (= рашуча адхіляцца, адкідацца). *Цераз калена ламаюцца традыцыйныя структуры кіравання, выбарнасць як найважнейшы элемент акадэмічнага жыцця ліквідуецца* («ЛіМ»).

**Мяшацца з граззю** (= усяляк прыніжацца, беспадстаўна абвінавачвацца). *Наша роднае ўхілялася ўбок, аддавалася на смех, выскалянне і кпіны, тапталася нагамі і мяшалася з гразёю, а за прыклад выстаўлялася чужое, велікарускае, дзецям не даступнае і малазразумелае* (Я.Лёсік).

**Не пераламаць хлеба** *з кім* (= з-за непрыязнасці да каго-небудзь не сесці з ім за адзін стол частавацца). *Тут сястра ўпала*

*амаль у істэрыку, яе дачка пачала плакаць, каб я ў іх засталася, сын ужо прынёс гарэлку. «Не, – сказала я, – з такімі людзьмі не пераламлю я хлеба» – і выйшла* (Л. Геніюш).

**Павесіць замок на рот** *каму* (= прымусіць каго-небудзь маўчаць, не даць гаварыць). *Няхай жыве народ у думцы, у згодзе, у бунце, яму замок на рот павесіць не спрабуйце* (Р. Барадулін).

**Падзел скуры незабітага мядзведзя** (= заўчаснае размеркаванне прыбытку ў яшчэ не зробленай справе). *Складвалася ўражанне, што некаторых «апазіцыянераў» больш хвалюе падзел скуры незабітага мядзведзя*(«Народная газета»).

**Падзенне акцый** *каго, чаго* (= зніжэнне ўплыву, значэння каго-, чаго-небудзь). *Наменклатуршчыкі не маглі не зафіксаваць падзенне акцый палітыкі кіраўніка* («ЛіМ»).

**Пайграць на нервах** *чыіх, каму* (= параздражняць, панерваваць каго-небудзь некаторы час). *– Чаму ваш электрык не ў гуморы? – Гэта ён апошнія дні як ашпараны нейкі. Напэўна жонка на нервах пайграла. А так ён гаваркі ў нас* (І. Макаловіч).

**Паціранне рук** (= вялікае задавальненне ад поспеху ў якой-небудзь справе). *Збіральніцтва музея, гандаль наваколь нацыянальнай спадчыны, паціранне рук ад набытага, выцыганенага, выманенага, вельмі ж нагадвае Купалу малабясэдскага крамніка Брошку з яго паціраннем рук ад хоць маленькага гешэфту* (А. Лойка).

**Перавод на рэйкі** *чаго, якія* (= перабудова чаго-небудзь пэўным чынам). *Устойлівага прагрэсу ў якасным развіцці эканомікі няма. Мы мала рушылі наперад па шляху яе пераводу на рэйкі інтэнсіфікацыі* («Звязда»).

**Праседжванне штаноў** (= канцылярская ці іншая праца за пісьмовым сталом). *Прыкра, калі літаратар «выязджае» на адным Богам дадзеным таленце і падмацоўвае яго ў маладосці не праседжваннем штаноў у бібліятэцы, а чаканнем «натхнення» пад чаркай гарэлкі* (Б. Пятровіч).

**Пусканне туману** (= стварэнне падманлівага ўражання пра сябе з выхвальваннем і паказам чаго-небудзь з лепшага боку). *У сферы, пра якую сёння гаворым, трэба рашуча спыніць самападман, паказуху і пусканне туману, адкінуць звычку агульнымі валавымі паказчыкамі змазваць канкрэтную і даволі нярадасную карціну* (Н. Гілевіч).

**Станавіцца гарой** *за каго, за што* (= пачынаць усімі сіламі абараняць каго-, што-небудзь). *З аднаго боку, старшыню «абстрэльваюць» вымовамі, іншымі спагнаннямі, але варта газеце выступіць з*

*крытычнымі артыкуламі, як за яго райкам становіцца гарой* («Звязда»).

**Таптацца ў гразь** (= усяляк прыніжацца, знеслаўляцца, зневажацца). *У краіне, дзе верхаводзяць «праваслаўныя атэісты», тысячагадовыя традыцыі мудрых продкаў топчуцца ў гразь* (С. Кліменценка).

**У цуглях** *трымаць* (= вельмі строга, абмяжоўваючы свабоду дзеянняў). *[Ваенная машына] прызначана для таго, каб трымаць у цуглях свой народ* («Полымя»).

**Што ў лоб што па ілбе** (= аднолькава, тое самае). *Нічога не папішаш. Такі ўжо лёс дзяржаўцаў у нераўнапраўным злучэнні, як яго ні назаві – уніяй, саюзам, федэрацыяй ці канфедэрацыяй. Як кажуць, што ў лоб што па ілбе* (А. Петрашкевіч).

**Як пальчаткі** *мяняць* (= даволі часта). *Кіраўнікоў гаспадарак мянялі тады як пальчаткі. І каго толькі не прысылалі ў вёску камандаваць!* (С. Законнікаў).

**Як сабака да году** (= вельмі, надзвычай; ужываецца пры слове «дурны» ці «неразумны»). *Я стаў угаворваць Ларысу Пампееўну, каб засведчыла ягонае імя [забойцы] на паперы... Быў пачатак сямідзесятых – і жанчына сталінскіх часоў паглядзела на мяне, як пазіраюць на тых, пра каго кажуць: дурны як сабака да году* (У. Някляеў).

У папярэднім артыкуле гаварылася, што ў сямі мнагазначных фразеалагізмах адно са значэнняў падалі ў маім слоўніку без ілюстрацыйных прыкладаў, і паяснялася гэта толькі адным выразам *(без гальштукаў)*. Пададзім іншыя шэсць выразаў.

**Без руля (стырна) і без ветразяў.** Другое, прыметнікавае значэнне – «без яснай, дакладнай жыццёвай мэты»: *А бэсэсэраўская рускамоўная «Звезда» таго часу пераконвала ў іншым: «віленскія беларускія нацыяналісты, гэтыя балбатуны і пустамолы, гэтыя людзі без стырна і без ветразяў... пабрыдуць за панам Алексюком»* (А. Пашкевіч); *Выходзіць, ужо колькі гадоў дзяржава існуе без ніякай канцэпцыі і без пэўных праграм? Плыве па волі стыхіі і бог знае куды – без стырна і ветразяў?* (Н. Гілевіч).

**Ніжэй (за) калена.** Другое, прыметнікавае значэнне – «вельмі дрэнны, кепскага ўзроўню, пра стан чаго-небудзь»: *У 41 працэнта айчынных прадпрыемстваў – паказчык ніжэй калена! Гэта той выпадак, калі паказчык не радуе* («Звязда»); *У выніку поспеху намечанай акцыі палітычныя партыі павялічаць сваю вагу, а вось рэйтынг кіраўніка можа аказацца «ніжэй калена»* («ЛіМ»); *Кучма не*

*вылазіць са скандальных гісторый, яго рэйтынг – ніжэй калена* («Народная газета»).

**Па гамбургскім рахунку.** Другое значэнне гэтага трохзначнага выразу – «па-сапраўднаму, належным чынам, як і павінна быць»: *Ці ведаем па гамбургскім рахунку мы самі, дзе гэтая краіна – Беларусь? Менавіта краіна, а не месца жыхарства? Ці ўмеем мы ёю ганарыцца?* (У. Арлоў).

**Падняць на крыло** *каго.* Першае значэнне – «змусіць узляцець, паляцець, адляцець; пра птушак»: *Адшчыраваў пчаліным звонам ліпень, і жнівень вырай на крыло падняў* (С. Законнікаў).

**У загоне.** Першае значэнне – «без належнай увагі і клопату (быць)». *Чалавек працы – вось хто стварае ўсё каштоўнае ў жыцці. Праўда, чалавек працы яшчэ ў загоне, з ім не хоча лічыцца нават пісарчук* (А. Адамовіч); *Калісьці законныя гаспадары Вільні – літоўцы – былі тут яшчэ ў большым загоне, чым беларусы* (А. Карпюк).

**Цвёрды (моцны) арэшак.** Першае значэнне – «што-небудзь недаступнае, цяжкае для авалодання ім (горад, населены пункт і пад.)». *З высокай вежы Ян Караль мог добра разгледзець падцягнутыя да яе войскі Радзівіла... – Вялікае, мабыць, замяшанне зараз у кардыналіі, бо не ведаюць, адкуль пачаць. Цвёрды ім дастаўся арэшак!* («Маладосць»).

У «Прадмове» я пісаў, што значэнне (ці значэнні) «кожнага фразеалагізма і іншая інфармацыя аб ім звычайна ілюструюцца ў слоўніку дзвюма цытатамі». Разам з тым агаворваецца, у якіх выпадках і чаму колькасць ілюстрацыйных прыкладаў большая за дзве. Гэта найперш датычыць тых выразаў, якія ўзніклі нядаўна і ў іншых даведніках не фіксаваліся. Так, апошнім часам стаў актыўна ўжывацца фразеалагізм біблейскага паходжання **(час) збіраць камяні**, што значыць «(час, пара) сумеснымі намаганнямі прыводзіць у пэўны парадак што-небудзь раней разбуранае, раскіданае, занядбалае». У рукапісе гэты выраз меў 4 цытаты, рэдакцыя пакінула толькі адну. **Уставаць (падымацца) з каленяў** меў 7 цытат, пакінулі толькі дзве.

Такіх раней не фіксаваных выразаў, з паменшанай колькасцю ілюстрацыйных прыкладаў, часцей – з адзіным прыкладам, больш за 30: *абкласці чырвонымі сцяжкамі, адным махам семярых забіяхам, браты нашы меншыя, валяцца пад нагамі, жалезная заслона, заліць крывёю* (што), *зацягваць паясы, і на дух* (не пераносіць), *ісці наперадзе прагрэсу, крытычная маса, навешванне лапшы на вушы, нагой адчыняць дзверы, на задворкі, на плыву, <нібы> па шчупаковым загадзе, нядобрай памяці, паляванне на ведзьмаў, пасылаць на тры*

*літары, перакрываць кісларод, праціраць штаны, працэс пайшоў, пусканне пылу ў вочы, радыё (агенцтва) АБС, разбор палётаў, рэч у сабе, свіное вуха, свяцейшы за папу рымскага, ставіць воз наперадзе каня, сякера (тапор) пад лавай, трашчаць па ўсіх швах, фіга (кукіш) у кішэні, чырвоны памешчык, як ойча наш, ясней яснага.*

Як і было агаворана ў «Прадмове», да ліку фразеалагізмаў, праілюстраваных больш чым двума прыкладамі, адносяцца і былыя крылатыя выразы, што паходзяць з твораў беларускіх пісьменнікаў *(асадзі назад, хварэць на пана, выдраць лысаму валоссе, свінтус грандыёзус* і інш.). І тут не абышлося без «агалення». Так, створаны В. Быкавым выраз *ружовы туман* замест 7 цытат мае толькі дзве. Паменшана колькасць цытат пры былых крылатых выразах *сена на асфальце, жаба ў каляіне.*

Са шкадаваннем даводзіцца гаварыць, што ў цэлым апушчана каля 500 ілюстрацыйных прыкладаў. Але дзякуй богу і выдавецтву, што слоўнік пабачыў свет, хоць у некаторых мясцінах трохі і «аголены».

*Наша слова. 2009. 3 чэрв.*

***

У «Слоўніку фразеалагізмаў» на с. 32-37, як ужо ўпаміналася ў папярэднім артыкуле, даецца спіс аўтараў, з твораў якіх выкарыстаны апраўдальныя цытаты-ілюстрацыі. Гэты спіс змяшчае 470 прозвішчаў (пераважна пісьменнікаў, зрэдку – літаратуразнаўцаў, мовазнаўцаў, журналістаў). Чытаючы гэты спіс, няцяжка заўважыць, што ў ім чамусьці няма прозвішчаў некаторых даволі вядомых аўтараў.

А няма іх таму, што для дырэктара выдавецтва яны аказаліся непажаданымі і былі выкраслены са спіса. Рэдактары, адпаведна з гэтым, усюды ў тэксце слоўніка выкідалі прыклады-цытаты забракаваных аўтараў. Пералічу тых, хто трапіў пад цэнзарскую выбракоўку: Святлана Алексіевіч, Уладзімір Арлоў, Сяргей Астравец, Ларыса Геніюш, Сяргей Дубавец, Сяргей Законнікаў, Аляксандр Лукашук, Іван Макаловіч, Вінцэсь Мудроў, Уладзімір Някляў, Вольга Паўлава, Алесь Пашкевіч, Барыс Пятровіч, Міхась Скобла, Масей Сяднёў.

У «Спісе іншых крыніц слоўніка» (с. 37) даюцца 20 назваў перыядычных выданняў (часопісаў, газет). Але ў яго не ўвайшлі (былі выкінуты) часопіс «Дзеяслоў», газеты «Народная воля», «Наша ніва», «Наша слова», «Ніва» (Беласток), «Свабода».

## НІ К СЯЛУ НІ К ГОРАДУ

Гэты выраз часам у некаторых лінгвістычных і літаратуразнаўчых працах кваліфікуецца як «непатрэбнае запазычанне», «не вельмі зграбная калька» і інш. Прычым ніякіх доказаў на карысць такога сцвярджэння не дадаецца. А між тым усе кампаненты гэтага фразеалагізма суадносяцца з адпаведнымі словамі свабоднага ўжывання, добра вядомымі кожнаму беларусу. Відаць, віноўнікам тут выступае прыназоўнік «к». Замест яго ў апошнія дзесяцігоддзі некаторыя аўтары выкарыстоўваюць «да». Але ж «к» — спрадвечна беларускае слова, яно і сёння жыве ва ўсіх славянскіх мовах. І ў беларускай таксама. У акадэмічным ТСБМ, складзеным на аснове шматмільённай фундаментальнай картатэкі з фактычным маўленчым матэрыялам, паказаны шматлікія прасторавыя, часавыя, аб'ектныя і мэтавыя адносіны, якія выражае спалучэнне з прыназоўнікам «к».

Кандрат Крапіва пісаў: «Непаразуменнем з'яўляецца тое, што прыназоўнік к ва ўсіх выпадках імкнуцца замяніць прыназоўнікам да на той падставе, што канструкцыі з гэтымі прыназоўнікамі нібыта сінанімічныя, але прыназоўнік к не ўласцівы беларускай мове. На самай жа справе гэты прыназоўнік таксама ўласцівы беларускай мове, як і да. Апрача таго, у пэўных выпадках кожны з гэтых прыназоўнікаў надае словазлучэнню асаблівы сэнс. Напрыклад, спячы пірог да свята не тое самае, што спячы пірог к святу. Да свята можна спячы ды з'есці, а к святу — гэта значыць, што ў свята ён павінен быць на стале. Такое ж рознае значэнне маюць выразы: скончыць працу к тэрміну і скончыць працу да тэрміну; галлё звісала к зямлі і галлё звісала да зямлі; прыйсці к абеду і прыйсці да абеду».

Пра тое, што фразеалагізм ні к сялу ні к гораду існаваў у жывой народнай мове яшчэ ў пазамінулым стагоддзі, сведчыць «Зборнік беларускіх прыказак» І.І.Насовіча (1874, с. 112). Выраз растлумачаны так: «Гаворацць, калі што сказана недарэчы». Фіксуецца ён і ў сучасных акадэмічных даведніках — ТСБМ і БРС.

А найлепшае сведчанне яго жыцця ў мове — маўленчая практыка аўтарытэтных аўтараў. Гэта можна пацвердзіць дзесяткамі прыкладаў. Абмяжуемся наступнымі: 1) Дужа мне прыкра, што п. старшына не лічыўся з маёй просьбай і па-свойму папраўляў лірніка, дзе ён рыфмуецца з другім словам. Значыцца, выйшла ні к сялу ні гораду (Я. Купала); 2) Замест «благодарю» ляпне Міхалка ні к сялу ні к гораду — «дзякую» (Я. Колас); 3) Гаворка ў абодвух іх выходзіла складна, але ні к сялу ні к гораду (К.Чорны); 4) Цімка ні к

сялу ні к гораду адпаліў раптам: – І ляснуў бы вось я па ўсіх тваіх прычындалах, толькі б шкло пасыпалася... (М. Лынькоў).

Гэты выраз двухзначны. У прыведзеных прыкладах ён рэалізуе прыслоўна-акалічнаснае значэнне «зусім недарэчы, неўпапад». Апрача таго, ён ужываецца як прыметнікава-азначальны ў ролі выказніка пры дзейніку са значэннем неадушаўлёнага прадмета, абазначаючы «зусім недарэчны»: 1) Бывае, ляпнеш што-небудзь, а яно ні к сялу ні к гораду (П. Рунец); 2) Сёй-той лічыць, што вучоба ва універсітэце мала што дае. Што там быццам бы шмат непатрэбшчыны, якая ні к сялу ні к гораду («Вожык»).

Як бачым, існаванне гэтага фразеалагізма ў нашай мове — неаспрэчнае.

*Наша слова. 2008. 26 сн.*

## ПРА ВЫРАЗ «АСЁЛ МАЛЯВАНЫ» І ІНШАЕ

У 1968 г. Ф.М. Янкоўскі апублікаваў кнігу «Беларуская фразеалогія». Гэта была першая спроба стварыць тлумачальны слоўнік фразеалагізмаў жывой народнай мовы, занатаваных аўтарам у розных мясцінах рэспублікі. Як сказана ў прадмове, аўтар пры адборы народных выразаў для гэтай кнігі не браў пад увагу, ці ўжываецца або не ўжываецца той ці іншы фразеалагізм у беларускай літаратурнай мове, сустракаецца ці не сустракаецца ён у суседніх славянскіх мовах – рускай, украінскай, польскай. Яму «хацелася паказаць не толькі багацце, але і разнамаснасць, разнастайнасць і самабытнасць народнай фразеалогіі беларусаў».

Кожны фразеалагізм, змешчаны ў кнізе, тлумачыцца, паказваецца яго граматычная спалучальнасць са словамі кантэксту *(даваць перуноў* каму), даюцца стылістычныя паметы тыпу «з адценнем непашаны». У якасці ілюстрацыйнага матэрыялу выкарыстоўваюцца аўтарскія запісы, зробленыя амаль ва ўсіх раёнах рэспублікі. У кнізе больш за 1000 слоўнікавых артыкулаў (без адсылачных). Пераважная большасць апісаных фразеалагізмаў з'яўляецца агульнай для літаратурнай і народна-дыялектнай мовы. А амаль усе астатнія можна лічыць рэзервам нашай літаратурнай мовы, крыніцай яе ўзбагачэння. Некаторыя з іх, несумненна, пад уплывам гэтага слоўніка сталі фактам літаратурнай мовы, уключаюцца ў сучасныя нарматыўныя даведнікі, напрыклад: *араць дарогі, біць тылылы, выганяць матыліцу* з каго,

*выкручваць сырыцу* з каго, *гізунты цягнуць* з каго, *з пекла родам, шарварку адрабляць.*

У слоўніку Ф.М. Янкоўскага (с. 57) апісваецца і выраз *асёл маляваны,* тлумачыцца як «няздара, дурань». Але яго ўжыванне ілюструецца прыкладамі толькі з адной мясцовасці – з радзімы аўтара: вёска Клетнае Глускага раёна. Аўтару, відаць, не ўдалося выявіць існаванне гэтага выразу ў якіх-небудзь іншых мясцінах рэспублікі.

Аднак, нягледзячы на такую абмежаваную геаграфію яго бытавання, фразеалагізм апошнім часам, зноў-такі пад уздзеяннем гэтага ж слоўніка, з вузкадыялектнага стаў ці становіцца шырокаўжывальным у літаратурнай мове. Ён са значэннем «някемлівы, неразумны, тупы чалавек; дурань» і адценнем неадабрэння ці насмешкі выкарыстаны, напрыклад, у такіх літаратурна-мастацкіх або публіцыстычных кантэкстах: 1) Дурні! *Аслы маляваныя!* Пасядзець бы паболей з дзядзькам Піліпам, навучыцца б плесці з лазы «фірмовыя» кошыкі… (Я. Рагін); 2) Васіль у сваім калгасе не *аслом маляваным* быў, а пры дзеле – вэтэрынарам працаваў (М. Гроднеў); 3) – *Асёл маляваны!* – крычыць дуракаваты дзядзька, сустракаючы мяне на шырокай і адзінай купрэеўскай вуліцы («ЛіМ»); 4) Блінкі яму не даспадобы, *асёл маляваны.* Пахнуць яму чымсьці, старэчая пуга!.. А каб цябе качкі затапталі! (Н. Старавойтава).

Як у гэтым слоўніку, так і ў другой сваёй працы Ф.М. Янкоўскі выказвае меркаванне, што выраз *асёл маляваны* «ідзе ад вандроўных цыркаў, калі такога «ўдзельніка» спектакля, як асёл, размалёўвалі, але гэта не змяняла характару, упартасці «цыркача»; асёл заставаўся аслом». Думаецца, аднак, што з такім меркаваннем наўрад ці можна пагадзіцца, бо гэты фразеалагізм пры супастаўленні яго з адпаведным свабодным словазлучэннем (калі толькі наогул яно існавала ў прыродзе) не ўспрымаецца як метафарычнае ўтварэнне і не дае семантычнага эфекту.

Хутчэй за ўсе, гэты выраз, як і шмат якія іншыя, узнік фразеалагічна-лексічным спосабам. Сутнасць яго ў тым, што фразеалагізм утвараецца на базе асобнага мнагазначнага слова, у выніку «разгортвання слова ў фразеалагізм» (В.М. Макіенка). Выраз *асёл маляваны* абазначае амаль тое самае, што і слова *асёл* у сваім другім, пераносным сэнсе («дурны, тупы, упарты чалавек»), але адрозніваецца павышанай экспрэсіўнасцю, бо «нарошчаны» кампанент-прыметнік можа (ці мог бы) спалучацца са словам *асёл* толькі ў яго зыходным значэнні («свойская жывёліна»). Пры ўзнікненні фразеалагізма адбылася адначасовая каламбурная рэалізацыя двух

значэнняў, накладанне на прамое значэнне «жывёліна» пераноснага з далучэннем экспрэсіўнага дадатку.

Стваральнікам таго ці іншага фразеалагізма заўсёды з'яўляецца які-небудзь асобны чалавек, і ўзнікае фразеалагізм адразу, у індывідуальным маўленчым акце, у працэсе маўлення. Спачатку гэта – аказіянальны, аўтарскі твор, а пасля ён падхопліваецца іншымі людзьмі з бліжэйшага асяроддзя і з цягам часу становіцца агульнаўжывальнай моўнай адзінкай. Як пісаў Я. Карскі адносна ўзнікнення прыказак, «паколькі асоба аўтараў на прыказках не адбілася, то народ лёгка забыў іх складальнікаў і захаваў гэтыя творы як свае ўласныя».

Фразеалагічна-лексічным спосабам склаліся такія, напрыклад, выразы: *пень асінавы, гад печаны, гад паўзучы, гад паласаты, варона загуменная.* Характэрна, што як у гэтых, так і ў выразе *асёл маляваны* назоўнікавы сэнсаўтваральны кампанент замацаваўся на першым месцы перад прыметнікавым.

Можна прывесці нямала прыкладаў, якімі наглядна перадаецца працэс разгортвання слова ў фразеалагізм (спачатку ідзе слова ў яго пераносным значэнні, а затым фразеалагізм з аналагічным сэнсавым зместам): 1) – *Гад* ты, *гад печаны*! – агаласіў залу звонка-рэжучы жаночы голас, – прадажная шкура! (Я. Нёманскі); 2) – *Вароны* мы, *вароны загуменныя*! – лаяў сябе і сваіх таварышаў адзін з трох (Р. Хацкевіч).

Такім жа спосабам утварыліся і некаторыя фразеалагізмы іншых семантычна-граматычных разрадаў. Так склаўся, напрыклад, дзеяслоўны выраз генетычна каламбурнага характару *пракаціць на вараных* са значэннем «праваліць на выбарах». Ён узнік на аснове мнагазначнага слова *пракаціць у* выніку накладання на значэнне «праваліць на выбарах» яшчэ аднаго значэння гэтага дзеяслова («правезці») і каламбурнага дапаўнення яго дадаткам *на вараных.* У фразеалагізме *заводзіцца з паўабароту* на рэалізаванае спачатку значэнне дзеяслова *заводзіцца* («узбуджаючыся, пачынаць спрэчку з кім-небудзь») накладзена яшчэ адно значэнне гэтага ж слова («пачынаць дзейнічаць у выніку пуску ў ход якога-небудзь механізма») з адначасовым яго дапаўненнем экспрэсіўным дадаткам. Параўнаем цікавы ў гэтых адносінах прыклад: «Ролік на хвіліну змоўк, але потым *завёўся. З паўабароту»* (У. Караткевіч).

Дарэчы, у сучаснай беларускай літаратурнай мове названым вышэй спосабам, толькі ў выніку неаднолькавых працэсаў, склалася больш за сотню фразеалагізмаў.

*Наша слова. 2008. 16 крас.*

## МАДЭЛІРАВАННЕ НА ЎЗОР ПРЫКАЗАК

Шырока ўжываючыся ў маўленні, прыказкі найчасцей выкарыстоўваюцца ў іх звычайнай, нарматыўнай форме і з замацаваным за імі зместам. Яны і ў такім выглядзе амаль заўсёды выступаюць яркім стылістычным сродкам. Аднак нярэдка пісьменнікі, журналісты, іншыя моўнікі «амаладжваюць», творча абнаўляюць прыказкі, вынаходліва выкарыстоўваюць іх невычэрпную «вобразную энергію», змяняюць іх традыцыйную форму ці абыгрываюць сэнсавы змест. У такіх выпадках стылістычная роля прыказак у сістэме моўных сродкаў нібы падвойваецца. Абноўленыя прыказкі маюць вялікую прыцягальную сілу і, калі сказаць словамі Я. Брыля, «здорава, часам нават вырашальна працуюць на красу і значнасць цэлага».

Назіраючы за індывідуальна-аўтарскай пераробкай і пераасэнсаваннем прыказак у мастацкай літаратуры, можна выдзеліць 10 творчых прыёмаў іх эфектыўнага выкарыстання са змяненнямі структурна-семантычнага ці толькі семантычнага характару.

Замена прыказкавага кампанента іншым словам – адзін з пашыраных стылістычных прыёмаў. Звычайна замена кампанента выклікаецца пэўнай сітуацыяй, прадвызначаецца кантэкстам і амаль заўсёды дае значны эфект, бо ў свядомасці чытача на звычайнае значэнне прыказкі накладваецца яшчэ і значэнне слова, якое выціснула прывычны кампанент. Вось толькі адзін прыклад. Прыказка *Сабака брэша – вецер носіць* пагардліва асуджае каго-небудзь за недарэчныя словы, плёткі, за беспадстаўную, няўвартую ўвагі балбатню. У адным з сатырычных вершаў ваеннага часу К. Крапіва замяняе першы кампанент гэтай прыказкі канкрэтным адрасатам – прозвішчам галоўнага гітлераўскага брахуна, міністра прапаганды Гебельса. З'яўленню абноўленай прыказкі ў тэксце папярэднічаюць параўнанні Гебельса з сабакам («Не збрахаць, як карлік, столькі дзесяці сабакам», «брэша з захапленнем»), а пасля гэтага ідзе: «Нам ужо абрыдлі досыць байкі прайдзісвета: – Гебельс брэша – вецер носіць, – кажам мы на гэта». Абнаўленне ўспрымаецца на фоне прывычнай прыказкі, і заменены кампанент так і прагладвае праз «намесніка», даючы яму сваёй назвай належную характарыстыку. Сатырычны эфект і дасціпнасць гэтага перафразавання становіцца яшчэ больш відавочным, калі прыняць пад увагу, што ў нямецкай мове прозвішча гітлераўскага доктара прапаганды супадае ў гукавых адносінах са словам *Gebell* (брэх, гаўканне); у родным склоне адзіночнага ліку *Gebells*; параўн. прозвішча Гебельса ў нямецкай арфа-графіі: *Goebbels*.

Звернемся цяпер да такога творчага прыёму, як мадэліраванне на ўзор прыказак. Гэты стылістычны прыём адрозніваецца ад папярэдняга тым, што ў прыказцы замяняюцца амаль усе яе кампаненты і ў выніку ўзнікае дасціпны індывідуальна-аўтарскі наватвор, у падтэксце якога адчуваецца прыказка-прататып. Звычайна такія мадэліраваныя выразы, утвораныя на ўзор прыказак, характарызуюцца сэнсавай ёмістасцю, з'яўляюцца яркім выяўленчым сродкам, удзельнічаюць у стварэнні камізму ці сатырычнай завостранасці.

Некаторыя з наватвораў, зробленых пад прыказку, выражаюць абагульненае суджэнне і здольныя дастасоўвацца да розных аналагічных з'яў. Напрыклад, аднолькавыя ў сэнсавых адносінах прыказка *На бязрыб'і і рак рыба* і выраз, утвораны на яе аснове, *На бясптушшы і варона салавей:* «– Ат, глупства ўсё гэта! – махнуў рукою Вялеська. – З мяне літаратурны перакладчык... Проста падхалтурваю, як, помніш, любіў казаць наш колішні шэф... На бясптушшы і варона салавей...» (В. Блакіт). Суджэнне абагульненага характару ўласціва і аўтарскаму выразу *Адна варона не робіць граю,* пабудаванаму па мадэлі прыказкі *Адна ластаўка вясны не робіць:* «Пагаварылі з намі – і спакайней у 1 групе. Толькі Панкова. Але ведаеце пагаворку: адна ластаўка вясны не робіць. – Ластаўка? От не тую выбрала ты пагаворку. Я лепей новую прыдумаю, спецыяльна для Панковай: адна варона не робіць граю» (Я. Радкевіч).

Найчасцей мадэліраваныя выразы носяць прыватны характар, прывязаны да пэўнай сітуацыі, маюць канкрэтную, кантэкстуальна абумоўленую семантыку. Структурная мадэль прыказкі *З міру па нітцы – голаму сарочка* стала асновай для стварэння некалькіх аўтарскіх выразаў. Гэта прыказка абазначае «ад усіх патроху – і атрымліваецца штосьці значнае, адчувальнае для каго-небудзь аднаго». На яе аснове Г. Марчук у аповесці «Паляшук» стварае свой афарызм, які рэалізуе значэнне, уласцівае прыказцы-мадэлі, толькі больш звужанае, абумоўленае пэўным кантэкстам. Гэты наватвор, у складзе якога ёсць слова *капейка,* укладваецца ў вусны прагнага да грошай Апанаса і выступае як дадатковая самахарактарыстыка персанажа: «Скоч у праўленне, адзнач мне камандзіроўку. Маўляў, чалавек яблыкі закупляе. Я сваю ўжо адзначыў, а гэту ўзяў быццам на таварыша. З люду па капейцы – жабраку падштанікі».

Тая ж прыказка-прататып адчуваецца і ў наступным урыўку, дзе гаворыцца пра калектыўную працу сатырыкаў у газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну!» і часопісе «Вожык»: «Сягоння нават цяжка сказаць, хто аўтар тых ці іншых калючых радкоў, бо часам у

рэдакцыі атрымлівалася, як у той прыказцы: кожны... па іголцы, а «Вожыку» – чарговы штых у фашысцкае чэрава» (У. Корбан, Г. Кляўко).

Мадэль той жа прыказкі ў эпіграме К. Крапівы «Чыжык» запаўняецца зусім іншым матэрыялам: *З людзей па радку, а мне эпіграма.* Хоць тут усе словы ўжыты з прамым значэннем, непасрэдна накіраваным на канкрэтныя рэаліі, але сваім комплексам яны ствараюць выразны намёк на прыказку-мадэль. Майстэрства сатырыка нельга поўнасцю ацаніць, калі не бачыць перад сабой усёй гэтай арыгінальнай сваім мастацкім выкананнем эпіграмы-літмантажу, змешчанай у часопісе «Заклік» (1933, № 1, с. 51). У эпіграме знайшоў увасабленне адзін з тыповых эпізодаў тагачаснай жорсткай рэчаіснасці, бесчалавечнай барацьбы, крыжовага паходу ў пошуках «ворагаў народа». Вось гэты твор:

Чыжык

Эпіграма-літмантаж[6]

на дэбют крытыка Аркадзя Куляшова

– Чыжык, чыжык, дзе ты быў?
– За гарой Максіма біў.
«Дзюбаў, дзюбаў, аслабеў,
Толькі збрудзіў, а не з'еў».

Сапраўды, «у гэтым вершы толькі адзін радок» крапівоўскі: *За гарой Максіма біў* (маецца на ўвазе выступленне ў друку маладога, 19-гадовага паэта А. Куляшова ў нязвычнай для яго ролі дэбютанта-крытыка твораў Максіма Гарэцкага). Першы радок эпіграмы ўзяты з вядомай жартоўнай песенькі такой самай назвы, а два апошнія – з верша А. Александровіча «Хлопчык і певень»: *Ку-ка-рэ-ку! Ку-ка-рэ-ку! Вось і певень тут аднекуль, Крадучыся, неўзаметку Падляцеў, хапіў катлетку. Дзюбаў, дзюбаў – аслабеў, Толькі збрудзіў, а не з'еў.*

Ды і другі радок не зусім крапівоўскі, гэта – перафразаванне з той жа песенькі: *За гарой гарэлку піў.* Варта таксама зазначыць, што ў кантэксце гэтай эпіграмы адбыліся семантычныя зрухі ў словах, дастасаваных да крытыка-дэбютанта: *чыжык, дзюбаў, збрудзіў, з'еў.* Яны атрымалі сэнсавае прырашчэнне, падвойны змест.

З прааналізаваных вышэй мадэліраваных выразаў відаць, што нярэдка яны ствараюцца з выкарыстаннем структуры і асобных кампанентаў – прыназоўнікаў ці злучнікаў. Напрыклад, выраз *З*

---

[6]З людзей па радку, а мне эпіграма:
у гэтым вершы толькі адзін радок мой.

*людзей па капейцы – жабраку падштанікі* ўзнік па структурнай схеме «з каго па чым – каму што». Гэтак жа, толькі па іншай структурнай схеме, запаўняецца новым лексічным матэрыялам мадэль *На бязрыб'і і рак рыба:* «Антось і сёння розныя свінушкі, ласі, радоўкі, хоць мясцовыя людзі і перасталі іх цурацца, развражаючы, што на бязгрыб'і і свінушка грыб, усё роўна не лічыць за грыбы, не можа паверыць, што яны ядомыя» (В. Блакіт).

Ёсць некалькі прыказак, структурна арганізаваных па схеме «была б (было б) што, а што знойдзецца»: *Была б шыя, а хамут знойдзецца; Было б балота, а чэрці знойдуцца; Было б сала, а кубел знойдзецца; Было б карыта, а свінні знойдуцца.* Па гэтай жа мадэлі пабудаваны і выраз *Была б галава цэлая, а шапка знойдзецца,* ужыты ў сатырычным апавяданні І. Аношкіна «Уважлівая прычына».

Пры мадэліраванні часам выкарыстоўваюцца разам са структурай і некаторыя кампаненты, у тым ліку паўназначныя часціны мовы. У «Карацельках» Бр. Баровак, дзе гаворыцца пра калекцыянера, якому замест старажытных манет хацелі падсунуць жалезныя гузікі, з'едзеныя ржой, ёсць такая рэпліка: «Я так і ведаў, браце, што *вопытнага калекцыянера на гузіках не правядзеш*». Выдзелены выраз створаны па мадэлі прыказкі *Старога вераб'я на мякіне не правядзеш.*

Пададзім яшчэ некаторыя прыклады выкарыстання мадэліраваных выразаў, у якіх лёгка ўгадваюцца прыказкі-прататыпы: «Сучасныя газетчыкі таксама вельмі слушна сцвярджаюць: пад ляжачае пяро ганарар не бяжыць» (Я. Васілёнак); «– Самалёт!.. – Ліха з ім, з самалётам, немцаў баяцца – на паравозе не ездзіць, – махнуў рукой Каляда і злосна бразнуў дзверцамі топкі» (І. Гурскі).

*Наша слова. 2008. 13 жн.*

## ЦІ ЎСЕ ПРЫКАЗКІ – ВОБРАЗНЫЯ?

Вельмі многія аўтары даведнікаў, падручнікаў, навучальных дапаможнікаў, артыкулаў, даючы азначэнне прыказцы, абавязкова называюць вобразнасць як адну з асноўных, адметных рыс прыказкі. У некаторых працах вобразнасць лічыцца «неад'емнай арганічнай часткай прыказкі» (А.С. Аксамітаў). У пяцітомным «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т. 4, с. 435) прыказка азначаецца як «устойлівае вобразнае выслоўе павучальнага зместу...» Вядомы рускі фалькларыст У.І. Чычароў (Русское народное творчество. М., 1959, с. 310) у дэфініцыю (лагічнае азначэнне) прыказкі ўключае «кароткае

вобразнае суджэнне», а В.П. Анікін (Русское народное поэтическое творчество. М., 1971, с. 75) характарызуе прыказку як «вобразны народны выраз...» Школьнікам прапануецца завучваць, што «прыказкай называецца створанае народам лаканічнае, вобразнае выслоўе з павучальным зместам, якое мае прамы і пераносны сэнс» (Беларуская літаратура: падручнік для 5 класа. Мінск, 2002, с. 14).

Аўтары такога азначэння прыказкі няправільна альбо вельмі шырока разумеюць паняцце «вобразнасць».

У працах жа некаторых іншых вядомых даследчыкаў мімаходам зазначаецца, што ёсць прыказкі вобразныя і бязвобразныя. Так, у свой час (1892 г.) на гэта звярнуў увагу А.А. Патабня (Теоретическая поэтика. М., 1990, с. 98): «Калі абагульненне не будзе змяшчаць у сабе следу свайго паходжання ад вобраза, мы атрымліваем іншы від прыказкі, а менавіта – бязвобразны выказ маральнага зместу, напрыклад: «Береги денежку на черный день». Я.Ф. Карскі (Беларусы. Минск, 2001, с. 437) таксама падзяляў прыказкі на вобразныя («На чыім возе едзеш, таму песеньку спявай») і бязвобразныя («Багаты дзівіцца, чым худы жывіцца»). К. Крапіва ў вялікім артыкуле «Беларускія прыказкі» адзначыў, што «ёсць прыказкі бязвобразныя, напрыклад: *Хто лжэ, той і крадзе; Не дай убогаму, а патрэбнаму; Хто дбае, той і мае*» (Зб. тв. у 4 т. Мінск, 1963, Т. 4, с. 251).

Перш чым гаварыць пра паняцце «вобразнасць» і пра тое, як адрозніць вобразную прыказку ад бязвобразнай, варта сцісла спыніцца на цесна звязаным з вобразнасцю пытанні пра сэнсавую класіфікацыю прыказак. Калі іх аналізаваць з семантычнага боку, то тут выразна вылучаюцца тры групы.

У п е р ш у ю групу ўваходзяць прыказкі алегарычнага характару, г.зн. у іх гаворыцца пра адно, а маецца на ўвазе зусім іншае. Так, у прыказцы *Груган гругану вока не выдзеўбе* зусім не пра гругана і невыдзёўбванне вока ідзе размова; сэнс прыказкі – «людзі, звязаныя якімі-небудзь агульнымі, звычайна карыслівымі, інтарэсамі, дзейнічаюць заадно і не здрадзяць, не зробяць кепскага адно другому». Сэнс прыказкі *Яблык ад яблыні недалёка падае* – «свае недахопы ці станоўчыя рысы дзеці пераймаюць ад бацькоў».

Алегарычныя, пераносныя прыказкі ўтвараюцца не на лексічнай, а на сінтаксічнай аснове, г.зн. у выніку пераасэнсавання не кожнага слова паасобку, а ўсяго выказвання-сказа ў цэлым. Аб'ект пераасэнсавання (скажам, *Яблык ад яблыні недалёка падае*) як бы выварочваецца навыварат цалкам і адначасова, а не асобнымі сваімі словамі. *Яблык* і *яблыня* ў іх свабодным ужыванні, як засведчана ў тлумачальных слоўніках, наогул адназначныя назоўнікі, а *падаць* і

*недалёка* маюць па некалькі слоўнікавых значэнняў. Адпаведныя ж словы-кампаненты ўнутры прыказкі *Яблык ад яблыні недалёка падае* дэактуалізаваліся, як бы растварыліся ў агульным сэнсе прыказкі і не маюць нічога агульнага з прамымі ці пераноснымі значэннямі слоў.

У «Слоўніку беларускіх прыказак» І.Я. Лепешава і М.А. Якалцэвіч (Мінск, 2002) апісана 1500 найбольш ужывальных прыказак. Сярод іх на долю алегарычных, пераносных прыпадае 460 прыказак.

Д р у г а я група аб'ядноўвае прыказкі, у якіх няма поўнага пераасэнсавання ўсіх кампанентаў. Частка слоў такіх прыказак захоўвае сваё літаральнае значэнне. Да прыкладу, у прыказцы *Не такі чорт страшны, як яго малююць* іншасказальны сэнс маюць толькі кампаненты *чорт* і *малююць*; агульнае значэнне прыказкі – «не так страшна на самай справе, як здаецца». або возьмем прыказку *Стары вол баразны не псуе (не сапсуе)*. У ёй таксама не ўсе кампаненты атрымалі метафарычнае пераасэнсаванне, таму яе змест перадаецца з выкарыстаннем гэтых непераасэнсаваных слоў: «стары, вопытны чалавек не сапсуе таго, за што бярэцца». Захоўвае сваё літаральнае значэнне і слова *вучыць* у прыказцы *Яйцо курыцу вучыць*, яна абазначае «малады, нявопытны вучыць старэйшага, вопытнага». Такіх прыказак, у якіх не ўсе кампаненты пераасэнсаваліся, каля 800 (з ліку 1500 апісаных у «Слоўніку...»).

Ёсць і т р э ц я я група прыказак (іх каля 260). Яны наогул ужываюцца толькі ў прамым значэнні і не патрабуюць тлумачэння. Агульны сэнс амаль кожнай такой прыказкі вынікае з прамых значэнняў яе слоў-кампанентаў, напрыклад: *Брат любіць сястру багатую, а мужык жонку здаровую*; *Век жыві – век вучыся*; *Вучыцца ніколі не позна*; *Госць госця ненавідзіць, а гаспадар абодвух*; *Добра ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць*; *Зяць любіць узяць*.

Вернемся цяпер да вобразнасці прыказак. Як вядома, слова «вобраз» шматзначнае, у мастацтве яно абазначае канкрэтна-пачуццёвую форму ўяўлення. Вобразнасць слушна атаясамліваецца з пераноснасцю, метафарычнасцю, фігуральнасцю. Пры метафарычным пераасэнсаванні пэўнае абстрактнае суджэнне, увасобленае ў прыказцы, перадаецца праз канкрэтныя вобразы, праз нагляднае ўяўленне пра каго- ці што-небудзь. Вобразнасць у дачыненні да прыказак – гэта сумешчанае бачанне дзвюх карцін. Так, пры ўжыванні прыказкі *Кашы маслам не сапсуеш*, якая абазначае «неабходнае, карыснае ніколі не зашкодзіць», зыходны вобраз надзённа-харчовага паходжання, пакладзены ў аснову прыказкі, хоць і знаходзіцца як бы ў цені свядомасці, але не можа не прасвечвацца праз цэласнае парэмійнае значэнне.

Найбольшы каэфіцыент вобразнасці маюць тыя прыказкі, якія могуць быць супрацьпастаўлены адпаведнаму свабодна арганізаванаму сказу і на яго фоне ўспрымаюцца як разгорнутыя метафары. Усе прыказкі названай вышэй 1-й групы вобразныя. Сярод іх ёсць і такія, у аснове якіх – нерэальны, прыдуманы вобраз: *Адальюцца воўку авечыя слёзы; Выпрамлялі быку рогі, ды скруцілі шыю.*

Можна вылучыць некалькі тыповых семантычных мадэляў, па якіх арганізуецца супастаўленне розных з'яў. Напрыклад, ёсць шмат прыказак «жывёльнага паходжання», г.зн. такіх, якія дастасоўваюцца да чалавека, але ўзніклі праз параўнанне людскіх учынкаў, дзеянняў і інш. з паводзінамі жывёл, іх звычкамі і г.д. Вось толькі некалькі такіх прыказак: *Авечку стрыгуць, а баран дрыжыць; Бадлівай карове бог рог не дае; Ваўка ногі кормяць; Два мядзведзі ў адной бярлозе не зімуюць; Сабака брэша – вецер носіць; Ведае кошка, чыё сала з'ела; На бязрыб'і і рак рыба.*

А гэта прыклады прыказак «птушынага паходжання»: *Адна ластаўка вясны не робіць; Варона з куста, пяць на куст; Начная зязюля дзённую перакукуе; Пужаная варона куста баіцца; Старога вераб'я на мякіне не правядзеш.*

Ёсць таксама нямала прыказак «расліннага паходжання», напрыклад: *Ад крывога дрэва прамога ценю не бывае; І да грыба трэба нагнуцца; Пустазелле з поля вон; Скрыпучае дрэва доўга скрыпіць; Што пасееш, тое і пажнеш.*

Вельмі многія прыказкі алегарычнага характару склаліся на аснове сказаў, якія ў сваім першапачатковым сэнсе непасрэдна звязаны з канкрэтнымі назіраннямі чалавека за рознымі з'явамі прыроды: *З вялікага грому малы дождж бывае; Пакуль сонца ўзыдзе, раса вочы выесць; На адным месцы і камень мохам абрастае; Ціхая вада грэблі рве* і інш.

Пад пераасэнсаванне падпалі сотні іншых выказванняў-сказаў з самых разнастайных сфер: *Бяздоннай бочкі не напоўніш; Дыму без агню не бывае; За чужой шчакой зуб не баліць; Золата і ў смецці блішчыць; Чужы кажух не грэе; Шыла ў мяшку не схаваеш* і г.д.

Прыказкі 2-й семантычнай групы таксама можна лічыць вобразнымі ці, лепей сказаць, часткова вобразнымі, бо ў іх няма скразнога пераасэнсавання. У адных выпадках непераасэнсаваным застаецца толькі адно слова; напрыклад, першае слова ў такіх прыказках: *Абяцаная шапка на вушы не лезе; Будзе і на нашай вуліцы свята; Восень на рабым кані едзе.* Часам, наадварот, толькі адно слова ці прыназоўнікава-склонавае спалучэнне ўжыта фігуральна, астатнія захоўваюць сваё літаральнае значэнне: *Ад торбы*

*і турмы не заракайся; Малако ў каровы на языку.* Пераасэнсаванасць або непераасэнсаванасць кампанентаў камбінуецца і ў іншых разнастайных прапорцыях: *Гэта яшчэ толькі кветачкі, а ягадкі наперадзе; Куды іголка, туды і нітка; Адсохні тая рука, што сабе не спрыяе; Ажаніцца – не ўпасці: не ўстанеш, не атрасешся; Альбо дождж ык, альбо снег, альбо будзе, альбо не; Мая хата з краю, нічога не знаю.* Асобныя словы ператвараюцца ў прыказкавыя кампаненты не толькі шляхам метафарызацыі, а і ў выніку метанімічнага ці сінекдахічнага пераносу: *Аддай рукамі, хадзі нагамі; Адна галава добра, а дзве яшчэ лепей.*

Усе прыказкі 3-й групы – бязвобразныя. Але яны, як і прыказкі дзвюх іншых груп, характарызуюцца ўстойлівасцю і ўзнаўляльнасцю, актыўна выкарыстоўваюцца ў маўленні як выказванні, за якімі стаіць аўтарытэт пакаленняў, што стварылі іх.

А што да самога азначэння прыказкі, то яно можа быць такім: устойлівае, узнаўляльнае, не менш як двухкампанентнае афарыстычнае, найчасцей поўнасцю або часткова алегарычнае закончанае выказванне звычайна павучальнага характару ў форме простага ці складанага сказа. Пад такое азначэнне падпадаюць кожная прыказка паасобку і ўсе, што ўваходзяць у парэмійны склад. Выключэнні вельмі рэдкія. Яны датычаць зусім нязначнай часткі прыказак, якімі даецца якасная ацэнка асобе, не названай у самой прыказцы: *І за лучынку знойдзе прычынку*; *І за шчэпку знойдзе прычэпку.* Або прыказка *І сам не гам і другому не дам,* якая гаворыцца з неадабрэннем пра таго, хто сам не карыстаецца і іншым не дае карыстацца чым-небудзь.

Пад *устойлівасцю* прыказкі разумеецца пастаянства яе зместу, а таксама часцей за ўсё кампанентнага складу і структуры. Праўда, прыкладна 40% прыказак здольныя, захоўваючы свой змест, вар'іравацца. *Узнаўляльнасць* – гэта рэгулярная паўтаральнасць, выкарыстанне прыказкі як звычайнай моўнай адзінкі, якая не складаецца ў працэсе маўлення, а выхопліваецца з памяці ў гатовым выглядзе. *Афарыстычнасць* – гэта трапнасць, лаканічнасць, адшліфаванасць.

*Грані роднага слова: зб. моваз найч. арт. (да 80-годдзя праф. П.У. Сцяцко). – Гродна: ГрДУ, 2010, с. 170-174.*

## У ФРАЗЕАЛАГІЧНУЮ СКАРБОНКУ

У маім двухтомным «Слоўніку фразеалагізмаў», апублікаваным у 2008 годзе выдавецтвам «Беларуская энцыклапедыя», пададзены каля 7 тысяч фразеалагічных адзінак. У прадмове да слоўніка

сказана, што ў ім выяўлены і па магчымасці поўна апісаны фразеалагічны склад беларускай літаратурнай мовы ў яе сучасным стане. Зразумела, фразеалогія ўвесь час папаўняецца. І я пастаянна пры чытанні беларускіх кніг, часопісаў, газет «палюю» на новыя выразы, а таксама на тыя, якія па розных прычынах не трапілі ў названы слоўнік. Вось некаторыя з гэтых выразаў.

Назоўнікавы фразеалагізм ***воўчая зграя*** ўжываецца з асуджальным адценнем у значэнні «варожая, ненавісная кампанія людзей»: *Трапіў Клімчук у воўчую зграю і вый па-воўчы... Як бы цяпер ні хацеў, а звароту назад да сваіх няма* (М. Гамолка); *А божачка! Няўжо гэта ты, Амялян?.. А як жа ты трапіў у гэтую воўчую зграю?* (К. Каліна); *Прыгледзеліся мы тут добра: усе паны – ад нізу да верху – воўчая зграя* (М. Клімковіч); *У натоўпе Нупрэй убачыў Лявона Кончыка, і яму трохі стала весялей: усё ж не адзін перад гэтай воўчай зграяй ён будзе* (В. Ткачоў).

Выраз склаўся ў выніку метафарычнага пераасэнсавання словазлучэння «воўчая зграя» ў прамым значэнні гэтых слоў. Прыгадаем, дарэчы, аповесць В. Быкава «Воўчая зграя», дзе яе загаловак мае падвойны сэнс: у адным з эпізодаў аповесці дзейнічае зграя з сямі ваўкоў, а ў некаторых іншых эпізодах – акупанты або іх прыслужнікі – паліцаі (гэта ўжо «воўчая зграя» ў пераносным сэнсе).

Прыслоўна-акалічнасны, функцыянальна не замацаваны фразеалагізм ***на сённяшні дзень*** абазначае «ў сучасны момант, на цяперашні час»: *Байкі Крапівы не страцілі свайго гучання і злабадзённасці і на сённяшні дзень* (М. Лынькоў); *Дарогай Уладзіміра Караткевіча ідзе і Л. Дайнека, на сённяшні дзень, несумненна, найбольш значны ягоны паслядоўнік* (А. Марціновіч); *Варта прызнаць гэтую класіфікацыю як найбольш слушную на сённяшні дзень* (Роднае слова. 2009, №10).

Дзеяслоўны фразеалагізм ***збіць з ног*** (каго) мае значэнне «ўдарам ці штуршком паваліць каго-небудзь на зямлю або падлогу»: *Ну і шуганулі вы яго! Выскачыў як апараны. Чуць мяне з ног не збіў* (К. Крапіва); *Салдат, не спяшаючыся, падышоў, павольна адвёў руку і кароткім ударам у грудзі збіў жанчыну з ног* (Э. Самуйлёнак); *Ён кінуўся да дзвярэй, збіў з ног салдата і пабег уздоўж сяла* (М. Лобан). Між іншым, у «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т. 2, с. 428) пры апісанні мнагазначнага дзеяслова «збіць» памылкова вылучаюць у ім адно з яго значэнняў – «прымусіць каго-небудзь упасці», але ілюструюць яго прыкладам-фразеалагізмам «збіць з ног».

У згаданым напачатку «Слоўніку фразеалагізмаў» (т. 1, с. 474) змешчаны на сваім алфавітным месцы фразеалагізм *захадзіць (пайсці)*

*ходырам (хадуном)*, аднак чамусьці без яго апісання, хоць ва ўсіх іншых мясцінах слоўніка, дзе ёсць загаловачныя «апорныя» кампаненты *пайсці, ходырам, хадуном* даюцца адсылкі на «захадзіць ходырам». Узнікае неабходнасць падаць гэты слоўнікавы артыкул у «Нашым слове»:

**Захадзіць (пайсці) ходырам (хадуном)**. *Зак. Разм.* **1.** Часцей ужыв. пры дзейн. са знач. канкр. прадмета. Пачаць хістацца, калыхацца. *Захадзілі жорны хадуном, аж трасуцца сцены ветраковы, увіхацца трэба – кожны дом ганарыцца ўраджаем новым* (Я. Непачаловіч); *Ходырам захадзіў вагон* (Х. Шынклер).

**2.** Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета ці зборн. знач. Пачаць бурна праяўляцца, хутка рухацца. *Прыйшла яна [рэвалюцыя] – ходырам усё захадзіла, свет перавярнуўся, а я мала што разумею* (В. Каваль); *Унутры ж нельга бачыць – а там у Зосі так і захадзіла хадуном, так і разлілося нешта цяжкім атрутным жарам* (Ц. Гартны); *– Як толькі выкурым немцаў, то такое вяселле вам закруцім, уся Карпілаўка ходырам пойдзе, – пазіраючы на маладых, казаў Салавей* (С. Грахоўскі).

*Наша слова. 2010. 24 сак.*

## ПРА САЎЛА, ПАЎЛА І ІНШАЕ

У Евангеллі (Дзеянні святых апосталаў, 7-9, 26) расказваецца пра апостала Паўла. Спачатку гэта быў юнак з імем Саўл – злосны праціўнік хрысціян. Удзельнічаў у забойстве аднаго з хрысціян, заходзіў у хаты, забіраў мужчын, жанчын і здаваў іх у турму. Але аднойчы, па дарозе ў горад Дамаск, ён пачуў звернуты да яго голас з неба, які папракаў яго за ганенні на Хрыста і яго вучняў. Ашаломлены голасам Ісуса, Саўл прыняў імя Павел і ператварыўся ў перакананага хрысціяніна, апостала Паўла, прапаведніка хрысціянства.

На аснове гэтай біблейскай легенды ў многіх мовах свету склаўся фразеалагізм ***ператвараць Саўла ў Паўла***, які ўжываецца ў значэнні «рэзка, дыяметральна супрацьлегла перамяняць перакананні, погляды, рашэнні»: *Старшынёй ЦВК замест нацыянал-камуніста Жылуновіча стаў больш надзейны стаўленік ЦК РКП(б) Мяснікоў. Гэта яскравы прыклад таго, як загад партыі ператвараў Саўла ў Паўла* (К. Тарасаў).

У сваіх ранейшых нататках, змешчаных у «Нашым слове» (24.03.2010), я ўжо гаварыў, што фразеалагічны склад нашай літаратурнай мовы, як і іншых моў, увесь час развіваецца, папаўняецца. Там жа я апісаў чатыры выразы, якія па розных прычынах не трапілі

ў двухтомны «Слоўнік фразеалагізмаў» (2008). Не было ў гэтым слоўніку і выразу пра Саўла і Паўла. Не было толькі таму, што я не меў ніводнага прыкладу яго фіксацыі ў пісьмовых літаратурных крыніцах. Пададзім яшчэ некалькі фразеалагізмаў, не занатаваных у памянёным слоўніку.

Выклічнікавы выраз ***даруй божа*** двухзначны. Яго першае значэнне – гэта выказванне рашучага адмаўлення чаго-небудзь або нязгоды з чым-небудзь, напрыклад: *А тут, даруй божа, ніякай выгады! Не шукаючы далёка, глянь толькі, пане, на нашую карчму* (В. Дунін-Марцінкевіч); *То ж спакуса, даруй божа, вячэраў бы дзе-небудзь у хаце, а то ўзапрэцца на паравоз і пачынае ладзіць яешні* (М. Лынькоў). Другое значэнне – вокліч пры выказванні, рэзкасць якога ўспрымаецца самім моўнікам: *Вось язык у чалавека! Ото ж ёлупень, даруй божа!* (М. Лынькоў).

Назоўнікавы фразеалагізм ***мазоліць мазгі*** абазначае «сур'ёзна думаць, меркаваць, разважаць»: *А так без прычыны навошта мазоліць мазгі і псаваць нервы?* (Я. Колас); *Сам жа галоўны рэдактар, падгалоўныя, усе рэдактарскія слупы і качарэжкі мазолілі мазгі над чарговай старонкай сваёй газеты* (М. Лынькоў).

У навуковай літаратуры апісаны разнастайныя спосабы ўтварэння фразеалагізмаў. Найчасцей яны ўзнікаюць на базе моўных адзінак іншых узроўняў – словазлучэння, сказа, слова. Разам з тым у мове ёсць нямала выразаў, якія ўтварыліся на аснове ўнутраных фразеалагічных рэсурсаў, склаліся на базе ўжо гатовых фразеалагічных адзінак. У гэтым унутрыфразеалагічным спосабе ў сваю чаргу вылучаецца шэсць разнастайных працэсаў утварэння новых выразаў. Адзін з іх – даволі пашыраны. Гэта ўтварэнне ад выразаў дзеяслоўнага тыпу суадносных з імі назоўнікавых фразеалагізмаў. Да прыкладу, ёсць дзеяслоўныя выразы *абіваць парогі, перамываць костачкі, гуляць у маўчанку* і ўтвораныя ад іх назоўнікавыя фразеалагізмы *абіванне парогаў, перамыванне костачак, гульня ў маўчанку*. Такіх назоўнікавых выразаў у «Слоўніку фразеалагізмаў» каля 90. Да іх варта далучыць яшчэ два, нядаўна сустрэтыя ў мастацкіх тэкстах.

Назоўнікавы выраз ***кіданне ценю*** (на каго, на што) утвораны на аснове дзеяслоўнага *кідаць цень* і абазначае «ачарненне, выстаўленне ў непрыглядным святле каго-, што-небудзь». Вось прыклад яго ўжывання: *Можна было дапусціць, што ў сакратара абкама маюцца сякія-такія недахопы, але яны мусілі абавязкова выяўляцца ці то з дапамогай таварышаў, ці то вышэйстаячай*

*партыйнай арганізацыяй, інакш – будзе згушчэнне фарбаў, кіданне ценю ці не на ўсю партыю* (В. Блакіт).

Назоўнікавы фразеалагізм ***захворванне на пана*** (ад дзеяслоўнага *хварэць (захварэць) на пана*) мае значэнне «праява высакамернасці, фанабэрыстасці, нечаканых звычак»: *Для маіх равеснікаў праявы сардэчнай чуласці ў сем'ях былі раўназначныя з захворваннем на пана, са здрадай мужыцкай плябейскай годнасці* (У. Калеснік).

Яшчэ адзін унутрыфразеалагічны працэс – утварэнне на базе фразеалагізмаў дзеяслоўнага тыпу выразаў, структурна арганізаваных як двухсастаўны сказ. Скажам, на аснове *заварваць кашу* ўзнік фразеалагізм *каша заварваецца*. Або: *ламаць коп'і – коп'і ламаюцца*; *развязаць рукі – рукі развязаны*; *спаліць масты – масты спалены* і г.д. Гэтак жа ўзнік не зафіксаваны ў слоўніках фразеалагізм ***уся абедня сапсута*** – на аснове дзеяслоўнага *сапсаваць усю абедню* і мае сэнс «парушаны ўсе планы, справы, намеры»: *Так і не давялося мне (хвораму) выехаць з табой на шчупакоў... і з-за мяне была сапсута ўся абедня* (М. Лынькоў).

Варты ўвагі і яшчэ адзін выраз, з якім я сустрэўся, чытаючы аповесць В. Казько «Сказ пра ката, каторы смяяўся». Гэта – ***часам з макам, а часам з такам*** (у сэнсавых адносінах ён амаль тое самае, што і даўно вядомы *часам з квасам, а парою з вадою*): *Так пачалося яго (Біча) раяванне на пупе зямлі. Рай жа і ў Афрыцы рай, як у той знакамітай з шматзначнай назвай краіне Гандурас: часам з макам, а часам з такам.*

*Наша слова. 2010, 1 верас.*

### ***Няхай будзе*** **ЯК СОРА (САРА) КАЗАЛА**

У нашай літаратурнай мове (і ў шмат якіх народных гаворках) ёсць фразеалагізм *як Сора (Сара) казала*. Ён звычайна ўжываецца ў спалучэнні з папярэднім суправаджальнікам-словазлучэннем *няхай будзе* і абазначае «(няхай будзе) так, як каму-небудзь хочацца; па-твойму, па-вашаму». Напрыклад, у камедыі Янкі Купалы «Паўлінка» ёсць такі дыялог: «[Якім:] Я ўсё акуратна прыгатую, ты паназавяжаш у клунак што патрэбнейшае, а там праз момант – і ты мая на векі вечныя. [Паўлінка:] Не я твая, а ты мой на векі вечныя! [Якім:] Ну, хай будзе як Сора казала». Адзначым, дарэчы, што спачатку ў абодвух аўтографах камедыі было: «Ну, хай будзе *па-твойму*». Пасля і ў чарнавым, і ў белавым аўтографах слова *па-твойму* заменена выразам *як Сора казала*.

Прывядзём яшчэ два прыклады з выкарыстаннем гэтага выразу ў літаратурна-мастацкіх творах: 1) – А хто адказнасць будзе несці за гэты твой манеўр? Сувораў? – Я! На мне адказнасць!.. – А няхай будзе як Сора сказала...(*А. Савіцкі*); 2) – Не распачынай дыскусіі, пайшлі! – настойвала Рагнеда. – Хай будзе як Сара казала, скончыў «дыскусію» Янка вядомым у яго мясцінах прыслоўем (*У. Дамашэвіч*).

У слоўніках іншых моў (украінскай, польскай, рускай) гэты выраз не фіксуецца. Яго занатаваў толькі Міхал Федароўскі ў гаворках Гродзеншчыны і змясціў у 4-м томе «Люду беларускага на Русі Літоўскай» (пад нумарам 7543): *Няхай так будзе, як Сора сказала.* Даецца і спасылка на адзін польскі фальклорны зборнік XIX ст., дзе таксама змяшчаецца суадносны адпаведнік гэтага выразу; у сучасных жа польскіх даведніках ён не падаецца.

У маім «Этымалагічным слоўніку фразеалагізмаў» (Мінск: БелЭн, 2004) раскрываецца гісторыя і паходжанне каля 1750 фразеалагічных адзінак сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Да апошняга часу я не ведаў, якім жа чынам узнік выраз «як Сора казала». Але нядаўна адзін з калегаў выказаў здагадку: ці не склаўся гэты выраз пад уплывам Бібліі?

Я і раней чытаў гэту самую вядомую, самую папулярную кнігу ў свеце. Яна займае першае месца па колькасці перакладаў на розныя мовы. А перакладзена яна на 1250 моў і дыялектаў. Ніякая іншая кніга не аказала такога вялікага ўздзеяння на развіццё сусветнай культуры, як Біблія. У нашай мове ёсць 116 фразеалагізмаў і 19 прыказак, якія сваім жыццём абавязаны Бібліі.

Цяпер, звярнуўшыся да біблейскай кнігі Старога запавету (Быціе, 16, 2, 5; 21, 9-10), я знайшоў неаднойчы паўторанае спалучэнне *Сара сказала.* Ёсць тут і словы Бога да праайца Абрама (Аўраама): «...ва ўсім, што скажа Сара, слухайся голасу яе» (Быціе, 21, 12).

У аснове ж выразу, хутчэй за ўсё, – аповед з главы 16-й (Быціе, 16, 1-16). Сара, жонка Абрама, была бясплодная, а яны абое хацелі мець дзяцей. Аднойчы Сара сказала мужу, каб ён узяў сабе ў жонкі яе служанку Агару. Муж зрабіў так, як Сара сказала. Калі Агар зацяжарала, Сара прагнала яе, пасля ж, як у тае нарадзіўся сын, Абрам і Сара назвалі яго – Ізмаіл. А яшчэ праз некалькі гадоў, з Божае ласкі, і Сара, хоць была ўжо вельмі старая, нарадзіла сына Ісака (Быціе, 21, 1-3).

Між іншым, у паэме К. Крапівы «Біблія» (1926) пра гэтыя радзіны ёсць радкі:

Меў Абрам ужо са сто,

Дзевяноста было Сары,
І вы ведаеце што? –
У паважнай гэтай пары
Нарадзіўся сын Ісак.
Разважайце так і сяк,
Ці то дзіва, ці не дзіва,
Толькі Сара нарадзіла...

Зразумела, сёння гэта паэма К. Крапівы стала анахранізмам. Але яна – факт беларускай літаратуры, таму, як кажуць, з песні слова не выкінеш.

*Наша слова. 2010. 7 ліп.*

## ПРА «ЛАХІ ПАД ПАХІ»

Размоўны выраз *лахі пад пахі* ў слоўніках іншых моў не фіксуецца. Ён – уласна беларускі і досыць пашыраны ў літаратурнай мове, а таксама амаль ва ўсіх нашых гаворках. Вось толькі некалькі прыкладаў яго ўжывання: 1) Вазьму *лахі пад пахі* – маёмасць мая невялікая – ды пайду шукаць шчасця па свеце (Я. Колас); 2) Усё ж такі прыйдзецца ўзяць *лахі пад пахі* і дзе-небудзь схавацца... (З. Бядуля); 3) Мне далі водпуск на тры месяцы. Узяў *лахі пад пахі*, сеў на цягнік, прыехаў да Воршы... (Ц. Гартны); 4) Трэба хутчэй браць *лахі пад пахі* ды ўцякаць (І. Навуменка).

З гэтых і шмат якіх іншых прыкладаў выразна відаць, што фразеалагізм *лахі пад пахі* выступае ў ролі дапаўнення, мае прадметнае значэнне «свае пажыткі, манаткі, рэчы з сабой» і рэалізуе яго пры дзеясловах *браць, узяць* або *сабраць, схапіць, прыхапіць*. Аднак амаль ва ўсіх навуковых і даведачных працах беспадстаўна прыпісваюць гэтаму выразу то прыслоўна-акалічнаснае, то дзеяслоўнае значэнне. Так, у «Беларускай фразеалогіі» А.С. Аксамітава (с. 40, 197, 212) фразеалагізм тлумачыцца як «хутка, вельмі паспешліва» і ставіцца ў сінанімічны рад з выразамі *без агляддкі, ва ўсе лапаткі, як на пажар*. Такое ж прыслоўна-акалічнаснае тлумачэнне «вельмі паспешліва, нядоўга збіраючыся» даецца фразеалагізму ў кнізе Б.А. Плотнікава «Агульнае мовазнаўства” (с. 251), у даведніку В.А. Ляшчынскай «Слоўнік фразеалагізмаў у мове твораў Янкі Купалы» (с. 151) і некаторых іншых працах. У другіх жа даведніках фразеалагізм кваліфікуецца як дзеяслоўны і растлумачваецца дзеяслоўным словазлучэннем. Напрыклад, у «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т. 3, с. 26): «сабраць небагатыя пажыткі, узяць з сабой і пайсці». Амаль гэтак жа паясняецца сэнс фразеалагізма і ў такіх

даведніках: «Фразеалагічны слоўнік мовы твораў Я. Коласа» (с. 295), «Слоўнік мовы Янкі Купалы» (т. 3, с. 12), «Слоўнік беларускай народнай фразеалогіі» Е.С. Мяцельскай і Я.М. Камароўскага (с. 137).

Як вядома, каб праверыць, ці правільна вызначылі сэнс таго ці іншага фразеалагізма, неабходна карыстацца прыёмам накладання на фразеалагізм яго тлумачэння. Калі цяпер звярнуцца да прыведзеных напачатку чатырох прыкладаў або да тых ілюстрацый, што даюцца ў названых вышэй слоўніках, то ўжыты ў іх фразеалагізм *лахі пад пахі* можна без урону для сэнсу замяніць не прыслоўным і не дзеяслоўным, а толькі назоўнікавым спалучэннем «свае пажыткі з сабой». Менавіта з гэтым значэннем ужываецца фразеалагізм, калі гаворыцца пра любыя асабістыя рэчы, што можна прыхапіць з сабою, панесці ў руках ці на сабе перад адыходам, уцёкамі, ад'ездам кудынебудзь: «Прыхапіўшы *лахі пад пахі*, яны зноў уцякалі ў далёкія і блізкія Бярозавы...» (В. Гігевіч).

Недакладнасць пры вызначэнні сэнсу гэтага фразеалагізма выклікаецца тым, што складальнікі слоўнікаў, відаць, не карыстаюцца памянёным прыёмам накладання, не ўлічваюць сінтаксічную функцыю гэтага выразу, яго спалучальныя ўласцівасці і слоўнае акружэнне, у якім па-рознаму праяўляецца фразеалагічнае значэнне. Справа ў тым, што выраз *лахі пад пахі* даволі часта ўжываецца не пры дзеясловах-суправаджальніках *браць, узяць, схапіць* і падобных, а без іх, займае месца пры дзейніку са значэннем асобы, выконвае ролю дзеяслоўнага выказніка, аказваецца пры перадачы хуткай змены падзей перад другім аднародным выказнікам, з якім звязваецца злучальнай сувяззю, і абазначае «схапіць з сабой свае рэчы». У такіх выпадках перад намі ўжо не другое значэнне гэтага выразу, а самастойны фразеалагізм, адрозны ад папярэдняга як сваёй семантыкай, так і сінтаксічнай роляй і слоўным акружэннем. Вось прыклад з «Паўлінкі» Я. Купалы: «[Якім:] Заўтра вечарам, як толькі ўсе паўкладаюцца, – я ўжо ў садзе пад акном буду цябе чакаць. Ты аконца адчыніш, *лахі пад пахі* ды скакель з хаты ў сад!» Яшчэ прыклады: 1) Ну, мы, доўга не думаючы, *лахі пад пахі* ды ходу (М. Лынькоў); 2) Зараз *лахі пад пахі* і дадому – канец маёй работы тут (К. Чорны); 3) Хлопцы... працуюць год-другі, а потым *лахі пад пахі* – і памінай як звалі (І. Сіняўскі); 4) Заставалася... *лахі пад пахі* ды хутчэй на станцыю (М. Гроднеў); 5) Я *лахі пад пахі* і сюды (А. Савіцкі).

Фразеалагізм *лахі пад пахі*, ужываючыся ў названым вышэй значэнні і спецыфічным слоўным акружэнні, уступае ў сінанімічныя адносіны з трыма такімі ж рыфмаванымі выразамі: *шапку ў ахапку, шаркі на баркі, шашкі ў мяшкі*. Усе чатыры выразы ў любых

кантэкстах узаемазамяняльныя: 1) Я не стаў чакаць, пакуль у іх высахнуць слёзы: *шапку ў ахапку* ды за дзверы (І. Аношкін); 2) Я тут *шаркі на баркі* і драла (Ф. Янкоўскі); 3) Доўга не грэў зубы, *шашкі ў мяшкі* ды дамоў (Г. Юрчанка).

Узнікненне выразу *лахі пад пахі* такое. У яго складзе ёсць сэнсаўтваральны кампанент. *Лахі*, як засведчана ў ТСБМ (т. 3, с. 26), – гэта «старое паношанае адзенне»; напрыклад, у «Пушчанскай адысеі» А. Карпюка: «Не ведаю, кажух браць ці не? Мо дарэмна буду толькі валачы *лахі*». Параўнаем аднакаранёвыя іншыя словы: *лахманіна, лахманы, лахмоцце*. Слова *лахі* ёсць і ў некаторых іншых суседніх мовах: украінскае *лахи*, славацкае *lachy*, чэшскае *lach*, польскае *łach*, рускае дыялектнае *лахи*. Першапачатковы сэнс спалучэння *лахі пад пахі* быў даволі зразумелы. У далейшым кампаненты выразу, звязаныя ўнутранай рыфмай, страцілі канкрэтнае і набылі больш шырокае, абагульненае значэнне: *лахі* – не абавязкова толькі «адзенне», *пад пахі* – не абавязкова «пад плечы». Дарэчы, тут, як і ў некаторых іншых рыфмаваных выразах, фармальнае пераважае над лагічным, семантычным, адзін з кампанентаў, відаць, падагнаны пад гукавую сіметрыю фразеалагізма.

Прыкладна тое самае можна сказаць пра памянёныя вышэй тры сінанімічныя выразы. Першапачатковая вобразнасць першага фразеалагізма (*шапку ў ахапку*) і сёння ўсведамляецца выразна. Апошні кампанент у фразеалагізме *шаркі на баркі* – хутчэй за ўсё, запазычанне з польскай мовы (*barki* – «плечы»). А першы, як і ў многіх рыфмаваных выразах, прыдуманы, нематываваны, склаўся ў працэсе рыфмоўкі. У фразеалагізме *шашкі ў мяшкі* першапачатковае значэнне апошняга кампанента зразумелае, хоць ён тут мае абагульнены сэнс (маецца на ўвазе зусім неабавязкова мех як прадмет хатняга ўжытку). Першы ж кампанент прыплюсаваўся для рыфмы.

*Наша слова. 2009. 8 ліп.*

**ПРА ВЫРАЗ «У ЧЫМ СПРАВА»**

У «Родным слове» (2008, № 1, с. 66) пад рубрыкай «Паслухаем моваазнаўцаў» падаецца з загалоўкам «Дык «у чым справа»?» урывак з аднаго дапаможніка. Тут гаворыцца пра няправільны, штучны пераклад рускіх фразеалагізмаў на беларускую мову, пра выкарыстанне фразеалогіі, неўласцівай нашай мове. Ёсць і спасылка на выказванне Кузьмы Чорнага. Маецца на ўвазе яго артыкул «Небеларуская мова ў беларускай літаратуры», апублікаваны ў 1928 г. Пісьменнік адмоўна ставіцца да некаторых сустрэтых у літаратурных

творах слоў, канструкцый, а таксама выразаў, у тым ліку і *ў чым справа.* Не будзем забываць, што гэты артыкул пісаўся тады, калі наша літаратурная мова, кажучы словамі Максіма Лужаніна, яшчэ «шукала нормаў». Таму многія сцвярджэнні К. Чорнага, несумненна, устарэлі і ніяк не могуць лічыцца актуальнымі і для сённяшняга дня. Зрэшты, варта пагадзіцца з тым, што К.Чорны слушна крытыкуе аўтара п'есы «Каля тэрасы», які ўклаў выраз *у чым справа* менавіта ў вусны сялянкі, бо тады, у 1928 г., гэты фразеалагізм яшчэ не быў агульнаўжывальным і не ацэньваўся як размоўны.

А ўжывацца ў літаратурных тэкстах ён стаў значна раней. Так, у трагікамедыі Янкі Купалы «Тутэйшыя» (1922) ён выкарыстаны двойчы. Адзін раз яго ўжывае Янка Здольнік, які, пачуўшы гутарку Зноска з Немцам, пытаецца: *У чым справа?* Другі раз гэты выраз знаходзім у аўтарскай мове – у рэмарцы: *Чырвонаармеец палажыў набок абломак стрэльбы і паглядае, не разумеючы,* ***у чым справа***. У сатырычным вершы Кандрата Крапівы «У крывавых муках» (1923) чытаем: *Што за гвалт?* ***У чым*** *тут* ***справа****?* Дзесяткі разоў сустракаецца гэты выраз у мастацкіх творах дваццатых гадоў мінулага стагоддзя, у такіх аўтараў, як Максім Гарэцкі, Цішка Гартны, Сымон Баранавых, Рыгор Мурашка, Міхась Лынькоў і інш.

Аналагічны выраз ёсць і ва ўкраінскай мове: *в чому справа.* Нароўні з ім і з тым жа сэнсавым зместам «што здарылася» ўжываецца *в чому річ.* У беларускай літаратурнай мове таксама нярэдка ўжываюць *у чым рэч.* Напрыклад, у Купалавых «Тутэйшых» (у рэмарцы) ёсць: *Немец паказвае на мігі, што не разумее,* ***у чым рэч***. Або ў камедыі К. Крапівы «Хто смяецца апошнім»: *[Левановіч:] Высветлім,* ***у чым*** *тут* ***рэч***.

Фразеалагізм *у чым справа* ў беларускіх акадэмічных тлумачальных і перакладных слоўніках чамусьці падаецца толькі ў такім афармленні: *у чым справа?* Як ужо было відаць з некаторых прыведзеных прыкладаў, выразы *ў чым справа, у чым рэч* ужываюцца не толькі ў ролі пытальнага сказа. Даволі часта яны выступаюць як даданая частка складанага сказа. Вось толькі тры прыклады: *Пятрусь, хоць і глухаваты, раскатурхайся хутка, сцяміў,* ***у чым справа***...(Я. Брыль); *Хлопцы не разумелі,* ***у чым справа*** (А. Чарнышэвіч); *Скеміўшы,* ***у чым рэч****, хапаешся за адну кішэнь, за другую...* (К. Крапіва).

Магчыма, фразеалагізм *у чым справа* – паўкалька з рускага *в чем дело*, але ён трывала прыжыўся ў нашай літаратурнай мове, і няма падстаў лічыць яго небеларускім. Фразеалагізмы з прычыны сваёй яркасці, экспрэсіўнасці, а ў шмат якіх выпадках і вобразнасці

вылучаюцца выключнай «прыліпчывасцю», здольнасцю пераходзіць з адной мовы ў другую. Як паказваюць даследаванні апошніх дзесяцігоддзяў (працы Эдуарда Саладухі, Юрыя Саладуба і інш.), у многіх развітых літаратурных мовах на долю запазычанняў, калек і паўкалек прыходзіцца да паловы фразеалагічнага фонду. І гэта натуральная з'ява: «Як ніводзін народ не можа паўнакроўна існаваць без featurнабаковых кантактаў з іншымі народамі, так і мова спустошылася б сама ў сабе, не знаходзячы падсілкавання ў іншых мовах і не аддаючы ў сваю чаргу ўласных жыватворчых сокаў» (В.М. Макіенка).

*Наша слова. 2009. 30 сн.*

## БЯДА, ЯК ПІРАГІ ПАЧНЕ ПЯЧЫ ШАВЕЦ...

Гэты крылаты выраз з байкі І.А. Крылова неаднойчы прыходзіў на думку, калі я чытаў артыкул Івана Осіпава «З роднай гаворкі», змешчаны ў часопісе «Маладосць» (2010, № 3, с. 127 – 130). Напачатку аўтар піша, як ён «на летніх вакацыях сабраў свой інвентар (сшытак, аловак) і пайшоў «шпацыраваць» па вёсцы, запісваючы ўсё, што трапляла ў вуха». Нідзе, аднак, не сказана, якая ж гэта вёска і ў якім раёне Беларусі адбываецца дзея. Мусіць, усё, «што трапляла ў вуха», а пасля і ў сшытак, праз нейкі час, як ні дзіўна, апублікавалі ў часопісе.

У шматлікіх ранейшых падборках з дыялектнымі словамі, фразеалагізмамі, прыказкамі, змешчаных на старонках «Полымя», «Роднага слова» або ў тэматычных зборніках, падаваліся толькі такія моўныя адзінкі, якія ў мінулым не апісваліся ні ў нарматыўных слоўніках беларускай літаратурнай мовы, ні ў дыялектных даведніках, ні ў іншых асобных публікацыях. Аўтары такіх падборак, перш чым уключыць у яе (падборку) выяўленую імі моўную адзінку, звярталіся (толькі так і трэба!) да ўсіх слоўнікаў, каб пераканацца, ці не адкрываюць яны ўжо адкрытае, і апісвалі гэтую адзінку ў адпаведнасці з агульнапрынятай лексікаграфічнай практыкай.

І. Осіпаў або знарок не зважае на гэта, або проста нічога не ведае пра такую ўстойлівую практыку і традыцыю. Ён піша: «Так і пачалася мая малая, але і вялікая справа – запісаць, даведацца, пачуць усё, што тычыцца роднай вёскі і наваколля».

У яго падборцы 57 запісаў (яны пранумараваныя). На жаль, я не знайшоў тут нічога новага і сумняваюся, што гэта – «вялікая справа». Тут толькі адны недарэчнасці, недакладнасці, нелагічнасці, «паўтарэнне пройдзенага».

Напрыклад, агульнавядомая прыказка «Адна бяда не ходзіць, другую за сабою водзіць» гаворыцца, калі чалавеку не шанцуе, калі

непрыемнасці ідуць адна за адной. У падборцы І. Осіпава яна тлумачыцца словамі, значэнні якіх адсутнічаюць ў сэнсавай структуры гэтай прыказкі: «Ніколі не расслабляйся, бо па жыцці заўсёды ёсць нейкія праблемы. Сёння адна праблема (бяда), а заўтра будзе другая – так было заўсёды». Яшчэ адна, не менш вядомая прыказка «Адзін з сошкаю, сямёра з ложкаю» растлумачана так: «На адным гаспадары іншыя трымаюцца». Але сапраўдны яе сэнс такі: «Працуе адзін, а вынікамі яго працы кормяцца многія».

Усе пранумараваныя і вынесеныя ў загаловак сказы, словазлучэнні, словы аўтар суправаджае тымі ці іншымі паметамі: прыказка, прымаўка, выслоўе, параўнанне і г.д. Але наўрад ці ўсведамляе ён, якая розніца паміж гэтымі паняццямі. Так, прыказка алегарычнага характару «Блізка локаць, ды не ўкусіш» мае ўстойлівую і ўзнаўляльную форму, але ў падборцы (№ 47) пададзена з паметай «прымаўка» і ў форме «Хоць локаць блізка – але не ўкусіць». Многія іншыя прыказкі таксама пазначаны паметай «прымаўка»; да прыкладу: «Як трывога, тады да Бога» (№ 51). Хоць сэнс гэтай прыказкі, здаецца, зразумелы кожнаму («Да Бога звяртаюцца найчасцей у няшчасці»), але складальнік дае волю фантазіі: «Самі нічога не могуць зрабіць, а ходзяць заўсёды за дапамогай – як маленькія дзеці».

Паметай «прымаўка» надзелены і шмат якія простыя ці складаныя сказы, у якіх няма нічога, характэрнага для прыказак ці прымавак. Або калі ў выказванні сустракаюцца фразеалагізмы (скажам: *галаву дурыць* каму, *за плячамі не насіць* што), то гэта ўжо для аўтара падстава, каб вынесці ўвесь сказ ў загаловак і пазначыць паметай «прымаўка»: «Папрыходзяць – галаву дурацць бабе», «Грамату за плячамі не насіць».

У нашай мове ёсць слова «анігадкі», яно фіксуецца ў даведніках як двухзначнае прыслоўе: 1) сэнсава адпавядае выразу «хоць бы што», 2) спакойна. Аўтар жа, відаць, недачуўшы, запісаў ад суразмоўніка гэта прыслоўе – з памылкай: *негадкі*, вынес у загаловак (№ 29), надзяліў паметай «выслоўе» і прыдумаў два значэнні: 1) пад'еў, што сыты і гатовы ісці, ехаць ці добра працаваць; 2) апрануўся так, што гатовы хоць на Поўнач ісці (калі халоднае надвор'е).

Паметай «выслоўе" пазначаны аж 26 выказванняў, «што трапілі ў вуха". Амаль усе яны – з клічнікам на канцы: «**15. Ладненькага ўзяў!** *Высл.* Поспех, добры выпадак. – *А я сягоння ладненькага ўзяў! Воз грыбоў прывёз!*» Або: «**32. Ніхто нічога такога!** *Высл.* Адкуль нам вядома? Няведама адкуль такое! – *Так, яно тое даўно было, у нас у вёсцы ніхто нічога такога і расказаць не мог*».

Гэтым неакрэсленым і расплывістым тэрмінам «выслоўе» прыкрываюцца дзесяткі сказаў, у якіх днём з агнём не знойдзеш нічога афарыстычнага, і звычайныя дзеясловы ў загадным ладзе («Каўтані!», «Пагуляй!», «Цякай!»), і нават слова «бач», якое як форма загаднага ладу ад дзеяслова «бачыць» падаецца ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т.1, с. 352) з двума значэннямі і адным адценнем.

Дарэчы, «Маладосць» змясціла артыкул І. Осіпава пад рубрыкай «Займальнае мовазнаўства». Але якое ж тут «мовазнаўства» і што ж тут «займальнага»?! Думаецца, лагічна было б гэта спалучэнне ўзяць у двукоссе як выдзяляльна-ацэначны знак для напамінку, што тут кожнае слова паасобку ўжыта не ў сваім звычайным значэнні, а ў іранічным сэнсе…

*ЛіМ. 2010. 16 ліп.*

## МАЙСТЭРСТВА І… ПАМЫЛКІ

Нядаўна Брэсцкі дзяржаўны універсітэт імя А.С. Пушкіна выдаў зборнік навуковых артыкулаў «Беларуская фразеалогія і еўрапейскі моўны кантэкст». У зборнік уключаны 68 дакладаў ці выступленняў, заслуханых і абмеркаваных на адпаведнай навуковай канферэнцыі ў Брэсце, што адбылася вясной гэтага года. Аўтары артыкулаў – выкладчыкі, аспіранты, магістранты і, відаць, студэнты-старшакурснікі з усіх абласных гарадоў рэспублікі. На самой канферэнцыі я не прысутнічаў, але цяпер больш-менш уважліва прачытаў увесь зборнік. Ёсць у ім шмат добрых артыкулаў па разнастайных праблемах беларускай фразеалогіі. Але сустракаецца і нямала недакладнасцей, недарэчнасцей, неабгрунтаваных сцвярджэнняў, асабліва ў працах, прысвечаных стылістычнаму выкарыстанню фразеалагічных адзінак у мастацкіх і публіцыстычных тэкстах. Пра некаторыя найбольш тыповыя недакладнасці далей і пойдзе размова – на прыкладах толькі з артыкула дацэнта Ларысы Яўдошынай «Майстэрства фразеаўжывання ў кнізе У. Калесніка «Доўг памяці».

Мы ўсе добра ведаем Уладзіміра Калесніка як аўтара шматлікіх капітальных літаратуразнаўчых прац, а яго «Доўг памяці» – гэта мемуары, кніга ўспамінаў пра маленства, гады навучання ў польскай гімназіі, пасля ў Навагрудскім педвучылішчы, пра падпольную, а затым партызанскую дзейнасць. Сам мемуарны жанр абмяжоўвае ўжыванне разнастайных сродкаў мастацкай выразнасці, але пры неабходнасці выкарыстоўваюцца і яны, у тым ліку і фразеалагізмы. І Л. Яўдошына робіць шэраг цікавых назіранняў за

індывідуальна-аўтарскім ужываннем фразеалагізмаў у Калеснікавай кнізе ўспамінаў, разглядае розныя стылістычныя прыёмы абыгрывання гэтых моўных адзінак. Але з некаторымі сцвярджэннямі нельга пагадзіцца.

Так, у складанай, трывожнай сітуацыі трое падпольшчыкаў рашылі неадкладна ісці ў партызанскі атрад, з якім яны мелі трывалую сувязь. Ваня Мацко заявіў, што і ён з малодшым братам пойдзе разам з імі. Далей гаворыцца, што «Ванеў ход дзвюма фігурамі парушыў правіла і ўвогуле выдаваўся нам залішне рызыканцкім». Л. Яўдошына піша, што спалучэннем «ход дзвюма фігурамі» аўтар «зашыфраваў фразему *ход канём*, якую чытач павінен дэкадзіраваць». Але такая «расшыфроўка» – вялізная нацяжка. Аўтарскае метафарычнае спалучэнне «ход дзвюма фігурамі» не мае ніякай сувязі з фразеалагізмам *ход канём*, сэнс якога – «спрытны, абходны манеўр, разлічаны на поспех у чым-небудзь».

Аўтарка сцвярджае, што ў кнізе У. Калесніка ёсць нямала фразеалагізмаў, «не зафіксаваных літаратурнымі слоўнікамі, але патэнцыяльна магчымых у фразеалагічнай сістэме». Прыводзіцца прыклад, у якім «патэнцыяльна магчымы» прэтэндэнт *даюць бярозавай кашы* выдзелены тлустым шрыфтам: «Ён і цяпер пачаў смяяцца з таго, што не пазналі сваіх нашы, даюць бярозавай кашы». У нашай мове, як і ў некаторых іншых, ёсць назоўнікавы фразеалагізм *бярозавая каша*, што значыць «розгі, дубец, рэмень і падобнае». Ён найчасцей ужываецца пры разнастайных дзеясловах-суправаджальніках: *бярозавай кашы не шкодзіла б* (Я. Купала), *бярозавай кашы хоча* (*захацеў*) (М. Лынькоў, Л. Калодзежны), *бярозавай кашы ўсыпаць* (М. Танк, А. Дзятлаў), *карміць бярозавай кашай* (М. Матукоўскі, У. Арлоў), *пакаштаваць бярозавай кашы* (А. Пальчэўскі, Л. Левановіч) і г.д. Выкарыстоўваецца ён і з дзеясловам «даць», абазначаючы ў такім разе «(даць) розгаў, дубца і пад.». Ва ўсіх пададзеных выпадках перад намі назоўнікавы выраз *бярозавая каша*, а таму толькі ў такой форме ён і фіксуецца ў слоўніках. А другая частка прыведзенага прыкладу з кнігі У. Калесніка – літаральнае паўтарэнне таго, што ёсць у п'есе К. Крапівы «Партызаны», у наступным эпізодзе. Кулак Маргун пытаецца ў Батуры, які «таксама занепакоіўся», пачуўшы, што вось-вось павінна ўступіць у вёску польскае войска: «А табе ж чаго баяцца? Гэта ж вашы... Ты ж паляк, здаецца?» Батура адказвае, «загадкава падміргваючы»: «Не пазналі сваіх нашы, бярозавай далі кашы».

Становячыся элементам сказа, фразеалагізм, як і слова, павінен рэалізавацца з тым значэннем, якое замацавала за ім

маўленчая практыка і з якім занатоўваецца ў нарматыўных даведніках. Толькі пры такой умове паміж тым, хто гаворыць ці піша, і тым, хто слухае ці чытае, усталёўваецца ўзаемаразуменне. Фразеалагізм можа быць ужыты з неўласцівым яму значэннем толькі тады, калі гэта абумоўлена крытэрыем мастацкасці і ўспрымаецца як стылістычны прыём. Калі ж фразеалагізм выкарыстаны з іншым, ненарматыўным значэннем і адыход ад нормы не выклікаецца якой-небудзь стылістычнай мэтай, перад намі фразеалагічная памылка.

Л. Яўдошына, відаць, не ведае гэтага, бо ўсхваляе тое, што, па сутнасці, трэба крытыкаваць. Яна піша: «Цікавымі і арыгінальнымі ўяўляюцца прыклады выкарыстання У. Калеснікам вядомых фразеалагізмаў з нетыповым, не зафіксаваным у слоўніках значэннем». Далей прыводзяцца чатыры прыклады і робіцца спроба памылковыя ўжыванні лічыць «цікавымі і арыгінальнымі». Адзін з іх такі: «Цяпер ён дэманстраваў, што сядзіць ціха, як рудая мыш». Тут замест «як рудая мыш» трэба: «як мыш пад венікам». Выраз жа *як рудая мыш* ужываецца пры дзеясловах *загінуць, прапасці,* абазначаючы пры гэтым «зусім дарэмна, бескарысна».

Яшчэ ў адным прыкладзе бачым ненарматыўнае выкарыстанне фразеалагізма *баранчык божы*: «Ваня Мацко дражніўся, іранізаваў: – Калеснік рашыў стаць аслом господнім ці божым баранчыкам». Фразеалагізмам «баранчык божы» называюць бакаса, балотную птушку з голасам, падобным на бляянне, а фразеалагізмам «конь божы» (у польскай мове *koń Pana Jezusa*) неадабральна характарызуюць тупога, неразумнага чалавека. У прыведзеным прыкладзе пераблытаны два выразы, якія маюць аднолькавы прыметнікавы кампанент (*конь божы* і *баранчык божы*).

Гэтак жа памылкова ўжыты і яшчэ два выразы: *бокам-скокам, ні жывы ні мёртвы.*

З аднаго боку, гэта памылкі аўтара кнігі ўспамінаў, а з другога боку – памылковая іх інтэрпрэтацыя Л. Яўдошынай.

Наогул недакладнасці семантычнага характару пры ўжыванні фразеалагізмаў – досыць пашыраная з’ява. У «Праблемах фразеалагічнай стылістыкі» (1984) я прыводзіў больш як 130 прыкладаў такога тыпу, выяўленых у творах вельмі многіх аўтараў.

А што да У. Калесніка, то сваю кнігу ўспамінаў ён, як сведчыць Янка Брыль, «пачаў пісаць ужо хварэючы ці дома, ці ў бальніцы, пісаў, выразна спяшаючыся». І не змог яшчэ і яшчэ раз перачытаць напісанае, паправіць штосьці, бо адышоў у іншы свет. А рукапіс падрыхтавала да выдання яго жонка.

Яшчэ некалькі слоў пра артыкул Л. Яўдошынай. Яна выпісала з «Доўгу памяці» 9 спалучэнняў, якія называе фразеалагізмамі, не зафіксаванымі ў слоўніках, і адносіць іх «да так званай фразеалагічнай нерушы»: *цягнуць за вяровачку, гарнушак нямыты, з пустой качаргой у руках* і інш. Але іх ні ў якім разе нельга лічыць фразеалагізмамі, бо ніводзін з іх не мае ні ўстойлівасці, ні ўзнаўляльнасці. Гэта індывідуальна-аўтарскія спалучэнні, аднойчы выкарыстаныя ў пэўнай маўленчай сітуацыі. Таму яны і не фіксуюцца ў слоўніках, і не павінны фіксавацца. І «фразеалагічнай нерушшу» не з'яўляюцца.

*Наша слова. 2009. 28 кастр.*

## ПРА ВЫМАЎЛЕННЕ ГУКА «Г»

Амаль ва ўсіх падручніках, навучальных дапаможніках па беларускай мове, а таксама ў акадэмічнай граматыцы і іншых навуковых працах, калі размова заходзіць пра вымаўленне зычных гукаў, гаворыцца, што ў нашай мове звычайна ўжываецца фрыкатыўны (шчылінны) гук «г», парны па глухасці-звонкасці з «х», і што толькі ў даволі рэдкіх выпадках выкарыстоўваецца выбухны «г», парны звонкі з «к». Часта дадаецца параўнанне з рускай мовай, дзе гук «г» выбухны. Але калі рабіць супастаўленне з рускай мовай, то, каб быць дакладным, варта дадаваць, што і ў ёй ёсць выключэнні з агульнага правіла. Як сведчаць арфаэпічныя даведнікі рускай мовы, у некалькіх яе словах вымаўляецца не выбухны, а фрыкатыўны «г» (гама)*: ага, ого, бухгалтер, господи, ей-богу, Бог,* а таксама ў выразах з кампанентам *бог: слава богу, дай бог* і інш.

У беларускай мове, як сказана ў падручніках і навуковай граматыцы, выбухны «г» вымаўляецца толькі ў асобных словах небеларускага паходжання: *гузік, гонта, гарнец, ганак, нягеглы, газа, гвалт, гільза* і нешматлікія іншыя. Часам у дадатак да гэтых далучаюцца яшчэ словы з гукаспалучэннем «зг»: *абрызгаць, брызгаць, бразготка, мазгі, розгі, рэзгіны* і некаторыя іншыя. Якія яшчэ словы ўваходзяць у гэтыя «некаторыя іншыя» ці «нешматлікія іншыя», у навуковай і навучальнай літаратуры нічога не гаворыцца. А іх, аказваецца, па маіх падліках, ні многа ні мала – аж 240. Усе яны пададзены з выбухным «г» у «Слоўніку беларускай мовы» (1987) – нарматыўным даведніку пра напісанне і вымаўленне, месца націску, формы скланення і спражэння больш як 118 тысяч слоў сучаснай літаратурнай мовы.

У лік 240 уваходзяць не толькі названыя вышэй, а і шмат якія іншыя словы, у тым ліку досыць многія ўтварэнні ад згаданых і незгаданых тут лексічных адзінак. Ёсць, напрыклад, назоўнік *мазгі* (з выбухным «г») і вытворныя на яго аснове *мазгайня, мазгавы, мазгавіты, мазгаваць, абмазгаваць, абмазгоўваць, абмазгоўванне, абмазгаваны.* Гэтак жа падаецца, скажам, лексічнае гняздо аднакаранёвых слоў: *цэгла, цэгліна, цагліна, цаглінка, цагляны, цагельня, цагельнік, цагельніца.* Сустракаюцца выпадкі, калі «Слоўнік беларускай мовы» дапускае варыянтнае вымаўленне. Да прыкладу, *абслізганы, абслізгаць, абслізгваць* можна вымаўляць з фрыкатыўным або выбухным «г».

Назіраючы за сучасным вымаўленнем гука «г» моўнікамі-беларусамі, можна сцвярджаць, што абсалютная большасць слоў з ліку 240 цяпер вымаўляецца не з выбухным, а з фрыкатыўным «г». У кнізе «Сучасная беларуская мова: Пытанні культуры мовы» (Мінск, 1973, с. 17) слушна гаворыцца, што выбухны «г» у слове *газа,* як і ў многіх іншых, ужываецца непаслядоўна, што ў размоўным стылі такія словы часцей вымаўляюць з «г» шчылінным (фрыкатыўным) і што гук «г» выбухны «варта разглядаць як рэлікт, які паступова знікае». Адпаведна з цягам часу могуць змяніцца і вымаўленчыя нормы, бо яны складаюцца ў працэсе маўленчай практыкі людзей, «куюцца і назапашваюцца ў кузні гутарковага маўлення» (Л.У. Шчэрба).

Аднак у вельмі многіх выпадках, калі вымаўленне выбухнога «г» абумоўліваецца дзейнасцю асіміляцыі – прыпадабнення папярэдняга глухога «к» да наступнага звонкага гука, такое вымаўлснне захаваецца назаўсёды. У свой час Язэп Лёсік у «Граматыцы беларускае мовы: Фонэтыка» (1926, с. 111) ілюстраваў вымаўленне выбухнога «г» не толькі словамі *мазгі, розгі, ганак,* але і шматлікімі іншымі, у якіх «к» пераходзіць у «г», «калі яму, будучы прыназоўнікам, прыходзіцца стаяць перад словамі, што пачынаюцца звонкімі *г, д, ж: г гары, г дому, г дзераву, г жалезу».* Выбухны «г» вымаўляецца, аднак, не толькі ў гэтых выпадках. Азванчэнне глухога «к» адбываецца ў сярэдзіне даволі многіх слоў, найчасцей запазычаных з неславянскіх моў, а таксама на стыку двух слоў. Вось толькі некалькі прыкладаў, дзе замест «к» вымаўляецца выбухны «г»: *анекдот, вакзал, Вялікдзень, гекзаметр, лікбез, пакгауз, сінекдаха, Стакгольм, штрэйкбрэхер, экзамен, экзатычны, экзекуцыя, экзэмпляр, экзотыка, экзэма, як бачыш, як бы, як жа.*

*Наша слова. 2008. 11 чэрв.*

## «ЛІНГВІСТЫЧНАЕ КРАЯЗНАЎСТВА ГРОДЗЕНШЧЫНЫ»

Пад такой назвай нядаўна выдадзена Гродзенскім універсітэтам імя Янкі Купалы кніга прафесара М.А. Даніловіча. Аўтар на працягу больш як дваццаці апошніх гадоў займаўся, разам са студэнтамі-філолагамі, даследаваннямі гаворак Гродзенскай вобласці. Ён ажыццявіў вялікую працу па збіранні, афармленні і сістэматызацыі дыялектных слоў і фразеалагізмаў. Свежы сабраны матэрыял, які адлюстроўвае сучасны стан гаворак, стаў добрай асновай тэарэтычнай і практычнай частак кнігі.

У ёй упершыню характарызуюцца сутнасць, гісторыя, формы, напрамкі лінгвістычнага краязнаўства, дасягненні навуковага краязнаўства ў галіне лексікі, анамастыкі, фразеалогіі, фанетыкі, марфалогіі, сінтаксісу. У гэтых адносінах кнігу М.А. Даніловіча можна лічыць новым словам у краязнаўстве. Яна не мае аналагаў у нашай лінгвадыдактыцы і можа стаць добрым узорам пры напісанні падобных навучальных дапаможнікаў для студэнтаў і краязнаўцаў іншых рэгіёнаў Беларусі.

Праведзена аналітычнае апісанне развіцця беларускага лінгвакраязнаўства на працягу мінулага стагоддзя. Адзначана, дарэчы, што асабліва плённа яно развівалася ў 1920-я гады. А ўжо ў 1930-я «такія раздзелы краязнаўства, як гістарычнае, літаратурнае, фальклорнае, этнаграфічнае і падобныя, развіваліся нераўнамерна, у залежнасці ад таго, у якой ступені яны адпавядаюць афіцыйным палітычным установкам. Лінгвістычнае краязнаўства не прапагандавалася наогул: па сваёй сутнасці яно супярэчыла бальшавіцкім планам, паводле якіх беларускай і іншым нацыянальным мовам (акрамя рускай) было запланавана знікнуць. Нават сам тэрмін "лінгвістычнае краязнаўства" ў тагачасных даведніках адшукаць немагчыма». Дададзім, што з запланаваных у сярэдзіне 1920-х гадоў амаль дзесяці абласных слоўнікаў пабачылі свет толькі два: «Віцебскі краёвы слоўнік» (1927) М. Каспяровіча і «Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны» (1929) М. Шатэрніка. Яшчэ адзін даведнік – «Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны», падрыхтаваны ў свой час І. Бялькевічам, быў выдадзены толькі ў 1971 годзе. Усе трое складальнікаў былі рэпрэсаваныя, а праз шмат дзесяцігоддзяў іх пасмяротна рэабілітавалі.

У кнізе М.А. Даніловіча паказана, што лінгвістычнае краязнаўства як адзін з раздзелаў агульнага краязнаўства падзяляецца на дзяржаўнае (навуковае), грамадскае (аматарскае) і школьнае. Большая частка кнігі адведзена навуковаму лінгвакраязнаўству. Тут даецца разгорнутае і ўсебаковае апісанне таго, як збіраць, афармляць і сістэма-

тызаваць дыялектны матэрыял. Асвятляюцца пытанні структурна-тыпалагічнага вывучэння гаворак, тэарэтычнага вывучэння дыялектнай лексікі і фразеалогіі. Паслядоўна і поўна прааналізаваны набыткі лінгвакраязнаўства ў галіне вывучэння мовы Гродзеншчыны (дыялектныя слоўнікі, падборкі мясцовых слоў, артыкулы і г.д.), акрэслены асноўныя напрамкі. Разгледжаны такія аспекты, як вывучэнне лексікі, фразеалогіі, анамастыкі, структурных тыпаў гаворак, біяграфій і навуковай спадчыны лінгвістаў Гродзеншчыны (С. Рысінскага, Я. Карскага, М. Федароўскага, Т. Сцяшковіч, П. Сцяцко і інш.).

Аўтар пераканаўча ўдакладняе раней выпрацаваную ў дыялекталогіі класіфікацыю беларускіх гаворак, вылучае асобны тып рэгіянальных асаблівасцей у сістэме дыялектнай мовы, паказвае функцыянаванне рысаў паўднёва-заходняга дыялекту, гродзенска-баранавіцкіх гаворак, заходняй і паўночна-заходняй зон на тэрыторыі Гродзеншчыны. Выяўлены вельмі многія моўныя з'явы мясцовых гаворак, пра што ніхто з ранейшых даследчыкаў не пісаў ні слова.

Думаецца, што да гэтай кнігі будуць звяртацца не толькі навукоўцы, аспіранты, выкладчыкі, але і настаўнікі-мовазнаўцы сярэдніх школ, бо тут грунтоўна выкладзена методыка арганізацыі краязнаўчай працы ў школе, даюцца прадуманыя і апрабаваныя на ўласным досведзе аўтара рэкамендацыі, як выкладаць беларускую мову ва ўмовах мясцовага дыялекту. Адзін з раздзелаў кнігі называецца «Школьнае лінгвістычнае краязнаўства». Тут размова ідзе пра перспектывы дыялекталагічнай працы ў школе, пра методыку збірання дыялектнага матэрыялу на факультатывах і ў пазакласнай працы па мове. Асобна гаворыцца пра збіранне лексікі, фразеалогіі, тапанімікі, пра спосабы і тэхніку фіксацыі дыялектных фактаў. Падкрэсліваецца, што настаўніку і вучням трэба добра ўсвядоміць, «што збіраць, як збіраць, як аформіць сабранае, дзе будзе выкарыстана і якую карысць прынясе дыялекталагічная калекцыя».

Слушна зазначаецца, што вывучэнне дыялектнай мовы не перашкаджае, а, наадварот, дапамагае лепш засвоіць літаратурную мову. Звяртаючы ўвагу на фанетычныя, граматычныя і слоўнікавыя адметнасці мясцовай гаворкі, вучні ўсвядомлена супрацьпастаўляюць іх літаратурным адпаведнікам, што «садзейнічае паглыбленаму разуменню літаратурнай нормы, павышэнню культуры маўлення, выпрацоўцы трывалых арфаграфічных навыкаў». Вучні пераконваюцца, што мясцовая гаворка – гэта не скажоная, сапсаваная, іншага гатунку мова, а нармальнае, людскае маўленне, створанае народам на працягу многіх стагоддзяў.

У кнізе адзначаецца, што ў многіх краінах з разуменнем і ўвагай ставяцца да сваёй дыялектнай мовы; напрыклад, у Германіі і Японіі яе берагуць і вывучаюць у школе ў якасці асобнага прадмета. І ў нас на пачатку 1990-х гадоў шырока абмяркоўвалася пытанне пра выкладанне беларускай дыялекталогіі ў сярэдняй школе. Але гэта ідэя, вартая ажыццяўлення, так і засталася нерэалізаванай.

Як бачым, у кнізе М.А. Даніловіча, якая мае не толькі навучальную, але і відавочную навуковую каштоўнасць, паказана, што лінгвакраязнаўства – істотны састаўны кампанент агульнага краязнаўства.

*Краязнаўчая газета. 2009. Студзень, № 2.*

## ДАВЕДНІК ПРА МОВЫ СВЕТУ

Нядаўна ў Магілёве выдадзена кніга прафесара В.І. Рагаўцова «Мовы свету: энцыклапедычны даведнік» (31 улікова-выдавецкі аркуш). Падобнага выдання ў нашай краіне яшчэ не было. Тут у алфавітным парадку апісана каля 400 моў. У гэты лік найперш увайшлі ўсе развітыя літаратурныя мовы, гэта значыць вывучаныя, даследаваныя. Многія з іх даволі значныя па тэрыторыі пашырэння і колькасці моўнікаў. Напрыклад, на кітайскай мове гавораць звыш 1,1 мільярда чалавек.

Як адзначаецца ў прадмове, на Зямлі жыве больш за 300 народаў, кожны з якіх перавышае 1 мільён чалавек, а разам гэта складае 96 працэнтаў насельніцтва нашай планеты. На астатнія 4 працэнты прыпадаюць тысячы іншых народаў, мовы якіх часам налічваюць зусім малую колькасць носьбітаў-моўнікаў. Так, падлічана, што на караімскай мове (Крым, Івана-Франкоўская вобласць і інш.) гавораць 535 чалавек. Прыкладна столькі ж носьбітаў мае нганасанская мова (паўвостраў Таймыр, Расія). У даведніку зрэдку апісваюцца і такія колькасна малыя мовы. Між іншым, зазначым: няцяжка зразумець, чаму на тэрыторыі былога Савецкага Саюза ўвесь час колькасць «нацменаў» не павялічвалася, а змяншалася. Напрыклад, татараў у царскай Расіі налічвалася, паводле перапісу, 32 мільёны, а цяпер іх толькі 6 мільёнаў, прычым, як нядаўна пісалася ў газеце «Звезда Поволжья» (Уфа), трэцяя частка сучасных татараў не валодае сваёй роднай мовай, перайшла на рускую мову, абрусела. Ці не такі лёс чакае і нас, беларусаў?.. Нездарма пры перапісе насельніцтва ў Беларусі патрабуюць абавязковага адказу на пытанне: на якой мове гаворыш дома? Каб пацвердзіць, што тут ужо

амаль усе цалкам абруселі і нічуць не супраць таго, каб стаць часткай Расійскай Федэрацыі...

У прадмове да слоўніка даецца шэраг цікавых навуковых звестак. Напрыклад, гаворыцца, што з агульнай колькасці да 5 тысяч моў і да 8 тысяч дыялектаў прыкладна палова моў прыпадае на такія краіны, як Інданезія (на яе тэрыторыі каля 300 моў), Індыя, Мексіка, Бразілія, Камерун, Кітай, ЗША, Расія.

Звычайна такія энцыклапедычныя даведнікі не перавыдаюцца і разлічаны на шматгадовае карыстанне імі. Таму аўтар вельмі правільна зрабіў, падаючы ўвесь матэрыял у адпаведнасці з новай рэдакцыяй «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», хоць яны, як вядома, уступаюць у дзеянне з 1 верасня 2010 года.

У кожным слоўнікавым артыкуле, прысвечаным той ці іншай мове, змяшчаецца інфармацыя аб прыблізнай колькасці моўнікаў (напрыклад, на англійскай мове гавораць больш як 400 мільёнаў чалавек), прыналежнасці мовы да пэўнай моўнай сям'і або групы моў (скажам, армянская мова не мае родзічаў, складае асобную групу індаеўрапейскай сям'і), тэрыторыі пашырэння і сацыяльным статусе (так, балгарская мова – дзяржаўная мова Балгарыі, бытуе і сярод балгар, што жывуць у Грэцыі, Македоніі, а таксама Румыніі, Малдове). Апрача таго, падаюцца дакладныя звесткі пра асаблівасці гукавога ладу, марфалогіі, словаўтварэння, сінтаксісу, лексікі. Называецца час з'яўлення пісьмовасці, найстаражытных пісьмовых помнікаў (напрыклад, у кітайскай мове раннія літаратурныя помнікі датуюцца 1-й паловай 1-га тысячагоддзя да нашай эры, у грэчаскай – 14 ст. да нашай эры, у армянскай – 5 ст., украінскай і польскай – 14 ст., у фінскай – каля 1543 г.). Пазначана сфера ўжывання (так, чэчэнская мова функцыянуе ва ўсіх сферах грамадска-вытворчага і культурнага жыцця народа Чэчні, мова радыё, тэлебачання, перыядычнага друку, выкладаецца ў школе, у тым ліку і вышэйшай). Завяршаецца слоўнікавы артыкул апісаннем вывучэння мовы (напрыклад, першая чэшская граматыка з'явілася ў 16 ст.) і спісам літаратуры пра пэўную мову.

Улічаны тыя ці іншыя змены ў статусе пэўнай мовы, у неаднастайнай трактоўцы прыналежнасці мовы да пэўнай групы ці моўнай сям'і і г.д. Напрыклад, сказана, што статус харвацкай мовы заканадаўча замацаваны ў 1991 годзе за харвацкім варыянтам сербскахарвацкай мовы.

Аб'ектыўна характарызуючы сферу ўжывання беларускай мовы, аўтар піша, што яна, побач з рускай, «мова школы, навукі, мастацкай літаратуры, радыё і тэлебачання, дзяржаўных і навукова-

асветніцкіх устаноў. Аднак размеркаванне функцый паміж дзвюма дзяржаўнымі мовамі вельмі нераўнамернае. Няма, напрыклад, беларускага судаводства, амаль адсутнічае справаводства на беларускай мове. Адбываецца актыўнае выцясненне беларускай мовы рускай, узмацняецца тэндэнцыя да скарачэння беларускамоўных (перш за ўсё перыядычных) выданняў і школ. Роля беларускай мовы зведзена да мінімуму ў такіх грамадскіх сферах, як дзяржаўнае кіраванне, вышэйшая адукацыя, навука. Мова займае другарадныя пазіцыі ў большасці камунікацыйных сфер».

Гэты вельмі карысны і патрэбны даведнік, на жаль, прадаецца толькі ў сталічнай кнігарні «Акадэмкніга». Калі ж хто захоча набыць гэту кнігу, то можна звярнуцца непасрэдна ў аддзел паліграфіі Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А. Куляшова (212022, Магілёў, вуліца Касманаўтаў, 1).

*Наша слова. 2009. 15 ліп.*

## ФУНДАМЕНТАЛЬНЫЙ ТРУД О МОНОГРАФИИ В.П. ЖУКОВА И А.В. ЖУКОВА «РУССКАЯ ФРАЗЕОЛОГИЯ» (М., 2006. 408 с.)

Имя Власа Платоновича Жукова, заслуженного деятеля науки РСФСР, доктора филологических наук, профессора, вызывает у белорусских языковедов, особенно тех, кто интересуется фразеологией и паремиологией, исключительное почтение. Он для нас неоспоримый авторитет. Никто из ученых не сделал столько для становления фразеологии в качестве самостоятельного раздела лингвистики, как В.П. Жуков (1921-1991).

Помнится, с каким неослабным интересом и большой пользой для себя читал я его статьи, которые время от времени появлялись на страницах московских научных журналов, сборников всесоюзных конференций. Каждая статья маститого ученого, а также монографические труды и словари – «езда в незнаемое», новые открытия в области фразеологии и паремиологии. В русской лексикографической практике не имеют аналогов его четыре широко известных словаря (некоторые написаны в соавторстве): «Словарь русских пословиц и поговорок», «Фразеологический словарь русского языка», «Школьный фразеологический словарь русского языка», «Словарь фразеологических синонимов русского языка».

Мне посчастливилось непосредственно познакомиться с Власом Платоновичем: он был официальным оппонентом при защите мною

кандидатской диссертации (1973) и докторской (1985). Меня пленили не только его великая ученость, но и откровенность, искренность, добросовестность, непосредственность, человечность. И честность. Он однажды на вопрос корреспондента: «Какие черты в ученом Вы считаете главными?» – ответил: «Те же, что и в любом другом человеке. Прежде всего, честность. Настоящий честный человек честен абсолютно во всем. Ну и, конечно, преданность своей цели». Между нами установились товарищеские отношения, изредка мы переписывались. Мои коллеги и я несколько раз участвовали в научных конференциях и симпозиумах, что проводились в Новгородском пединституте (университете) кафедрой русского языка, которую 30 лет возглавлял В.П. Жуков. И он со своими коллегами неоднажды выступал на конференциях в Гродненском университете. Как говорилось в «Вестнике Новгородского государственного университета» (2004, № 29, с. 131), «приятно и важно отметить созвучность основных теоретических положений двух фразеологических школ – Новгородской В.П. Жукова и Гродненской И. Я. Лепешева».

В 1978 г. вышла в свет книга В.П. Жукова «Семантика фразеологических оборотов» (кстати, ее тираж, даже по тогдашним меркам, довольно значительный: 58 000 экземпляров). Это было, несомненно, новое слово в тогда еще молодой отрасли языкознания – фразеологии. Здесь впервые глубоко и по-новому рассматривается семантика русских фразеологизмов. Автор раскрывает структуру фразеологического значения через его сопоставление с лексическим значением, подробно рассматривает такие смыслообъединяющие признаки фразеологического значения, как категориальное и оценочное. В отдельной главе книги семантические свойства фразеологических компонентов соизмеряются, сравниваются с соответственными признаками однозвучных слов свободного употребления. Еще в одной главе выясняются парадигматические и синтагматические отношения фразеологических единиц, на богатом фактическом материале исследуются фразеологическая полисемия в сопоставлении с многозначностью слова, явление вариантности и фразеологическая синонимия, сочетаемость фразеологизмов и т.д. В процессе изложения основных проблем фразеологической семантики нередко учитываются противоположные точки зрения, «с тем чтобы, во-первых, показать явление во всей его сложности, а во-вторых, раскрыть проблематичность вопроса с расчетом на творческую реакцию читателя». Анализируя значение фразеологизма, автор пользуется оригинальным методом аппликации (наложения), с помощью чего

устанавливается степень деактуализации компонентов в фразеологизме.

Этот же метод фразеологической аппликации является основой исследовательской базы второй монографии В.П. Жукова – «Русская фразеология» (М., 1986). Книга издана с министерским грифом как учебное пособие для студентов-филологов. В основном она опирается на тогдашнюю программу курса «Современный русский язык». Но в книге, кроме того, рассматривается ряд вопросов, которые дополняли и дополняют существующую программу. Здесь, например, исследуется вопрос о систематизации фразеологических единиц разной степени сложности, освещается уровневое положение фразеологизмов в языковой системе, показываются основные пути их образования, подробно анализируются фразеологизмы в семантическом, морфологическом и синтаксическом плане, дается типологическая характеристика компонентов, слов-компонентов и слов-сопроводителей, в связи с чем определяется шкала переходности (промежуточности) фразеологических единиц, и т.д.

Новое издание этой книги, которая сейчас рецензируется здесь, отличается от предыдущей прежде всего тем, что она значительно дополнена. Третья часть издания принадлежит перу сына Власа Платоновича – Анатолия Власовича Жукова, доктора филологических наук, профессора, заслуженного деятеля науки РФ. Сын, нынешний заведующий той же кафедры того же университета, славно продолжает традиции отца и успешно развивает дальше его фразеологическую концепцию.

В этой книге и новые главы IV, VI, IX, а также параграфы 3, 4, 5, 6, 34 очень важные, насущные, и прежние ничуть не утратили своей актуальности.

Во «Введении», веском и содержательном (35 с.), сжато обосновывается авторская концепция и, в связи с неразработанностью или неодинаковостью понимания многих исходных положений фразеологической теории, даются где краткие, а где и развернутые определения таких коренных понятий, как фразеологизм, воспроизводимость, идиоматичность, устойчивость, семантическая целостность, деактуализация, компонент, внутренняя форма фразеологизма. Здесь же, в отдельном параграфе, определяется объект фразеологии, ее объем и границы, рассматривается вопрос о фразеологизме в его отношении к иным языковым единицам, даются пять существенных языковых показателей как подтверждение того, что слова с фразеологически связанным значением характеризуются лексико-семантической и грамматической самостоятельностью, а

поэтому нет никаких оснований включать в фразеологию так называемые фразеологические сочетания (типа *закадычный друг).*

Поскольку многие исследователи выделяют отдельный фразеологический уровень (ярус), во «Введении» показано, что хотя фразеологизмы и имеют смысловые и формальные признаки уровневых единиц (слова и словосочетания), однако сами по себе не образуют отдельного языкового уровня. Рассмотрен вопрос о познавательной ценности фразеологизмов, они разделены в этом отношении на три группы – с нормальной, пониженной и повышенной ценностью; например, к третьей группе принадлежит беларусский оборот *ад яйца адліць* 'невероятно изворотливо уворовать, присвоить чужое', ибо в нем число слов в объяснительном минимуме большее за число фразеологических компонентов. Во «Введении» впервые освещаются и такие вопросы, как природа фразеологического знака, фразеологическое богатство и языковая личность.

Первая глава монографии посвящена истории изучения фразеологии в отечественном языкознании. В определенной мере к предыдущей примыкает глава, где анализируются взгляды В.В. Виноградова, Б.А. Ларина, Н.М. Шанского, В.Л. Архангельского на систематизацию фразеологизмов. Предлагается иная, авторская классификация фразеологического материала с выделением пяти основных типов фразеологических единиц, сделанная с применением упомянутого уже метода аппликации. Очень богатый теоретический материал, конкретизированный соответствующими примерами, находим в главе III, где подробно и обстоятельно рассматривается сложный вопрос о разнообразных способах и путях образования фразеологизмов, о причинах и механизме преобразования переменного словосочетания в фразеологизм.

Важное место в рецензируемой монографии занимают идеи фразеологической переходности, намеченные В.П. Жуковым еще в статье «О знаковости компонентов фразеологизма» (1975). Теперь они нашли свое воплощение в IV и VI главах, написанных А.В. Жуковым, а более широко и полно отражены в его монографии «Переходные фразеологические явления в русском языке» (Новгород, 1996), а также в «Лексико-фразеологическом словаре русского языка» (М., 2003).

Под фразеологической переходностью понимается реальная или потенциальная способность фразеологизма в той или иной степени сохранять либо воспроизводить смысловые и формальные свойства исходного словосочетания и его составляющих (слов и морфем). В работе показано, что отдельные «атавистические» проявления в компонентах (например, смысловой центр) объясняются

неравномерностью процесса деактуализации. В соответствии с этим вводится базовое понятие семантической редукции, в аспекте которого дается оригинальная типология компонентов, соответствующая различным видам семантической маркированности: категориальной, деривационной, прономинальной, лексической, семной и пр.

В главе VI более-менее подробно рассматриваются под общим понятием фразеологической переходности такие явления, которые трудно, а то и вовсе невозможно подвести под привычные, достаточно жесткие классификационные рубрики. Так, в отдельный параграф выделены фразеологизмы с лексически связанным значением, которые в свою очередь группируются в семь типов (например: *с открытым забралом, по пьяной лавочке).* Еще в одном параграфе исследуются фразеологизмы с общим аналитическим значением (типа: *видеть насквозь, находить общий язык).* О новизне и содержательности этой же главы говорят сами за себя заголовки других параграфов: «О семантической неопределенности слов и фразеологизмов», «Внутренняя форма и этимология фразеологизмов», «Дефразеологизация в русском языке», «Семантическое пространство слова и фразеологизма» и т.д.

Глава V посвящена семантической характеристике фразеологических единиц. Здесь, как и во многих иных местах книги, нередко внимание сосредотачивается на принципиальных вопросах, довольно спорных и не до конца решенных в современном языкознании. В главе VII дается морфологическая характеристика фразеологизмов, выясняется фразеологическая специфика видовых отношений в оборотах глагольного типа, определяется степень парадигматической активности различных разрядов фразеологических единиц. Особенно подробно описаны морфологические свойства глагольных и наречных выражений, дается морфологическая характеристика субстантивным и адъективным фразеологизмам.

Отдельно остановимся на главе VIII — «Синтаксическая характеристика фразеологизмов». Здесь определяются контекстуальные связи фразеологизма со словом, рассматривается управление при глагольных фразеологизмах, описывается структура предложений с глагольной фразеологией. В одном из параграфов главы показано, что фразеологизм как структурный элемент предложения вступает в определенные связи и отношения со словами контекста, подчиняется закономерностям лексико-грамматической сочетаемости. Валентные свойства довольно многих фразеологизмов бывают очень сложными. В позиционно-грамматическом отношении окружение может быть субъектное, объектное, обстоятельственное. С учетом синтаксических отношений между фразеологическими и лексическими единицами

выделены и описаны три типа значений: относительно свободное, валентно ограниченное и конструктивно ограниченное.

Отметим, кстати, что некоторые гродненские фразеологи, исследуя субстантивные и адъективные фразеологизмы, отдельно выделили еще один тип фразеологического значения – синтаксически обусловленное значение. Оно характерно для очень многих оборотов, наделенных яркой оценочностью, которые в силу этого специализируются в строго определенной синтаксической функции. Например, многочисленные субстантивные фразеологизмы исключительно или преимущественно выступают в роли именного сказуемого, а также обращения и приложения: «Табе, Андрэй, бачу... завод *як костка ў горле»* (Э. Ярошевич); «А ты, *божая кароўка,* не кіпі! І язык пачасаць нельга!» (И. Мележ); «*Святая прастата,* Піваварaў, мабыць, думаў, што на ваеннай карце ўсё абазначана» (В. Быков). Такие субстантивные обороты, как и слова-существительные с синтаксически обусловленным значением, могут употребляться и в роли подлежащего или дополнения, но при этом обязательно в сочетании с препозиционным местоимением-конкретизатором: «Слухай ты, што табе скажа гэты *пусты млын»* (К. Крапива); «Калі зловіш гэтага *сукінага сына,* дык цягні ў паліцыю» (Я. Колас).

Завершается книга главой «Русская фразеография» (глава написана А.В. Жуковым). Здесь впервые характеризуются, иногда с показом отдельных недостатков, все современные фразеологические словари русского языка. А их 11, и все они неоднотипные по своему назначению, охвату и источникам материала.

В заключение следует сказать, что эта монография по праву может квалифицироваться как фундаментальное исследование фразеологических единиц русского языка, а изложенные в ней обобщения и выводы целиком применимы и полезны при изучении фразеологии других языков, особенно славянских.

*К 60-летию профессора А.В. Жукова. Юбилейный сборник научных трудов.*

*– Великий Новгород, 2007, с. 173 – 177.*

## РАЗДЗЕЛ 3. ГІСТОРЫЯ

## КНІГА ПРА ТАЯМНІЦЫ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

Не так даўно ў мінскім выдавецтве «ФУАінформ» выйшла вялікая (памерам 560 старонак) кніга Вадзіма Дзеружынскага «Тайны беларуской[7] истории». У ёй разглядаюцца спрэчныя і малавядомыя аспекты ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага і Беларусі. Гэта, па сутнасці, цікавы, арыгінальны і абгрунтаваны аповед пра нашу гісторыю на працягу тысячы гадоў. У анатацыі да кнігі гаворыцца: «Многія беларусы не ведаюць, што наш народ да 1840 года называўся літвінамі, што ніякай «Беларусі» ў сярэднія вякі не існавала, а была Літва, да якой сучасная Рэспубліка Летува не мае адносін. Вялікае Княства Літоўскае стварыў прускі кароль Міндоўг, сама ж Літва з'явілася на тэрыторыі Заходняй Беларусі каля 1220 года, з міграцыяй сюды з Захаду палабскіх славян. Беларусы – не «ўсходнія славяне», а славянізаваныя заходнія балты. Аб гэтым і многім іншым, цікавым і важным для нацыянальнай свядомасці сучаснага беларуса, расказваецца ў кнізе, разлічанай на шырокае кола чытачоў».

На с. 24 чытаем: «Узяцца за гэту кнігу мяне прымусіла ўсеагульнае няведанне беларусамі сваёй уласнай гісторыі, што з'яўляецца агромністай перашкодай для трыумфу нацыянальнай свядомасці. Менавіта па гэтай прычыне Беларусь сёння – адзіная краіна на тэрыторыі былога СССР, дзе адкінуты свае гістарычныя нацыянальныя сімвалы (бел-чырвона-белы сцяг і полацкі праваслаўны герб «Пагоня»), нацыянальная назва парламента (Рада) і канстытуцыі (Статут), нацыянальная назва грашовых адзінак (талер і грош). Ва ўяўленнях большасці грамадзян Беларусі наша краіна з'яўляецца «фантомам», пазбаўленым свайго мінулага. У савецкі ж час паўсюдна ўбівалі ў галовы людзям выдумку пра тое, што Беларусь – «нарадзілася ў СССР» і да ўступлення ў Савецкі Саюз ніякай сваёй гісторыі не мела».

Аўтар імкнецца ачысціць менталітэт беларусаў ад бязглуздых міфаў, навязаных царызмам, захаваных і развітых савецкімі ідэолагамі. Вось некаторыя з іх.

1. Міф аб тым, што «беларусы, украінцы і рускія не проста роднасныя, але і брацкія народы». На самай справе літвіны-беларусы роднасныя толькі з мазурамі Польшчы і лужыцкімі сорбамі. Беларусы – заходнія балты, а рускія і ўсходнія ўкраінцы – славянізаваныя фіны.

[7] Менавіта такой арфаграфіі паслядоўна прытрымліваецца В. Дзеружынскі.

Гэта даказана аналізам генафонду народаў, а таксама параўнаннем дадзеных антрапалогіі, этнаграфіі, псіхалогіі.

2. Міф аб тым, што беларусы і ўкраінцы з'яўляюцца (разам з рускімі) «усходнімі славянамі» і паходзяць ад апошніх. У рэальнасці «ўсходнія славяне» не існавалі. Гэта палітычная выдумка царскіх ідэолагаў абвергнута навукай. Пры гэтым аўтар спасылаецца на даследаванне рускага акадэміка В.Л. Яніна, апублікаванае ў часопісе «Наука и жизнь», дзе вучоны даказвае, што ніколі не было агульнага для рускіх, украінцаў і беларусаў «древнерусского языка». Дададзім, што шавіністычная канцэпцыя трохмоўнай калыскі, трох плямёнаў адзінага народа – велікарусаў, маларосаў і беларусаў, канцэпцыя аб развіцці трох моў з адной калыскі – старажытнарускай мовы – набыла ў рускім мовазнаўстве, як пісаў прафесар Л.М. Шакун, «усеагульнае прызнанне; у савецкія часы ёй быў нададзены статус афіцыйнай дактрыны, улады адгарадзілі яе ад усякай крытыкі, бо яна як найлепей адпавядала іх імкненню сцвердзіць «адвечнае адзінства» ўсходніх славянаў, зліць «ізноў» іх мовы ў адзіную – рускую мову». Між іншым, украінскія палітычныя дзеячы, пісьменнікі, мовазнаўцы рашуча адмежаваліся ад гэтай не столькі навуковай, колькі палітычнай калыскавай канцэпцыі; напрыклад, былы прэзідэнт Украіны Кучма выдаў кнігу «Украіна – не Расія», а вядомы ўкраінскі пісьменнік Барыс Алейнік задае такое рытарычнае пытанне: «Як маглі сябе ўсведамляць расіянамі спаконвечныя ўкраінцы, якія здаўна жылі на берагах Дняпра, больш за сем стагоддзяў да нараджэння Масквы, заснаванай кіеўскім князем, і якая потым ужо стала сталіцаю Расійскай дзяржавы?» У многіх жа беларускіх вышэйшых навучальных установах і цяпер пры выкладанні так званай «гістарычнай граматыкі» па-ранейшаму пералічваюць і характарызуюць моўныя асаблівасці, што нібыта ідуць з калыскі трох моў.

3. Міф аб тым, што «беларусы вельмі падобныя па мове, культуры і гісторыі да рускіх». В. Дзеружынскі называе гэта «проста абсурдам». Канешне, сучасная беларуская мова, у значнай ступені зрусіфікаваная за савецкія часы, мае падабенства з рускай, але першапачаткова, генетычна яна куды больш блізкая да лужыцкай, украінскай і мазурскага дыялекту польскай мовы. Наша культура, сцвярджае аўтар, не мае нічога агульнага з рускай, а «агульная гісторыя» – гэта пастаянныя войны з Масковіяй. А на с. 372 пералічваюцца гэтыя войны паміж Масковіяй «за сабіранне рускіх земель» і ВКЛ: 1) у 1386-1372 гг.; 2) у 1406-1408 гг.; 3) у 1445-1449 гг.; 4) у 1492-1494 гг.; 5) у 1500-1503 гг.; 6) у 1507-1508 гг.; 7) у 1512-1522 гг.; 8) у 1534-1537 гг.; 9) у 1563-1582 гг.; 10) у 1609-1618 гг.; 11)

у 1632-1634 гг.; 12) у 1654-1667 гг. І дадаецца: «Як бачым, за 300 каляндарных гадоў адбывалася дванаццаць войнаў, што заняло ў суме 72 гады!»

4. Міф аб тым, што «ў беларусаў і рускіх здаўна агульная праваслаўная рэлігія». Але гэта – хлусня. Добрая трацiна беларусаў была каталікамі, а астатнія ж належалі да грэчаскай праваслаўнай веры Кіева, але не Масквы. З 1596 года літвіны-беларусы сталі уніятамі (разам з русінамі-ўкраінцамі), і толькі ў 1839 годзе (праз 243 гады) указам цара іх гвалтоўна «перавялі» ў царкву Масквы. І было гэта зроблена ў рамках праграмы рэлігійнага і этнічнага генацыду.

5. Міф аб тым, што «літоўцы ў ВКЛ прыгняталі беларусаў», а маскавіты (пераважна мардва і татары) «ратавалі іх ад прыгнёту жамойтаў», прычым «беларускі народ заўсёды цягнуўся да аб’яднання з рускім народам», г.зн. з мардвой Масковіі і татарамі Арды. Аўтар называе гэта «самай бязглуздай, недарэчнай выдумкай». Поўная назва нашай дзяржавы мінулых эпох – Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. Дзяржава з’ядноўвала тры яе часткі: Літву (адпавядае цяперашняй Беларусі), Русь (Украіну) і Жамойцію (Летуву). Карэнныя жыхары Жамойціі называлі сябе жмудзінамі і аўкштайтамі. Тэрытарыяльна яны займалі нязначную частку ВКЛ. У іх ніколі не было сваіх князёў. Шляхта Жамойціі, паводле «Перапісу войска ВКЛ 1528 года» складалася з 80% літвінаў (беларусаў) і 20 % жамойтаў. Да XVI ст. у жамойтаў не было пісьменнасці. Статуты ВКЛ да гэтага часу не перакладзены на летувіскую мову. Дык як жа ў такім разе можна гаварыць, што ў ВКЛ правілі, кіравалі, панавалі жамойты ды яшчэ «прыгняталі беларусаў»?!

Аналагічны міф бытуе і ў дачыненні да палякаў. Сцвярджаецца, што «ў Рэчы Паспалітай беларусы знемагаліся ад польскага прыгнёту» і таксама чакалі хутчэйшага вызвалення рускімі. На самай жа справе ніколі не было ніякіх неладоў паміж беларусамі і палякамі. Два народы жылі вякамі ў адной краіне без усякіх узброеных канфліктаў. А ініцыятарам стварэння Рэчы Паспалітай былі не палякі, а літвіны, бо бачылі ў гэтым адзіны сродак захаваць сваю дзяржаўнасць ад яе знішчэння Масковіяй (гэтак яна называлася да XVI ст., а афіцыйна Масковія перайменавана ў Расію толькі ў 1721 годзе. Вацлаў Ластоўскі ў знакамітай «Кароткай гісторыі Беларусі» (Вільня, 1910) піша, што нашы продкі дзесяць разоў (з 1401 года) спрабавалі схіліць Польшчу да стварэння саюзнай дзяржавы і дабіліся гэтага толькі на адзінаццаты раз у 1569 годзе.

В. Дзеружынскі адзначае: «Не палякі, а Іван IV «Жахлівы» пры захопе Полацка ў 1563 годзе знішчыў усё праваслаўнае духавенства

горада і большасць жыхароў. Не палякі, а маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч (яго ў Расіі афіцыйна называюць «тишайшим» і «добрейшим») у вайне 1654-1667 гг. знішчаў нашых продкаў па рэлігійнай прымеце. Па яго загадах нашых уніятаў, якія не жадалі прымаць веру Масквы, спальвалі ў храмах усіх гуртам, аж да грудных дзяцей. Па загаду цара выразáлі насельніцтва цэлых гарадоў, якія спачатку пад пагрозай расправы прымалі маскоўскую веру, а пасля адмаўляліся ад яе. Так было, напрыклад, у Брэсце. Нічога падобнага палякі ў нас ніколі не рабілі. І гэта цар Пётр І, а не палякі, учыніў разню духавенства ў полацкай Сафіі, а пасля ўзарваў наш старажытны храм. І не палякі, а рускі цар Мікалай І забараніў нам звяртацца да Бога на нашай мове, загадаў спальваць нашы Біблii, перакладзеныя яшчэ Францішкам Скарынам. І ён жа забараніў нашу назву Літву, а яго сын – назву «Белоруссия»».

Аўтар, аб’ектыўна ацэньваючы гістарычныя факты, падзеі, зазначае, што палякі толькі ў XX ст. сталі праводзіць шавіністычную палітыку ў адносінах да беларусаў і, на яго думку, з тае прычыны, што «наша нацыянальная свядомасць к таму часу ўжо была раздушана царызмам, многім з нашых продкаў ужо ўкаранілі ў мазгі не толькі пералічаныя вышэй міфы, але і вялікадзяржаўны расійскі менталітэт, пазбаўлены беларускага зместу. Гэта былі пагардлівыя адносіны не да літвінаў-беларусаў, а да этнічнага сурагату, які прыйшоў ім не змену».

Кніга складаецца з чатырох частак, у кожную з якіх уваходзіць шэраг раздзелаў. Некаторае ўяўленне пра змест першай часткі (яе загаловак – «Вытокі») даюць назвы раздзелаў: «Старыя спрэчкі», «Славяне, якіх няма», «У пошуках славян», «Беларусь не была Руссю», «Даследаванне генафонду» і інш.

Чытаючы гэтыя і іншыя раздзелы, адчуваеш выключную дасведчанасць аўтара, яго грунтоўнае веданне летапісаў, у тым ліку заходнееўрапейскіх, добрае знаёмства з поглядамі іншых даследчыкаў, з найноўшымі матэрыяламі, звязанымі з канкрэтным пытаннем. Дзе-нідзе аўтар гаворыць, што гэта ягоная версія, але амаль заўсёды яна мяне, чытача, пераконвае сваёй логікай выкладу, важкімі доказамі.

У кнізе паказана, што беларусы як этнас кампактна пражываюць на сваёй тэрыторыі 12 стагоддзяў. Наш этнас узнік у выніку зліцця заходніх балтаў – яцвягаў, дайноваў, мазураў, крывічоў. Да іх прыплюсоўвалася нязначная колькасць мігрантаў – прусаў, люцічаў, лужыцкіх сорбаў, славян Палаб’я і Памор’я. Усе яны разам,

сцвярджае аўтар, і стварылі беларускі этнас, які да 1840 года называўся ліцвінскім.

Пра яцвягаў (продкаў цяперашніх жыхароў заходняй і цэнтральнай Беларусі) сказана, што яны нікуды не зніклі, а ўвайшлі састаўной часткай у этнас літвінаў. Тое самае – і княства Дайнова, ад якога захавалася толькі імя сталіцы – Ліда. «А што яно азначае – ужо ніхто не ведае» (с. 204). А пра радзімічаў і дрыгавічоў аўтар піша, што гэта былі, хутчэй за ўсё, толькі адгалінаванні яцвягаў або крывічоў, бо ў летапісах нідзе не значацца назвы іх зямель.

Другая частка кнігі называецца «Наша Літва», а самы большы яе раздзел (60 старонак) мае назву «Адкуль з'явілася Літва?». Аўтар глыбока і дэталёва даследуе шматлікія гістарычныя працы, звязаныя з гэтай праблемай, і яшчэ на пачатку раздзела піша: «Для мяне відавочна – вытокі Літвы ў Палаб'і, у Цэнтральнай Еўропе». У шмат якіх выпадках удакладняецца даследаванне Міколы Ермаловіча пра ўзнікненне Літвы. Аўтар сваю выкладзеную версію лічыць «найбольш праўдападобнай» (с. 197).

У гэатай жа частцы кнігі грунтоўна разгледжаны і такія пытанні: «Хто правіў Жамонціяй?», «Адкуль з'явіліся беларусы?», «Забытая «Пагоня» і інш. У адным з раздзелаў ідзе цікавая размова пра толькі нядаўна расшыфраваны рунічны надпіс на загадкавай пячатцы Міндоўга, зробленай у сярэдзіне XIII ст.

Загаловак трэцяй часткі – «Цемра з Усходу», а адзін з раздзелаў называецца «Невядомая вайна 1654-1667 гадоў». Аргументавана аспрэчваюцца шавіністычныя выказванні некаторых сучасных расійскіх гісторыкаў, аўтар аднаўляе ўсю праўду пра гэту трынаццацігадовую агрэсію Масковіі супраць беларусаў, бязмежную жорсткасць захопнікаў. Вынікі вайны страшэнныя: больш як палова насельніцтва ВКЛ загінула ад рук акупантаў або ад голаду, холаду і эпідэміі чумы. Каля 300 тысяч рамеснікаў і сялян захопнікі забралі да сябе ў рабства. Наступіў катастрафічны заняпад нашай дзяржавы. «Лепшая частка нацыі, – піша В. Дзеружынскі, – загінула», а ў тых, хто ўцалеў, адбылася «сур'ёзная трансфармацыя праславутай талерантнасці беларусаў», іх «цярпімасці і да акупантаў».

Іншыя загалоўкі раздзелаў трэцяй часткі, дзе аб'ектыўна і па-новаму разгледжаны такія пытанні: «Літва і Кулікоўская бітва», «Як Іван Грозны «вызваляў» Полацк», «Што такое «Белая Русь»?», «Беларускія казакі», «Трагедыя Літвы».

Чацвёртая частка называецца «Ад Літвы да Беларусі». Не маючы магчымасці спыніцца хоць у двух словах на кожным з сямі раздзелаў гэтай часткі, пералічу толькі іх назвы: «БНР: страчаная

незалежнасць», «Як мы збіралі Беларусь», «Уварванне ў Заходнюю Беларусь (верасень 1939 года)», «Страты беларусаў», «СНД у 1944 годзе», «Невядомы Брэст», «Беларускія нацыянальныя рэаліі». Тут – вельмі важкі гістарычны матэрыял, заснаваны на раней невядомых ці малавядомых дакументах, на неабвержных фактах і лагічных разважаннях аўтара. Змест гэтых раздзелаў немагчыма пераказаць сцісла. Гэта трэба чытаць! А хто прачытае, той узбагаціцца і фактамі, і, што асабліва істотна, духам.

Набыць жа гэту кнігу можна ў кнігарнях Мінска і абласных гарадоў. На вокладцы значыцца, што па пытаннях набыцця кнігі можна звяртацца і па тэлефоне ў Мінску: (8-017) 292-71-62.

*Наша слова. 2010. № 7.*

## ЗАГАДКА БЕЛОЙ РУСИ

В 1991 году минское издательство «Полымя» опубликовало книгу «Імя тваё Белая Русь» (составитель Г.М. Саганович). Здесь собраны все известные на то время материалы, в которых речь идет о «Белой Руси», возникновении этого названия на беларусской территории, происхождении термина «Белая Русь» и т.д. В последнее время в различных изданиях, и иностранных в том числе, помещено еще около десяти научных работ, посвященных этой же «загадке Белой Руси» (А. Грицкевич).

Более-менее подробно рассматривается этот вопрос и в книге В.П. Лемтюговой «Тапонімы распавядаюць» (2008), а также в ее статьях «Чаму ты белая, Белая Русь?» (Роднае слова. 2008, № 1, с. 47–50), «Беларусь (Белая Русь)» (Наша слова. 2009, № 21). Правда, хотя В.П. Лемтюгова коротко и характеризует почти все версии происхождения термина, но ее наиболее интересует определительный компонент «Белая» в этом терминологическом сочетании и совсем не интересует «Русь». Она пишет: «Белый цвет сопровождает нас (беларусов) на протяжении всей жизни. Даже край наш издавна называется Белой Русью». Не сказано, однако, КЕМ называется. Академик Е.Ф. Карский писал в 1904 г.: «Простой народ не знает этого названия. На вопрос: кто ты? – простолюдин отвечает – русский, а если он католик, то называет себя либо католиком, либо поляком; иногда свою малую родину назовет Литвой, а то просто скажет, что он «тутэйшы», конечно, противопоставляя себя лицу, говорящему по-великорусски, как пришлому в западный край». Так что же: может, «издавна называли свой край Белой Русью», а после забылись? Нет! Как отмечает известный украинский филолог-славист

Р.А. Ильинский (1876–1937), здесь «не только никогда не употребляли «Белая Русь», но и чуждались этого наименования даже в официальной литовской терминологии».

Не употребляли названий «Белая Русь», «беларус» ни Ф. Скарина, ни С. Будный, ни Л. Сапега, ни другие ученые или политические деятели, нет этих слов ни в Статуте ВКЛ, ни в Литовской метрике. Зато, как зафиксировано в «Гістарычным слоўніку беларускай мовы» (т. 17), широко использовались слова «литвин» (в значении «житель Великого Княжества Литовского») и «литва» («население ВКЛ»). В «Этымалагічным слоўніку беларускай мовы» (т. 6) сказано, что этнонимы «литвины», «лицвяки», «литва» в большей степени относятся к юго-западной Беларуси, но распространяются и на всю Беларусь.

В некоторых германских хрониках средневековья и в трудах польских историков есть упоминания о Белой Руси. Но, как отметил беларусский правовед, доктор юридических наук Я.А. Юхо, многие из авторов этих работ «не знали достоверно, где находится Белая Русь». Так, известный польский ученый М. Меховский в «Трактате о двух Сарматиях» (1517), описывая Великое Княжество Литовское и Московскую державу, только один раз упоминает про Белую Русь, которая размещена «где-то между Уралом и Азовским морем».

Читая три названных выше работы В.П. Лемтюговой (текстуально они совпадают), замечаешь очевидную нестыковку. На одной странице говорится: из показаний печатных и рукописных источников вытекает, что в разные времена «Белой Русью» именовались такие земли, как Псковско-Новгородская, Смоленская, Полоцко-Витебская, Новгород-Северская, Киевская, Галицко-Волынская, Московия, и что только с XVI–XVII вв. это название начинает более конкретно привязываться к восточной и северо-восточной Беларуси. А в конце своего «расповеда» про Белую Русь сказано: «Трудно согласиться с мыслью, что одно и то же название долго кочевало по разным землям, пока наконец не нашло свое постоянное место... Имя «Белая Русь» было престижным титулом и своеобразной религиозной и политической визитовкой. Одним из основных претендентов на такое имя было древнее Полоцкое княжество, которое в 1044–1101 гг. достигло наивысшего расцвета... Нет сомнения, что «Белая Русь» как название первой кривичской державы появилось значительно раньше, чем свидетельствуют хроники, дошедшие до нас. Оно и дало имя нашей Отчизне – имя стародавнее, светлое, святое».

Думается, что название «Белая Русь» пришло на нашу территорию не с запада, как утверждает В.П. Лемтюгова, а с востока.

